# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №39 (148), 28 ВЕРАСНЯ 1994 ГОДА. КОШТ 30 РУБЛЁЎ




# ПРА ВАШУ І НАШУ АМЕРЫКУ

Прырода заўжды была, ёсьць, ды й заўжды будзе маім натхненьнем. Яна для мяне ёсьць рэлігія. Яе немагчыма пазьбегнуць поўнасьцю, а тым больш стварыць на палатне. Пазіраю ды захапляюся яе настроямі, сумнымі ды вясёлымі. Тады яе настрой ёсьць маім настроем, і я ўдыхаю яе ўсёю маёю сутнасьцю, каб пазьней перадаць гэта на палатне. Погляд амэрыканскіх індыянаў на прыроду вельмі падыходзіць мне. Прырода, зямля, зьвяры — належаць усім, і трэба жыць з прыродай у гармоніі. Калі ты што-небудзь бярэш ад прыроды — дык мусіш яго чым-небудзь вярнуць. Індыянская архітэктура стараецца насьледаваць прыроду, таму вельмі часта іхнія хаты проста зьліваюцца са скаламі і гарамі. У штаце Арызона і Н'ю Мэхіка я наведала амаль кожную індыянскую рэзервацыю, ела іхнюю ежу, захаплялася іхнімі традыцыйнымі танцамі, ды плакала тады, калі яны плакалі, што іх хацелі перавярнуць да хрысьціянства. Для іх гэта ёсьць абідай, бо ж яны й надалей вераць у сваіх "багоў", у сваіх духаў. Таму тэма індыянскіх рэзервацый для мяне ёсьць бязьмежна прываблівая, любімая. У ёй я бачу нашае мінулае, магчыма, якое было спакойным, пастаянным, забясьпечаным. Захапляюся я беларускімі касьцюмамі народнымі, казкамі, паданьнямі. Будучы далёка ад сваіх беларускіх людзей, цяжка маляваць карціны з беларускай тэматыкай. Але кожны раз, як я гляджу на здымкі сваіх суродзічаў — іх твары аднаўляюць у мяне веру ў шчасьлівую будучыню Беларусі.

**St.Tamara**

## СЬВЕДЧАНЬНЕ БЛІЗКАСЬЦІ НАШЫХ КУЛЬТУР

Стагановіч Тамара займае адметнае месца сярод амерыканскіх мастакоў. Яна нарадзілася на Беларусі. Разам з бацькамі ў 1950 г. эмігрыравала ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, атрымаўшы ў 1956 г. амэрыканскае грамадзянства. Унікальнасьць яе погляду на амэрыканскую культуру, гісторыю і сімвалізм, невычарпальную прыгажосьць пейзажаў Амэрыкі мае асаблівую цікавасьць як для беларусаў, так і для амэрыканцаў. Беларусь заўжды была крыніцай натхненьня твораў, якія прызнаны шэдэўрамі сусьветнага выяўленчага мастацтва. Ст.Тамара прывезла свае творы на Бацькаўшчыну ў той час, калі незалежная Беларусь актыўна асвойвае дух набытай дэмакратыі, мастацкай свабоды і адноўленай зацікаўленасьці багатым культурным мінулым. Талент, увасоблены ў творах, рэпрэзэнтаваных на выставе Ст.Тамары, зьяўляецца палымяным сьведчаньнем блізкасьці нашых культур. Натхнёная самаадданая праца дзеля яе арганізацыі зблізілі нашыя дзяржавы яшчэ больш і паклалі падмурак пашырэньню супрацоўніцтва ў будучым. Я спадзяюся, што гэтая выстава прынясе вам задавальненьне, якое ўжо мелі магчымасьць адчуць шмат амэрыканцаў, бачыўшых творы мастачкі.

**Конрад ТЭРНЕР,**
**дырэктар Амэрыканскага**
**Культурна-Інфармацыйнага Цэнтра**

Амбасада Злучаных Штатаў Амэрыкі
Мінск, Беларусь

Кожнае адкрыцьцё — ёсьць Час, пераадолены Вялікім шляхам, гэта доўгае, бясконца доўгае памкненьне да мэты...

І вось "адкрыта" апошняя перашкода, па-за межамі якой — новы, Бясконцы Сьвет.

Тамара Стагановіч сваёю творчасьцю адкрывае Беларусі Амэрыку, сваю Амэрыку — і Вашу, — нашу Амэрыку!

Гісторыя абавязвае чалавецтва асэнсаваць, што Сьвет адзіны і цэласны, асэнсаваць і зрабіць крок даверу дзеля супольнае працы, усеабдымнае радасьці ад шчасьця, адкрытага і свабоднага Сьвету.

Дзе Мір, як катэгорыя сусьвету будзе мець патрэбу ў таленце — адзінай агульначалавечай каштоўнасьці і вартасьці.

Дзе грамадства зможа ацаніць і даць годнае таленту месца.

**Элізабэт СМЭДЛІ**
**Фонд Сораса — Беларусь**

***Тамара Стагановіч (St. Tamara) нарадзілася на Наваградчыне. У Амэрыку прыехала ў 1950 годзе з бацькамі з лагера для перасяленцаў у Германіі. Скончыла Вэстэрн Коледж, Оксфард, з дыплёмам бакалаўра. Вучылася ў Н'ю-Ёркскім Універсітэце — Інстытуце Прыгожага Мастацтва. Скончыла Калумбійскі Універсітэт у Н'ю-Ёрку, з дыплёмам Магістра Прыгожага Мастацтва. Студыявала літаграфію і медзярыты ў Мастацкай Студэнцкай Лізе ў Н'ю-Ёрку, з Сонг Мой. Сябра многіх мастацкіх клубаў. У першых крытычных аглядах творчасьці Стагановіч-Кольбы, якія зьявіліся ў 1968 годзе на выставе ў галерэі "Аванты" ў Н'ю-Ёрку, яе адзначылі, як прадстаўніцу "абноўленага імпрэсіянізму нашых дзён".***

***Тамара Стагановіч выдатна адлюстравала беларускую тэматыку ў дзесятках палотнаў, напісала партрэт Францішка Скарыны да 450-годзьдзя беларускага друку, а ў Амэрыцы здабыла папулярнасьць як ілюстратар дзіцячае кнігі й аўтар паштовак. Тамара Стагановіч удзельнічае ў дзесятках выставаў па ўсёй Амэрыцы ды ўзнагароджаная вельмі прэстыжнымі амэрыканскімі дыплёмамі. У 1993 годзе яна адгукнулася на запрашэньне арганізатараў выставы "Жыве Беларусь", прысвечанай Першаму зьезду беларусаў сьвету і навечна перадала свой твор — трыпціх "Любоў, Вера, Надзея" Рэспубліцы Беларусь. Яго мастачка даруе ад сябе ды ўсяе свае сям'і Стагановічаў у памяць: бацькі Аляксандра Стагановіча старэйшага, брата Аляксандра Стагановіча малодшага ды пляменьніка Аляксандра Стагановіча III. Бацька Тамары, Аляксандр Стагановіч, быўшы Пасол, шчодры патрыёт, верны Беларусі да канца сваіх дзён, не дачакаўся гэтага сьвятога дня незалежнасьці. І таму самай запаветнай марай Тамары ёсьць шчырае жаданьне, каб праз яе твор Бацька зьяднаўся з роднай Беларусьсю. Трыпціх прываблівае высокім майстэрствам, натхнёнасьцю выкананьня, манументальнасьцю кампазіцыі і самае галоўнае — адухоўленасьцю. Гэтае жывапіснае палатно раскрывае бясконцасьць яе любові да роднай Зямлі. Аб гэтым сьведчаць і радкі з дароўнага ліста Тамары Стагановіч ад 13.VI.1993 г.: "Хай хоць мае карціны наведаюць Беларусь, хай хоць часьціна маёй творчасьці стане часткай маёй любімай Бацькаўшчыны".***



## ГІМН РАДЗІМЕ

Беларускае замежжа — яшчэ колькі гадоў таму амаль невядомае, стала тэмаю нашай вялікай цікавасьці. Магутная плынь беларускай культуры, набыўшы ўплыў іншых народаў і краін сьвету, захаваўшы нашу мову, мастацтва, прагу да жыцьця, любоў да радзімы, глыбока кранае нас.

Мы з радасьцю сустракаем на роднай зямлі творы Тамары Стагановіч, яе выставу "Амэрыка, мая Амэрыка" і ганарымся сапраўдным інтэрнацыянальным пачуцьцём нашай слаўнай Беларускі, якая так глыбока і пяшчотна прасякнута гарачай любоўю да людзей Зямлі, іх волі, свабодалюбства. Знайшоўшы сваю другую радзіму ў Амэрыцы, Тамара Стагановіч праўдзіва гаворыць аб тым, што цяжка і немагчыма пісаць аб Беларусі, жывучы далёка ад яе, таму яе цыкл твораў аб Амэрыцы ёсьць і своеасаблівы гімн Радзіме ўвогуле, фарбам Зямлі і Сьвету. Жыцьцё шпарка рухаецца ўперад, усё ідзе да таго, што кожны з нас будзе мець магчымасьць свабодна наведаць сваю і замежную радзіму, прымаць удзел у яе ахове, зберажэньні і стварэньні новых каштоўнасьцяў дзеля нашчадкаў сваіх і іншых народаў. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь з нецярплівасьцю чакае магчымасьці адкрыцьця пастаяннай экспазіцыі мастакоў Беларускага замежжа ў сваіх залах, а сёньня сардэчна вітае творы Тамары Стагановіч на яе выставе.

**Юрась КАРАЧУН,**
**дырэктар Нацыянальнага Мастацкага**
**музея Беларусі, заслужаны дзеяч**
**мастацтваў Рэспублікі Беларусь**

## СІМВАЛ НАЦЫІ

Для беларусаў — гэта Крыж Еўфрасіньні! Але нам неабходна яшчэ знайсьці яго. Дзе ён? Той, што дыяментамі зьзяе ў сэрцах і душах Беларусаў па ўсім Сьвеце! Мы знойдзем яго — праз далучэньне ўсіх Беларусаў да роднае Бацькаўшчыны!

Мяне вельмі кранае і радуе, што вяртае значную частку гэтага скарбу сваімі палотнамі Тамара Стагановіч. Гэта бясспрэчна беларускае мастацтва, па духу, па зьмесьце, па форме. Беларускае ад паўднёвых штатаў да паўночных акрэсаў ЗША.

Прыгажосьць — мера Сусьвету, але ж зьява глыбока нацыянальная. Я вельмі ўражаны гэтым мірным "сутыкненьнем" нашых кантынентаў і магу толькі марыць, каб далучэньне аднае дзяржавы да другой адбывалася адно праз узбагачэньне культурамі, праз мастацтва, прыгажосьць, праз шчырае жаночае сэрца!

**Пётра КРАЎЧАНКА,**
**экс-міністр замежных спраў**
**Рэспублікі Беларусь**

## ТАКОЕ "НЕ ЗАМЕЖНАЕ" МАСТАЦТВА...

На выставах, у якіх прымала ўдзел Тамара Стагановіч і дзе мне выпадала пабываць, у яе палотнаў заўсёды было сваё "аблічча", сваё адметнае месца. Акрамя відавочнага таленту і бясспрэчнага ўмельства, у яе творах вельмі дарагімі для мяне былі ціхая жаноцкасьць і глыбокая беларускасьць.

Дзіва ды і толькі — чалавек, усё сьвядомае жыцьцё якога прайшло за акіянам, далёка ад Бацькаўшчыны; так тонка і так пасьлядоўна нясе ў сабе адчуваньне роднай зямлі, характар свайго народа! Зусім "не замежныя" ў Тамары Стагановіч і кволы дзьмухавец, і пышныя вясновыя кветкі, і сьціплыя асмужаныя краявіды. Перанятая ад бацькоў памяць аб непаўторным кутку продкаў, аб сваіх спрадвечных каранях дыктуюць ёй сьветлую замілаванасьць жыцьцём, малады, невычэрпны аптымізм, амаль дзіцячы давер да першароднасьці фарбаў беларускіх лугоў і палёў, пералескаў і гародчыкаў...

І вось сабраны за многія гады "букет" прывезены на Радзіму, з паклонам паднесены маці-Беларусі. Дзякуй за гэта, Тамара!

**Генадзь БУРАЎКІН,**
**намесьнік Міністра культуры і друку**
**Рэспублікі Беларусь, былы Пастаянны**
**прадстаўнік Беларусі пры ААН**

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

## ПАПЛЕЧНІКІ ГЕРАСТРАТА?

Дзень за днём, тыдзень за тыднем мінаюць у рэдакцыйных клопатах і мітусні, а тым часам над галовамі журналістаў збіраюцца чорныя хмары ў выглядзе дзяржаўных клопатаў пра бюджэт, у якім "клопат" пра беларускія выданні выглядае як поўнае ігнараванне рэалій сённяшняга жыцця.

А яны сумныя. Гаварыў жа ў адным з артыкулаў народны паэт Ніл Гілевіч пра тое, што ён у тысячу першы раз тлумачыць — народ без мовы загіне як народ! Мы можам таксама ў тысячны раз паўтарыць аксіёму — беларускія выданні без дзяржаўнай падтрымкі загінуць, бо суцэльная русіфікацыя давяла нашу мову да межаў поўнага знішчэння, і толькі праз дзесяцігоддзі карпатлівага клопату пра яе, пра беларускія школы мы можам знайсці масавага чытача, хаця ў літаратурных і мастацкіх выданнях ва ўсім свеце масавага чытача няма. Нядаўна я пісала пра акцыянаванне газет у Славакіі — аднак жа орган славацкіх пісьменнікаў фінансуецца дзяржавай.

Раздумваючы над тым, ці шмат чытачоў набудзе "ЗНО" — дадатак, які, на мой погляд, робіць сёння вельмі патрэбную для культуралогіі Беларусі справу, — я ўпэўнівалася, што беларускае асветніцтва не хвалюе нашых высокіх фінансавых чыноўнікаў. Доказ? Калі ласка: засакрэчаны дакумент ад 12.09.94 г. за N 02 — 6/226, за подпісам выконваючага абавязкі міністра фінансаў Н.Румаса, які называецца (вядома ж, напісаны па-руску, бо адолець "гэтую мову" яны не могуць) так: "О порядке и сроках представления прогнозных расчетов по доходам к проекту бюджета на 1995 год".

У гэтай паперы прапануецца не толькі і не проста скараціць выдаткі на фінансаванне рэдакцый рэспубліканскіх газет і часопісаў, але і "перевести их на самоокупаемость", што роўна закрыццю гэтых самых газет і часопісаў.

Паколькі бізнес у Беларусі не набраў сілы і яму чыняцца ўсялякія перашкоды, а беларускіх свядомых бізнесменаў — увогуле адзінкі, беларускаму культуралагічнаму выданню амаль немагчыма знайсці спонсараў. Колькі іх, гатовых дапамагчы? "Дайнова", "Кросны", "Медэя"? А ў гэткім становішчы, як "Культура", знаходзяцца "ЛіМ", "Спадчына", "Полымя", "Мастацтва"...

Няўжо ўсім ім таксама не знойдзецца месца пад беларускім сонцам?!

Я ведаю, што Міністэрства культуры і друку спрабуе абараніць гэтыя выданні. Але што дадуць у выніку ягоныя спробы, калі само міністэрства цяпер як бы ў "падвешаным стане" і ўсе чакаюць зменаў? А змены могуць быць, як ужо даказалі некаторыя прызначэнні, неспрыяльныя для беларускай нацыянальнай справы. Што ж — тады гэты ўрад увойдзе ў гісторыю прагрэсу як паплечнік Герастрата, — іх, на жаль, удосталь напладзіла чалавечая цывілізацыя.

На жаль, удосталь было і Герастратаў беларускай гісторыі і культуры, розных там булгарыных, бэндаў, саланевічаў, абэцэдарскіх.

Няўжо гісторыя паўтараецца?

**Вольга ІПАТАВА**




## АЛЁ, СЛУХАЕМ ВАС!

Тэлефонныя званкі ў рэдакцыю з кожным днём становяцца ўсё больш трывожнымі. Занепакоеныя тонам розных афіцыйных паведамленняў, выступаў і інтэрв'ю найвышэйшых службовых асобаў дзяржавы, чытачы пытаюцца: няўжо зноў навісла пагроза над нацыянальнымі святынямі — гербам і сцягам? Няўжо дзяржава наладзіць крыжовую выправу супраць гістарычнай памяці народа? І ці не запалаюць кастры інквізіцыі, у якія паляцяць падручнікі па гісторыі краіны?

Самае простае, што мы маглі б адказаць чытачам, што гэтыя пытанні не да нас. Але нават намёк на гэта выклікае зваротнае пытанне, як кажуць, ва ўпор: якая пазіцыя газеты ў гэты трывожны час? Думаецца, уважлівы чытач, не мае ніякіх падстаў засумнявацца ў нашых перакананнях. Але паспрабую сказаць цвёрда і канкрэтна яшчэ раз.

Відавочна, кожны чалавек у вольны час, асабліва калі яго зашмат, да прыкладу, у пенсіянераў, мае права рабіць усё, што яго зрэляксаваная фантазія падкажа, — вырошчваць кветкі, разводзіць трусоў ці ўдасканальваць свае навыкі ў выяўленчым мастацтве. Нават вынаходзіць даўно вынайдзеныя законы геральдыкі.

І ўпрыгожвайце сцены сваіх наменклатурных кватэр, спадары дэпутаты ад так званай ветэранскай арганізацыі, вамі прыдуманымі сцяжкамі, дадавайце зялёненькія ці блакітныя фарбы, чаго душа пажадае ці ваша настальгія па райкамаўскіх буфетах. Пакінем у спакоі вашае і нашае мінулае, але не чапайце, не зневажайце таго, што ёсць сімвал дзяржавы, што з'яўляецца памяццю пра яго гісторыю, святыняй дня сённяшняга і гарантам нашай будучыні. Вас на гэта ніхто не ўпаўнаважваў, і не гаварыце ад імя ўсіх ветэранаў. Прынамсі, мая мама, ветэран працы, якая аддала больш за сорак гадоў жыцця школе, вам забараняе гэта рабіць. І якія б салодкія сны пра СССР ці БССР вам ні сніліся, якія б кумачы ні развяваліся ў вашых уяўленнях, назад дарогі няма. І не каліце ў сэрца тых, для каго незалежная Беларусь з яе шматпакутнай і авеянай вялікай славай сімволікай стала сэнсам і надзеяй жыцця. Бел-чырвона-белы сцяг стаў народным. Вы б у гэтым пераканаліся, каб прыйшлі на футбол мінскага "Дынама" з рымскім "Лацыо". Ці не таму, што стадыён палыхаў бел-чырвона-белымі колерамі, наша каманда сыграла прыстойна з вельмі моцным супернікам? Я быў шчаслівы, ідучы пасля матча разам з тысячамі маладых беларусаў пад гэтымі колерамі, як радуюся, калі бачу наш сцяг сярод публікі на канцэртах беларускіх рок-гуртоў ці на капоце прэзідэнцкага "Мерсэдэса".

Павага да сімволікі краіны існуе найперш, сярод звычайных людзей. Што тычыцца чыноўнікаў, якія павінны былі б працаваць дзеля ўзмацнення яе аўтарытэту, а значыць, дзеля патрыятычнага выхавання нацыі, то яны, здаецца, наадварот, учыняюць правакацыі. Нацыянальныя святы — Дзень Перамогі і Дзень вызвалення Беларусі — ператвараюць ледзь не ў рэваншысцкія антыдзяржаўныя шэсці пад штандарамі неіснуючай дзяржавы з празрыстым падтэкстам. Тыя ж, а сярод іх і шаноўныя ветэраны, хто хацеў ушанаваць вялікае, гераічнае мінулае нашай Радзімы пад яе дзяржаўным сцягам, атрымалі штурхалі ў грудзі. А ў наступны раз, ужо на Дзень вайсковай славы 8 верасня, у дадатак і абвінавачванне ў "палітычным шабашы".


Мал. Дар'юша ПЕТРАКА

Параўноўваю сёлетнія Дзень Канстытуцыі ў Польшчы і Дзень Перамогі ў Беларусі (адлегласць паміж святамі — адзін тыдзень). Невялічкі гарадок Бельск-Падляшскі быў завешаны дзяржаўнымі сцягамі Польшчы ў такой ступені, што за імі, здаецца, не было відаць нават вясновай зеляніны. У Дзень Перамогі ў Беларусі галоўны праспект нашай сталіцы быў сарамліва аформлены выцвілымі рознакаляровымі анучамі, нібыта святкавалі дзень цырка-шапіто. Прайшоўшы ледзь не ўвесь праспект Скарыны, я ўбачыў толькі адзін раз сцяг самастойнай дзяржавы — на будынку Нацыянальнага банка. Што мы выхоўваем? Дзіва што, пасля імпрэзы "Стрытбола" ля Палаца спорту я назіраў, як па кінутым на зямлю дзяржаўным сцягу прайшоў з дзесятак чалавек. Як па сцягу, так і па зямлі нашай будзем дазваляць таптацца бруднымі ботамі? У халуйскай паставе размаўляць з суседнімі дзяржавамі, называючы іх "старэйшымі братамі"? А ў адказ атрымліваць мянушку "краіны агуркоў?" Яно так і далей будзе, калі мы самі не пранікнемся павагай да нашай гісторыі, гісторыі адной з наймагутнейшых і дэмакратычных дзяржаў Еўропы ў мінулым. Можна, вядома, кінуць спачатку ў макулатуру, а пасля і ў касцёр падручнікі. Але, па-першае, саму гісторыю туды не кінеш, па-другое, вопыт чалавецтва сведчыць, што "напісанае застаецца". Успамінаю студэнцкія гады, калі па ўсім Савецкім Саюзе выкідвалі ў макулатуру (а то і палілі) кнігу Салжаніцына "Адзін дзень Івана Дзянісавіча". З той макулатуры я яе набыў за пляшку "пладова-ягаднага". Не, я не хачу, каб моладзь сваю гісторыю набывала за чарговую пляшку, цяпер ужо "Звера" або "Распуціна". Сотні, тысячы людзей ужо маюць гісторыю нашу не толькі на паперы, а і ў свядомасці. І будзем перадаваць яе тым, хто ў ёй мае неабходнасць. А неабходнасць, і тут я не перабольшваю, у ёй маюць усе. Толькі ведаючы праўду, можна пераступіць праз крыўды, пазбавіцца недагаворак і ладзіць сумленныя адносіны з той жа Расеяй. Ведаем мы, ведаюць немцы праўду пра другую сусветную вайну. А таму і дачыненні паміж нашымі дзяржавамі і народамі сталі цывілізаванымі.

Дык чаму мы не павінны ведаць праўду пра Воршу ці вайну XVII стагоддзя, у якой загінула больш за палову беларусаў, пра падзелы Рэчы Паспалітай і пачатак апошняй вайны? Я хачу святкаваць і Дзень Перамогі над фашысцкімі акупантамі, і ўгодкі бітвы пад Воршай вольна, а не ў клетцы "гайд-парка" (дзе-небудзь ва Уруччы, у музеі камянёў?).

Дабрабыт любой краіны, а вопыт цывілізаванага свету ў тым пераконвае, пачынаецца з патрыятызму, ахопленасці грамадзянаў агульнай нацыянальна-дзяржаўнай ідэяй. Хочацца, каб гэта разумелі не толькі асобныя свядомыя інтэлігенты, а і тыя, хто стаіць на чале дзяржавы. Каб яны спрыялі не правакацыйным канцэртам папсы ў Дзень незалежнасці ля Палаца спорту з вядучым — расейскім акцёрам, з дэпутатамі Думы суседняй дзяржавы і без нашых, з кінутымі ўсяго толькі "на затраўку" некалькімі песенькамі на дзяржаўнай мове, а потым працягнутай вакханаліяй "а ля расейская папса". Мы чакаем, каб прэзідэнт загаварыў нарэшце не на замежнай мове з іранічным выкарыстаннем асобных слоў свайго народа, а на дзяржаўнай мове.

Каб былі прыняты законы ў абарону нацыянальных святыняў (сімволікі, гісторыі, мовы), а сам прэзідэнт стаў гарантам іх выканання. Каб кожны антыканстытуцыйны крок сурова караўся. З гэтага пачынаецца будаўніцтва дзяржавы. Інакш нас і надалей будуць называць "краінай агуркоў", у што і самі затым паверым. Што далей? "Дальше тишина..." — сказаў вялікі класік.

Вось на такіх пазіцыях мы стаім і будзем стаяць, шаноўныя чытачы. Праўда, калі нас за пачуццё годнасці не адправяць у макулатуру, а, мо нават, і ў касцёр інквізіцыі...

**Вячаслаў РАКІЦКІ,**
**член рэдкалегіі,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

**Напрыканцы жніўня**

Калегія Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь пастанавіла прысвоіць званне "народны самадзейны калектыў" ансамблю народных інструментаў "Народныя музыкі" Ляхавіцкага гарадскога Дома культуры, фальклорнаму ансамблю "Весялухі" Светлагорскага раённага Дома культуры і эстрадна-сімфанічнаму аркестру Баранавіцкай дзіцячай музычнай школы N 1. Званне "ўзорны самадзейны калектыў" прысвоена дзіцячаму тэатральнаму калектыву Лідскага гарадскога Палаца культуры Гродзенскай вобласці і дзіцячаму інструментальнаму ансамблю "Званочак" Мірнаўскай дзіцячай музычнай школы Баранавіцкага раёна.




**1 кастрычніка**

У Беларускім універсітэце культуры маецца адбыцца навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Бібліятэкар у сучасным грамадстве", прысвечаная 50-годдзю з дня заснавання факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм Беларускага універсітэта культуры. На канферэнцыі плануецца разгледзець пытанні павышэння прэстыжу прафесіі, праблемы падрыхтоўкі бібліятэчных кадраў, а таксама сучасны стан і перспектывы развіцця бібліятэчна-інфармацыйнай дзейнасці ў нашай краіне.

**У верасні**

Выйшлі з друку восьмы і дзевяты нумары штомесячнага бібліяграфічнага бюлетэня "Новыя кнігі Беларусі", які рыхтуюць супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Традыцыйна ў ім адлюстроўваюцца навінкі беларускага друку, рэцэнзіі на іх, змяшчаюцца матэрыялы да памятных датаў краіны. Асаблівую цікавасць у карыстальнікаў маюць дадаткі да паказальніка. У восьмым нумары — гэта рэкамендацыйны спіс літаратуры па тэме "Прыродныя багацці Беларусі", у дзевятым — спіс па тэме "На зямлі беларускай у згодзе", прысвечаны праблемам нацыянальных меншасцей Беларусі. Варта таксама дадаць, што ў жніўні выйшаў доўгачаканы сёмы нумар паказальніка, дадатак да якога называецца "Памятныя даты беларускага календара".

**24 верасня**

У Баранавіцкім гарадскім Доме культуры прайшоў другі тур дабрачыннага марафона, мэтай якога з'яўляецца дапамога малазабяспечаным сем'ям. Першы тур марафона прайшоў у сёлетнім чэрвені. Вялікую дапамогу ў арганізацыі першага тура аказала царква "Новае жыццё". У арганізацыі другога тура прынялі ўдзел камерцыйныя структуры горада: шматпрофільнае вопытна-прамысловае прадпрыемства "АРС", прамысловае прадпрыемства аптовага гандлю "Актыў-апгандаль", Камвестбанк, Фонд сацыяльнага развіцця, малое прадпрыемства "Макс", Прамысловы будаўнічы банк. Завершыцца марафон у лістападзе. Ініцыятарам акцыі выступілі супрацоўнікі Баранавіцкага гарадскога Дома

## КОНКУРС
### *у галіне гуманітарнай адукацыі і гуманітарных навук*

***Конкурс праводзіцца "Фондам Сораса-Беларусь" з мэтай вылучыць перспектыўных маладых гуманітарыяў, аказаць фінансавую падтрымку іх імкненню да прафесійнага росту і даць магчымасць выявіць сябе ў выбранай галіне ведаў.***

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца маладыя гуманітарыі, не маючыя вучонай ступені (студэнты, аспіранты, выкладчыкі), ва ўзросце да 30 гадоў, здольныя да самастойнай творчай дзейнасці і арыентаваныя на сур'ёзную прафесійную дзейнасць у адной з гуманітарных дысцыплін.

На конкурс прадстаўляюцца праекты, што ўключаюць у сябе:

1. Тэму навуковага або навукова-метадычнага праекта з абгрунтаваннем яе актуальнасці (1 — 2 друкаваныя старонкі);

2. Кароткі план-праспект мяркуемай работы (да 3 друкаваных старонак);

3. Узор скончанай аўтарскай работы ў аб'ёме да аднаго друкаванага аркуша;

4. Звесткі аб аўтары (прозвішча, імя і імя па бацьку, месца працы ці вучобы, адукацыя, сфера творчых інтарэсаў, хатні адрас і тэлефон).

На конкурс матэрыялы падаюцца ў трох экземплярах і аўтарам не вяртаюцца.

Пераможцы конкурсу атрымаюць гранты тэрмінам на 6 месяцаў, пачынаючы са студзеня 1995 года: II катэгорыі — 50 долараў ЗША на месяц, I катэгорыі — 30 долараў ЗША на месяц. Інфармацыю аб парадку атрымання грантаў пераможцы конкурсу атрымаюць да 10 снежня 1994 года. Мяркуецца апублікаваць найбольш значныя працы, выкананыя ў рамках конкурсу.

***Тэрмін падачы праектаў — з 20 па 30 лістапада 1994 года па адрасе: 220005, Мінск, вул.Казлова, 7, кв.101. "Фонд Сораса-Беларусь".***

СІТУАЦЫЯ

# КАЛІ БУДЗЕ РЫНАК — НЕ СПАТРЭБЯЦЦА І КРЭДЫТЫ

У апошнія гады на Беларусі неаднаразова праводзіліся розныя семінары, навукова-практычныя канферэнцыі і да т.п. мерапрыемствы, прысвечаныя ўсемагчымым эканамічным праблемам. Вядома, розныя айчынныя эканамісты, тэарэтыкі і практыкі эканомікі з бліжэйшага і дальняга замежжа прапануюць зусім не аднолькавыя шляхі і падыходы. Але ў галоўным яны адзіныя: неабходна праводзіць прыватызацыю і фінансавую стабілізацыю, ствараць спрыяльную для вытворцаў падатковую сістэму, дапамагаць усталяванню інстытутаў канкурэнтнага рынку, адмовіцца ад непасрэднага ўмяшання дзяржавы ў вытворчы працэс — карацей, здзяйсняць сапраўдныя рынкавыя рэформы, што значыць перайсці ад савецкай эканомікі да эканомікі цывілізаванай. На жаль, гэты пераход у нас пакуль нават не распачаты. Ясна адно: пры такіх умовах сусветнае супольніцтва з намі супрацоўнічаць не будзе, і на долю Беларусі выпадзе стаць "бананавай рэспублікай" у цэнтры Еўропы.

Гэтыя вядомыя акалічнасці пацвердзіла сумесная прэс-канферэнцыя старшыні праўлення Нацыянальнага банка С.Багданкевіча і прадстаўніка Міжнароднага валютнага фонду на Беларусі пана Мідлкоапа. Спрэчак паміж імі не было, але два вядомыя спецыялісты глядзелі на нашу эканамічную сітуацыю трошкі ў розных ракурсах: першы знутры, а апошні трохі з боку, што натуральна.

С.Багданкевіч адзначыў, што і Сусветны банк, і МВФ падтрымаюць Беларусь толькі тады, калі мы зразумеем неабходнасць вырашэння макраэканамічных праблемаў: будзем прымаць меры па спыненні інфляцыі і стабілізацыі валютнага курсу. Сапраўдная стабілізацыя, нагадаў С.Багданкевіч, — гэта 3 працэнты інфляцыі ў год, але для нас станецца стабілізацыяй 5 — 7 працэнтаў у месяц, і на гэты ўзровень, на думку старшыні Нацбанка, можна выйсці ўжо да наступнага чэрвеня. Аднак рычагі стабілізацыі знаходзяцца не ў Нацбанку, а ў прэзідэнта і ўрада. Акрамя згаданага, С.Багданкевіч лічыць неабходным прыняць урадавую праграму падтрымкі вытворчасці тавараў народнага спажывання і платных паслуг, ільгатаванне падатковых працэнтных ставак, падтрымку новых суб'ектаў эканомікі. Далей С.Багданкевіч заявіў, што трэба "адмовіцца ад ліцэнзавання прадпрымальнікаў, трэба іх толькі рэгістраваць, трэба абараніць іх ад бюракратаў" — г.зн. перайсці да сапраўды свабоднай эканамічнай дзейнасці. Станіслаў Антонавіч адкрыта сцвердзіў нздольнасць дзяржаўных структураў кіраваць эканомікай і адзначыў, што менавіта ў выніку дзяржаўнага кіравання ў нас няма пялёнак і цвікоў, і ў той жа час вырабляецца маса прадукцыі, якая не запатрабуецца спажыўцамі і ляжыць на складах. Таксама старшыня Нацбанка пацвердзіў сваё агульнавядомае негатыўнае стаўленне да аб'яднання грашовых сістэмаў і дадаў: "Мая прапанова ўладам — заканадаўча абвясціць беларускі рубель адзіным плацёжным сродкам".

Супрацоўніцтва з МВФ С.Багданкевіч лічыць задавальняючым, і ў тым, што яно прытармазілася, вінаватыя мы, а не Фонд. Калі мы ўзгаднім ўзаемапрымальную праграму выйсця з крызісу (а яна, як падкрэсліў Багданкевіч, патрэбная ў першую чаргу нам самім, а не МВФ), — мы будзем мець фінансавую падтрымку.

Тое, што разумее С.Багданкевіч, пацвердзіў і пан Мідлкоап: ніякай дапамогі не будзе, пакуль не будзе ўпэўненасці, што яна не акажацца марнатраўствам грошай і бязглуздымі ўліваннямі ў бесперспектыўную эканоміку. Гэта я коратка перадаў адназначны сэнс, а літаральна пан Мідлкоап выказваўся больш мякка і больш падрабязна. Праграма Фонду, адзначыў ён, — гэта справа даверу, і намеры МВФ супрацоўнічаць залежаць ад надзейнасці краіны. Праграма звычайна складаецца з набору мераў са строгімі часавымі рамкамі іх ажыццяўлення. МВФ улічвае спецыфіку, індывідуальныя асаблівасці краін, для якіх робіцца праграма, але, сцвярджае пан Мідлкоап, ёсць пэўныя правілы эканомікі, якія дзейнічаюць ва ўсім свеце. Пры гэтым прадстаўнік МВФ зазначыў, што Фонд не навязвае сваіх праграмаў, і што калі ўрад у нейкай краіне самастойна робіць добрую праграму, дык МВФ прымае яе і аказвае фінансавую падтрымку.

У адказе на пытанне, якія крокі патрэбныя, каб прывабіць заходні капітал, пан Мідлкоап назваў тры канкрэтныя ўмовы: стабілізацыю грошай, выразнае вызначэнне правоў уласнасці і льготную падатковую сістэму. А галоўнае, падкрэсліў пан Мідлкоап, — гэта зноў жа давер; іншаземец павінен паверыць, што ў гэтую краіну выгадна інвеставаць грошы, а гэта магчыма толькі пры стабільных і трывалых прававых гарантыях.


Мал. З.Янушэўскага

Прадстаўнік МВФ у нашай краіне спыніўся і на яшчэ адным важным пытанні — на вялікім патэнцыяле беларускага суверэнітэту, г.зн. на тым, што, на жаль, кепска разумеюць некаторыя нашы мясцовыя палітыкі і эканамісты. Пан Мідлкоап зазначыў, што Беларусь дзякуючы свайму геапалітычнаму становішчу мае перавагі нават перад заходнееўрапейскімі краінамі. Прамысловыя магчымасці Беларусі, заўважыў пан Мідлкоап, з'яўляюцца большымі за той прадукт, які тут вырабляецца. Інжынерных ведаў на Беларусі, на думку пана Мідлкоапа, хопіць, каб вырабляць якасныя тэлевізары і "Мерседэсы" — але не хапае тэхнічнага абсталявання і спрыяльнай эканамічнай сістэмы. Пан Мідлкоап заявіў, што ад цяперашняй эканамічнай палітыкі больш за ўсіх церпяць якраз тыя людзі, аб якіх быццам бы клапоцяцца шляхам папулісцкіх мераў "сацыяльнай абароны", і што пры рынкавай палітыцы Беларусь дасягне такіх вынікаў, што і крэдыты МВФ не будуць ёй патрэбныя. Застаецца пажадаць, каб вядомая ісціннасць гэтага сцвярджэння, увогуле не панам Мідлкоапам выдуманая, стала хутчэй зразумелай і ўраду, і грамадству.

І, нарэшце, інфармацыя чыста ўнутраная: як сказаў Багданкевіч, даныя, якія публікуюцца ў газетах наконт афіцыйнага курса валют, з'яўляюцца недаставернымі — на самой справе наяўны курс Нацбанк устанаўлівае, зыходзячы з сярэдняга курсу камерцыйных банкаў.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# НАЗІРАННІ АБЫВАЦЕЛЯ

### ЖЫЦЦЁ — ГЭТА РУХ!

Эканоміка і палітыка. Яны за ўсю гісторыю цывілізацыі існавалі ў непарыўнай сувязі. Раней і цяпер палітыкі ў барацьбе за ўладу спрабавалі займець падтрымку народа, абяцаючы дабрабыт. Калі кіравацца дэмакратычным шляхам, то, каб выканаць абяцанні, трэба рабіць смелыя крокі ў эканоміцы...

Напэўна, тое, што Рэспубліка Беларусь перажывае сур'ёзны эканамічны крызіс, разумеюць не толькі "так званыя" дэмакраты, але і кансерватары, якія завуць сябе "левымі". І зараз усяму грамадству разам з прэзідэнцкай камандай, кабінетам міністраў, парламентам неабходна прыкласці ўсе намаганні, каб хутчэй падняць эканоміку.

### ПРЭЗІДЭНТ І КАМАНДА

Многа спрэчак было ў нашым парламенце наконт таго, ці патрэбны нам прэзідэнт. Так ці інакш, Беларусь стала прэзідэнцкай рэспублікай. Передвыбарчыя страсці сцішыліся, час і абставіны прыспешваюць прэзідэнцкую каманду, патрабуючы хуткай рэакцыі і рашучых дзеянняў. Не пазайздросціш у дадзенай сітуацыі кіраўніку дзяржавы — наабяцана шмат, а выканаць...

Прымусіць працаваць эканамічныя законы валявым намаганнем немагчыма. Вопыт шокавых тэрапій краін Усходняй Еўропы пераконвае — хуткія рэформы вядуць да кароткатэрміновага і даволі рэзкага пагаршэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, але потым настае стабілізацыя і актывізацыя эканомікі. Дзяржава багацее, больш заможнымі робяцца яе насельнікі. Але ж столькі гадоў змарнавана. Аўтсайдэру цяжэй наганяць тых, хто далёка прайшоў наперад. Спатрэбіцца прыкласці шмат волі, сіл, нарэшце, цярплівасці, каб не зламацца на цяжкой дыстанцыі. Ці вытрымае Беларусь? Ці здолее стрымаць яшчэ большае збядненне і размежаванне нашае грамадства? Але ж на разважанні і эксперыменты часу болей няма. Трэба ўжо дзейнічаць...

### ВЫКАНАЎЧАЯ ЎЛАДА

Найбольш цяжкая праца па ажыццяўленні пакуль што не існуючай, але спехам распрацоўваемай эканамічнай праграмы ляжа на Саўмін. Са старых кіраўнікоў там мала хто застаўся. Навучаная няўдалым вопытам папярэднікаў нешта чакаць і шмат абяцаць новая выканаўчая ўлада хутчэй за ўсё абярэ новую тактыку. Спачатку разбярэ завалы, якія пакінуў стары кабінет. У "спадчыну" дасталася "прыватызацыя", якая амаль што не зрушылася з месца, адсутнасць фінансава-крэдытнай сістэмы (стварэннем на Беларусі цвёрдай, не кажучы ўжо пра канверсуемасць, нацыянальнай валюты ніхто не займаўся), састарэлае зямельнае заканадаўства і даволі абсурднае падатковае, якое знішчае свабоднае прадпрымальніцтва, што як след яшчэ і не ўсталявалася.

### БЕЛАРУСКІ ПАРЛАМЕНТ

Апошнім часам дзейнасць трэцяга "лакаматыва" ўлады даволі непрыкметная, можна сказаць, нават ціхая. Але не трэба забывацца, што менавіта Вярхоўнаму Савету наканавана ствараць заканадаўчую базу маючых адбыцца эканамічных рэформ. Пакуль жа ўсе дакументы, што тычацца эканомікі, разгледжаныя і прынятыя парламентам, не здольныя зрушыць справу. Што гэтаму замінае? Вось думкі на гэты конт асобных дэпутатаў.

— Апошнія законы, зацверджаныя Вярхоўным Саветам, ствараюць ужо заканадаўчую базу, -- лічыць Віктар Алампіеў — намеснік старшыні Камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі. — Хоць, трэба прызнаць, яны прыняты на падставе палітычнага кампрамісу. Законы існуюць, а рэформы не ідуць. У выніку жыццёвы ўзровень беларусаў коціцца ўніз. Калі ў 1991 годзе Беларусь ад суседзяў з краін Балтыі па ўзроўні зарплаты адставала дзесьці на дваццаць працэнтаў, то зараз на цэлых 600-800 працэнтаў. Але ж што нам замінае жыць лепей? Дзесьці трэць дэпутатаў разумее неабходнасць карэнных зменаў у эканоміцы. Мінулы ўрад, у склад якога ўваходзілі спрэс выпускнікі вышэйшай партыйнай школы, дзе вучылі гаспадарыць па-камуністычнаму, ствараў толькі бачнасць сапраўдных эканамічных пераўтварэнняў. Аднак цяжка пакуль зразумець дзейнасць новага ўрада, бо ў тым, што ім заяўлена, няма пакуль нічога радыкальнага, здольнага вывесці краіну з тупіка.

Перш чым пачынаць эканамічныя рэформы, неабходна зрабіць важны палітычны захад — прыняць заяву аб нейтралітэце Беларусі. Удзел у якіхсьці ваенных праграмах нашай краіны, якая абвясціла ўсяму свету пра свой нейтралітэт, і тым не менш гэта робіць, выклікае недавер у заходніх партнёраў.

Потым, адсутнасць уласнай нацыянальнай валюты. Без яе эканамічная незалежнасць дзяржавы немагчыма. Гэта цудоўна зразумелі ўжо ўсе суседзі па агульнай "кватэры" — былым СССР. Уласныя грошы — кроў эканомікі.

Ніяк мы не зрушымся ў бок рэальнай прыватызацыі, хоць закон аб ёй распрацаваны ў адпаведнасці з Канстытуцыяй. Неабходны таксама для нашай у прынцыпе аграрнай краіны закон аб зямлі з правам яе продажу і прыватнага ўладання. Калі беларускі парламент урэшце прыме гэтыя акты і механізм іх ажыццяўлення будзе ўключаны, справа зрушыцца і пацягне за сабой ланцужок іншых неабходных рэформ.

На думку дэпутата Анатоля Вярцінскага — намесніка старшыні Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, трэба спыніць перш-наперш інфляцыю. Сур'ёзна прыслухацца да парадаў МВФ. Беларусь не мае такіх багаццяў, як, скажам, Расія, але забяспечыць стабільнасць нацыянальнай валюты можа высокатэхналагічная вытворчая база. У латышоў, эстонцаў, летувісаў таксама няма агромністых рэсурсаў, але іхняя вытворчасць здолела стварыць спрыяльныя ўмовы для стабілізацыі ўласных грошай.

І яшчэ. Мы не можам гаварыць аб існаванні сапраўды прававой дзяржавы, пакуль не існуе закону аб Кабінеце Міністраў, палітычных партыях. Новая Канстытуцыя прынята. І гэта трэба толькі вітаць. Аднак яна ўтрымлівае ў сабе мноства старых падыходаў, што ўзятыя з папярэдняй. Занадта многа дэкларатыўнасці. Але ж хто і як будзе гарантаваць тое, што запісана ў Асноўным Законе? Толькі моцная эканоміка здольная дапамагчы вырашыць сённяшнія супярэчнасці і складанасці.

**Рыгор АНТОНАЎ**

РЭПЛІКА

# ПРЫЗНАЧЭННІ

Не ўпадаючы ў асабліва лірычны тон з нагоды фармавання структур новай улады, мусім усё ж зазначыць, што прызначэнне на пасаду загадчыка сакратарыята каманды намесніка прэм'ер-міністра В.Ганчара Леаніда Гулякі, былога намесніка міністра культуры і друку, абнадзейвае тым, што гэты вопытны і добрасумленны спецыяліст добра ведае праблемы культуры і можа вырашаць іх на сапраўды дзяржаўным узроўні.

У кожнай справе, безумоўна, патрэбен перш за ўсё спецыяліст, а не толькі "свой чалавек" — гэтая больш чым банальная ісціна асабліва яскрава вымалёўваецца ў святле нашых тэлевізараў, якія, на жаль, усё яшчэ нясуць досыць шэрую і безаблічную прадукцыю, нягледзячы на новыя прызначэнні начальнікаў "з глыбінкі". А можа, гэта толькі зацішша перад "вялікім скачком" якасці і навізны, на якія мы ўсё яшчэ спадзяемся?

**Я.Ф.**

## ПОГЛЯД

***Назва гэтай арганізацыі гучыць дакладна і, бадай, салідна — Галоўнае ўпраўленне па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры. Ёсць і кароткі назоў — Галоўрэстаўрацыя, што азначае тое ж самае. Створаная больш як тры з паловаю гады таму пры Савеце Міністраў, яна хутчэй за ўсё бліжэйшым часам можа трапіць у жорны рэарганізацыі і атрымаць новае найменне. І дай Бог, каб новае было толькі імя...***

***Нікога не трэба пераконваць у тым, што рэстаўрацыя дастаткова спецыфічная галіна. Тут сапраўды патрабуюцца асаблівыя ды ўзважаныя падыходы, а дзеля плённых вынікаў пажадана, каб у яе былі свае сродкі, свае спецыялісты, свае вытворчыя магчымасці. Што ж уяўляе сабою Галоўрэстаўрацыя?***

***На гэтае і іншыя пытанні нашага карэспандэнта адказвае Ігар ЧАРНЯЎСКІ, намеснік начальніка Галоўнага рэстаўрацыйнага ведамства краіны.***

# НАЗАВІЦЕ ХОЦЬ ГАРШКОМ...

— Галоўрэстаўрацыя — гэта, па сутнасці, дзяржаўны заказчык. Падчас распрацоўкі дзяржаўнай праграмы ў галіне рэстаўрацыі мы правялі аналіз спісаў усіх помнікаў, ці, як зараз называюць, гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Каб вызначаць прыярытэтныя накірункі работы, на сённяшні дзень створаны камп'ютэрны банк дадзеных пра гэтыя каштоўнасці. На камп'ютэрнай базе распрацавана ўліковая дакументацыя — гэта і пашпарты, і ўліковыя карткі. Распрацавана праграма аператыўнай дзейнасці з усімі дакументамі. Ёсць звесткі, у якім стане аб'ект, наколькі ён пашкоджаны, вяліся ці не вяліся — і якія — там даследаванні, магчымасць выкарыстання, магчымасць прыстасавання помніка пад пэўныя сучасныя патрэбы.

**— І якія найбольш важныя аб'екты — помнікі гісторыі і культуры — знаходзяцца пад апекаю Галоўрэстаўрацыі?**

— Іх даволі многа. Гэта тыя, якія вось-вось мусяць быць здадзеныя ў эксплуатацыю і выконваць тую ролю, якую прадугледжвае праект. Напрыклад — Пінскі езуіцкі калегіум. У адноўленым будынку размесціцца музей Палесся і харэаграфічная школа. Гэта палац XVIII стагоддзя ў Крычаве, які мае назву Пацёмкінскі. Гэта Зямельны банк у Магілёве, сядзібны дом у Дашкаўцы...

**— Што, нават у вёсцы ёсць дом, варты ўвагі такой службы, як ваша?!**

— Сядзібны будынак у Дашкаўцы здаецца традыцыйным, але там цікавыя інтэр'еры, цікавая сталярка. Хацелася б адзначыць добрыя ўзаемадзеянні Галоўрэстаўрацыі і гаспадароў гэтага дома. Там знаходзяцца службы сельгаспрадпрыемства. Здавалася б, што ім да нейкай прыгажосці? Але людзі разумеюць — такі дом павінен быць аноўлены ў гістарычным выглядзе. І яны звярнуліся да нас па дапамогу.

Вядома, з бюджэтнымі сродкамі ёсць праблемы. Каб набыць матэрыялы, аплаціць своечасова пэўныя віды работ, гаспадар сам знаходзіць грошы, а потым дзяржава вяртае іх. Таму практычна тут няма ніякіх затрымак. Сталярка вырабляецца і тут жа аплочваецца, няважна кім, потым усё адно на рахунку гаспадара гэтыя грошы аднаўляюцца. А галоўнае, на аб'екце не спыняецца праца і вось, калі ласка, праз няпоўныя два гады — наваселле.



Нашы службы пачалі аднаўленне Дабравешчанскай царквы XII стагоддзя ў Віцебску...

**— Дабравешчанская царква — найстаражытны помнік, але ад яго, здаецца, засталіся адны толькі падмуркі, і аднаўляць яго цяпер на ўзор XII стагоддзя справа не толькі рызыкоўная, але, выбачайце, гэта і раскоша.**

— Там засталіся не толькі падмуркі, але і рэшткі сценаў прыкладна на ўзроўні ваконных праёмаў. Але сапраўды — аднаўленне будынка паводле той методыкі, якую прапанаваў архітэктар Генадзь Лаўрэцкі, рэч даволі спрэчная. Ён метадам матэматычнага аналізу, па сутнасці, зрабіў аднаўленне храма, але дзе гарантыя, што дойліды XII стагоддзя карысталіся менавіта такімі разлікамі, што яны на пяць, на дзесяць, на дваццаць сантыметраў у розных канструкцыях не адступалі? Я асабіста ацэньваю такое аднаўленне дастаткова праблематычным. Яно, дарэчы, супярэчыць міжнародным нормам у галіне рэстаўрацыі. Ну, а ў Беларусі вырашылі адрадзіць страчанае вось такім чынам. Праект быў зацверджаны Дзяржінспекцыяй, і эксперымент пачаўся. Хаця, як на маю думку, якраз тут эксперыментаваць не трэба.

Зараз прыблізна такія ж работы мяркуецца правесці на Каложскай царкве ў Гродне. Аўтар праекта — той жа самы архітэктар, але тут падыходы будуць іншыя. Каложская (або Барысаглебская) царква таксама помнік XII стагоддзя, але гэта, калі можна так выславіцца, "поліфанічны" будынак. Ён мяняў сваё аблічча ў розныя перыяды, і не ўлічваць гэтага мы не можам.

**— Наколькі я разумею, адна з асноўных функцый Галоўрэстаўрацыі — гэта кантроль за ходам работ, ці не так?**

— У цэнтральным апараце ведамства — 19 чалавек, а ў рабоце штогод знаходзяцца 80-100 гістарычных аб'ектаў. Але гэта наш абавязак — ажыццяўляць кантроль. Нашы спецыялісты перыядычна выязджаюць на месцы, робяць кантрольныя замеры, высвятляюць, наколькі работы адпавядаюць распрацаванай дакументацыі, ідуць паводле тых методык, што існуюць у галіне рэстаўрацыі. Паколькі Галоўрэстаўрацыя — асноўны фундатар і фундатар дзяржаўны, то, вядома, найперш мы глядзім, як асвойваюцца бюджэтныя сродкі. Яны павінны выкарыстоўвацца менавіта на аб'ектах рэстаўрацыі, а не ісці, скажам, як здаралася раней, з нечае ўладнай самаволі на рамонт Дома культуры ці яшчэ куды.

**— Але ж, Ігар Мяфодзевіч, функцыя кантролю ўскладзена і на ДзІнАС — Дзяржаўную інспекцыю па ахове спадчыны. Ці не дублюеце вы адно аднаго? У такім разе можа атрымацца, як у той прыказцы: дзе нянек многа, там дзіця бязнога.**

— Гэта ўсё ж розныя ведамствы. Дзяржінспекцыя ажыццяўляе кантроль за выкананнем законаў. Яна дае (або не дае) дазвол на пачатак работ, вызначае якасць дакументацыі, аналізуе методыку і г.д. Але сапраўды ў многіх выпадках адбываецца падвоенае выкананне шэрагу функцый. Прыклад? Нам перыядычна даводзіцца ўнікаць у справы рэстаўрацыі Пінскага езуіцкага калегіума. Дык вось, у Пінск паехалі нашы спецыялісты, разам з гарадскімі ўладамі прынялі рашэнне, усё запісалі ў пратакол. Потым туды накіраваліся спецыялісты з Дзяржінспекцыі — і ўсё паўтарылі, што было зацверджана ў пратаколе раней...

**— Ці не лепей было б аб'яднаць намаганні?**

— Напэўна, гэта мела б пэўную мэтазгоднасць. Мы распрацавалі структуру будучага ведамства і прапанавалі цэнтральны апарат у складзе трыццаці чалавек, што на пяць адзінак менш за існуючую колькасць у двух ведамствах цяпер.

Праўда, наконт аб'яднання існуюць перасцярогі. Кажуць, Галоўрэстаўрацыя як ведамства, зацікаўленае ў асваенні бюджэтных сродкаў, будзе рабіць усё, каб асвоіць іх любым шляхам. Я і мае калегі з Галоўрэстаўрацыі так не лічым. Працуе заканадаўчы орган улады з адпаведнай камісіяй у Вярхоўным Савеце. Ёсць прадстаўнічыя органы ўлады з адпаведнымі камісіямі на месцах. Ёсць Таварыства аховы помнікаў. У нас з імі шчыльныя кантакты, а ўзаеміны абумоўлены заканадаўствам, якое парушаць нікому не дадзена.

Больш за тое, ніхто не кажа, што ў рамках аднаго ведамства Дзяржінспекцыя будзе некаму падпарадкаваная. У Дзяржінспекцыі ёсць сваё Палажэнне, ёсць закон, паводле якога яна працуе. І хай сабе на здароўе працуе. Сумневы наконт таго, што нехта некага праглыне ці займее больш выгаднае становішча дзейнасці, нам здаецца, абсалютна беспадстаўныя.

**— Цяпер, бадай, поспех кожнай справы ўпіраецца ў "презренный металл" — грошы. Наш прэзідэнт, ступіўшы на пасаду, адразу разгублена аб'явіў: казна пуста... І калі грошай не стае, як кажуць, на самае неабходнае, то што казаць пра помнікі? Іх аднаўленне ператворыцца ў знаёмыя па ранейшым часе "даўгабуды", якім і гады цяжка будзе палічыць.**

— Тая сума, што запланавана дзяржавай на правядзенне работ на гістарычных аб'ектах, мусіла б быць у разы два большая, чым ёсць. Аднак на практыцы мы павінны спажыць тое, што ёсць, і спажыць найбольш рацыянальна. На праектныя работы выдаткоўваем дзесьці 10 — 12 працэнтаў агульнабюджэтнай сумы (нарматыў прадугледжвае 5 — 7 працэнтаў). Але гэта робіцца свядома, над гістарычнымі аб'ектамі трошкі іншая праца, чым, скажам, у сучасным будаўніцтве.

Дастаткова вялікія сродкі расходуюцца на набыццё абсталявання, машын, механізмаў. Раней гэтага не было. Раней матэрыяльна-тэхнічная база развівалася за кошт прыбыткаў уласна прадпрыемстваў. Сёння гэта ў значнай ступені ажыццяўляецца за кошт дзяржаўнага бюджэту. Набываюцца дрэваапрацоўчыя станкі, начынне для кузняў, краны, трактары, бульдозеры. Вельмі важна, што ва ўсіх абласных гарадах, у Пінску, у Пружанах будуецца жыллё для рэстаўратараў.

**— Во малайцы! Адкуль у вас такія магчымасці?**

— Не сказаў бы, што ўсё так добра, як вам уявілася. Але калі раней рэстаўрацыйныя работы вяліся за кошт сродкаў капітальнага рамонту, то сёння гэта — сродкі капітальных укладанняў. Гэта крыху іншы артыкул у бюджэце, ён дае адпаведна іншыя магчымасці. За апошнія тры гады мы змаглі дамагчыся, што сродкі на рэстаўрацыю выдзяляюцца ў асобны радок бюджэту. Гэта дапамагае больш пільна кантраляваць іх расход, выгодней укладваць, пры неабходнасці рабіць карэктывы і пераразмяркоўваць. Міністэрства эканомікі, Міністэрства фінансаў, як мы заўважылі, сталі з большым разуменнем ставіцца да праблем рэстаўрацыі. Там не задаюць больш пытанняў: на што грошы? куды грошы? Яны прадметна бачаць, што існуе пералік канкрэтных аб'ектаў, выкарыстанне сродкаў распісана па кварталах, месяцах, на ўвесь год...

**— Зараз у сістэме дзяржаўнага кіравання ідзе перабудова. Мы бачым, што зліквідавана колькі міністэрстваў, утвараюцца новыя, з двух робіцца адно. У такіх варунках які лёс можа напаткаць галоўнае рэстаўрацыйнае ведамства?**

— Прагназуецца, быццам у цяперашнім выглядзе яно існаваць не будзе. У структуры Міністэрства культуры мяркуецца стварыць Камітэт па рэстаўрацыі. Ёсць запэўніванні, што функцыі, задачы і накірункі дзейнасці ў яго будуць тыя ж, што былі дагэтуль у Галоўрэстаўрацыі. У нас няма інфармацыі, што хоць адзін чалавек з сістэмы Галоўнага ўпраўлення будзе скарочаны. Шчыра кажучы, апарат і так невялікі для таго аб'ёму работ, які мы вядзем сёння.

Відаць, нічога няма заганнага, што мы ўвойдзем у структуру Міністэрства культуры. На сённяшні дзень больш як 50 працэнтаў аб'ектаў — гэта аб'екты культуры, якія рэстаўруюцца праз выдзяленне сродкаў Галоўрэстаўрацыяй. Пад апекай міністэрства таксама знаходзяцца некаторыя гістарычныя помнікі: гэта Мірскі замак, кляштар у Гальшанах, нядаўна створаны дзяржаўны запаведнік "Нясвіж". Мінкультуры фінансуе іх у памеры 1,4 — 1,5 мільярда рублёў. І параўнайце — больш за 12 мільярдаў (без індэксацыі) складаюць рэстаўрацыйныя работы нашага ўпраўлення. Мы працуем нібыта аўтаномна, але жыццёвыя абставіны змушаюць аб'ядноўваць і намаганні, і сродкі. Як было тое, напрыклад, з Полацкай Сафіяй.

У кожным разе нявapта толькі забываць , што спецыфіка рэстаўрацыі вымагае і яе самастойнасці. Яна мусіць такой заставацца надалей. Спадзяюся, мы зможам годна праводзіць дзяржаўную праграму па рэстаўрацыі (дарэчы, сама гэтая праграма якраз намі і распрацоўваецца).

**— Ад усяе душы зычу вам поспехаў. Дзякуй за змястоўную гутарку.**

**Алена ТРУСАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## ВЫСНОВЫ
### Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы

Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы разгледзела стан літаратурнай мовы і яе ўжыванне ў апошнія гады ў пісьмовай і вуснай формах, матэрыялы шырокага навуковага і грамадскага абмеркавання яе сучасных праблем. Функцыяніраванне і развіццё літаратурнай мовы ў сучасных умовах нацыянальнага адраджэння з наданнем ёй статуса дзяржаўнай мовы, існуючыя ў ёй нормы і правілы патрабуюць уважлівага разгляду і аналізу. Існуе неабходнасць у развіцці слоўніка літаратурнай мовы, асабліва тэрміналогіі, у даследаванні і распрацоўцы яе граматычнага ладу, асабліва сінтаксісу, у выпрацоўцы арфаэпічных нормаў і павелічэнне да іх увагі, у пераглядзе правапісу, а таксама ў шырокім грамадскім абмеркаванні стану мовы і яе ўдасканалення, якое зараз праводзіцца.

У апошні час у беларускай літаратурнай мове склалася вельмі небяспечная для яе сітуацыя. Яе існуючыя нормы і прынятыя правілы, замацаваныя ўжо шматгадовай практыкай і пашыраныя ў розных сферах яе ўжывання (у непасрэдных зносінах, у кнігадрукаванні і інш.), пачалі масава парушацца не толькі па неахайнасці, у сувязі з вольным разуменнем іх і па непісьменнасці — пачалося зусім свядомае і мэтанакіраванае ўкараненне і пашырэнне ў практыцы ўжывання мовы, асабліва ў друку, іншых моўных нормаў і правілаў. У выніку гэтага ў літаратурнай мове абазначылася фактычнае суіснаванне дзвюх практычных нарматыўных арыентацый. Узнікненне такой моўнай сітуацыі можна вытлумачыць і зразумець, але наўрад ці можна пагадзіцца з тымі, што лічаць яе нармальнай, па сутнасці падтрымліваюць курс на ўсталяванне літаратурнага двухмоўя і не бачаць у гэтым нічога небяспечнага, не бачаць, што гэта ёсць разбурэнне самой літаратурнай мовы і дэзарганізацыя ў сферах яе практычнага ўжывання і пашырэння. На пасяджэннях Камісіі ў выніку разгляду і аналізу матэрыялаў грамадскага абмеркавання існуючых праблем літаратурнай мовы было ўстаноўлена і акрэслена шырокае кола канкрэтных пытанняў, якія патрабуюць вырашэння дзеля яе развіцця і ўдасканалення. Аднак праца Камісіі была сканцэнтравана, як гэта і належала, над пытаннямі правапісу.

Камісіяй быў прароблены аналіз вялікай колькасці розных нярэдка супярэчлівых прапаноў і меркаванняў па змяненню або ўдасканаленню існуючых правапісных правілаў, якія былі выказаны ў перыядычным рэспубліканскім друку, на акадэмічнай канферэнцыі па правапісу, а таксама ў шматлікіх лістах грамадзян у Камісію. У канцэнтраваным і сістэматызаваным выглядзе былі прадстаўлены ў Камісію прапановы Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Гэты аналіз меў не толькі навуковы, экспертны характар. У многіх выпадках ён праводзіўся шляхам разгорнутых эксперыментаў на канкрэтных матэрыялах літаратурнай мовы для аб'ектыўнай, навуковай ацэнкі практычнай прыдатнасці і большай дасканаласці прапанаваных правілаў у параўнанні з існуючымі. Аналізаваліся таксама прапановы членаў Камісіі, варыянты распрацовак правілаў. Маючы ж на ўвазе існуючую зараз у літаратурнай мове сітуацыю, Камісія імкнулася да пошукаў розных кампрамісных варыянтаў правілаў правапісу, якія дазволілі б пазбавіцца ад існуючага зараз правапіснага разнабою і канфрантацыі.

Вынікам працяглай і нялёгкай працы Камісіі з'явіліся прапановы па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы, апублікаваныя для шырокага абмеркавання. Па многіх пытаннях правапісу ў Камісіі быў дасягнуты пэўны кампраміс або згода адкласці іх абмеркаванне і вырашэнне. Не дасягнута было адзінства толькі ў адносінах ужывання мяккага знака на пісьме, і ў прыватнасці, для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных. Гэта галоўная праблема сучаснага разнабою ў правапісе, і ёй была ўдзелена ў рабоце Камісіі вялікая ўвага. На грамадскае абмеркаванне было вынесена чатыры варыянты яе канкрэтнага вырашэння.

Грамадскае абмеркаванне прапаноў Камісіі паказала, аднак, што адзначанай падтрымкі не атрымаў не толькі ні адзін з распрацаваных варыянтаў вырашэння праблемы асіміляцыйнай мяккасці зычных, але таксама і яе найбольш істотныя прапановы па іншых правілах існуючага правапісу. А галоўнае — не атрымала належнай падтрымкі само мовазнаўчае мерапрыемства па ўдакладненню і змяненню правапісу. Большасць навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці лічаць, што ў сучасных умовах дзяржаўнай неўпарадкаванасці, палітычнай раз'яднанасці грамадства і эканамічнай нестабільнасці ў рэспубліцы гэта з'яўляецца несвоечасовым і немэтазгодным. Наяве крайне неспрыяльныя ўмовы для ўнясення істотных змен у правапіс, калі нават іх апраўданасць у інтарэсах самой мовы і не выклікае сумненняў. Праводзіць рэформу правапісу беларускай літаратурнай мовы можна будзе толькі тады, як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца і ўмацуецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць. Небяспекі ў такім стрыманым падыходзе да вырашэння гэтай праблемы — няма, бо наогул мова не належыць да тых катэгорый, дзе трэба праяўляць паспешлівасць, паддавацца пачуццю боязі — хаця б не спазніцца. Найвялікшая сёння наша бяда не ў тым, што правапіс вельмі ж ужо недасканалы, а ў тым, што ўвогуле беларускай мове, нягледзячы нават на яе дзяржаўны статус, усё яшчэ пагражае асіміляцыя і паглынанне з боку мацней усталяванай у нас мовы міжнацыянальных зносін, што становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве ўсё яшчэ досыць кволае. На думку многіх руплівцаў роднага слова, актуальнай задачай з'яўляецца зараз пашырэнне беларускай літаратурнай мовы ў грамадскіх зносінах. Змяненні ж у правапісе цягнуць за сабой не толькі матэрыяльныя выдаткі і затраты значнага часу на іх пашырэнне і ўкараненне, але і зніжэнне прэстыжу беларускай літаратурнай мовы, тэмпаў яе пашырэння ва ўжыванні. Ды і змяненні ў правапісе непазбежна вядуць да нестабільнасці яе самой. Абмеркаванне паказала таксама, што разважанні аб правапісе ў некаторых выпадках выходзяць за межы яго галоўнай моўнай і мовазнаўчай сутнасці.

Таму Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы прапануе:

1. Працягваць у рэспубліцы навукова-метадычную працу па ўдакладненню і ўдасканаленню правапісу беларускай літаратурнай мовы, а таксама яе граматычнай і лексічнай нармалізацыі і стабілізацыі і па культуры маўлення, для чаго мэтазгодна, як гэта і прадугледжана Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 мая 1994 г., утварыць пастаянна дзеючы Рэспубліканскі навукова-каардынацыйны Савет па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі з належнымі рэкамендацыямі і кантрольнымі паўнамоцтвамі ў адпаведнасці з Законам "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

2. Акадэміі навук Беларусі і Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь да канца 1995 года падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (з дадаткам правілаў беларускай арфаэпіі), дзе былі б улічаны вынікі работы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы і іх грамадскага абмеркавання.

3. Да прыняцця новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", дзеля захавання стабільнасці беларускай літаратурнай мовы, ухілення ад існуючай зараз правапіснай неаднастайнасці ў сродках масавай інфармацыі строга прытрымлівацца "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", зацверджаных Акадэміяй навук БССР і Міністэрствам асветы БССР (Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1959).

Камісія па адукацыі, культуры
і захаванню гістарычнай спадчыны
Старшыня Камісіі
Ніл ГІЛЕВІЧ




Рыгор ГРУДНІЦКІ

# НЕФІЛАСОФСКІЯ ДУМКІ ПРА ФІЛАСОФІЮ

Трагічнасць нашага часу не лакальная: яе абшары — увесь свет. І тая жменька гадоў, якая аддзяляе нас ад XXI стагоддзя, толькі падкрэслівае гэтую трагічнасць. А нарастаючае ўсведамленне таго, што гэта не проста хpartyналагічны пераход, а нараджэнне новага сусвету чалавечых лёсаў, выклікае адчай, разгубленасць, прадчуванне крызісу асноў цывілізацыі, разбурэння жыццятворных сэнсаў. Але крызіс культуры — гэта яшчэ не гібель культуры. Крызіс ставіць перад разгубленым чалавекам не пытанне аб пахаванні культуры, а праблему пошукаў новых максім яе. Калі старыя сэнсы разбураюцца, то адны плачуць над " знікненнем" сэнсу і "бяссэнсавасцю" культуры, а другія выпраўляюцца на пошукі новых сэнсаў.

Справа, мусіць, у тым, што мы дасягнулі мяжы, за якою павінна змяніцца сама культура, яе сэнсавы змест, што з неабходнасцю прывядзе да змены ўсяе нашае цывілізацыі, яе фундаментальных асноў. Мы адыходзім ад традыцыйна звыклага і палохаемся: а раптам наперадзе горшае ці наогул там нічога не знойдзем. Вось адкуль сцвярджэнні: маўляў, імкліва нарастае самы разбуральны крызіс — духоўнасці, культуры, чалавека. Але якое духоўнасці? Якое культуры? Якога чалавека? І ці крызіс гэта?

Калі глядзець назад, калі ўглядацца ў рацыяналістычную класіку, то гэта сапраўды крызіс. Рацыяналістычны характар еўрапейскай культуры, яе даўняя арыентацыя на метады прыродазнаўства ў культуралагічных даследаваннях — адна з найгалоўнейшых прычын, што абумоўліваюць перавагу рацыяналістычнага, тэхнакратычнага падыходу да рашэння задач, якія стаяць перад чалавецтвам на сучасным этапе. Зараз відавочна, што гэты рацыяналізм быў усяго толькі ўласцівасцю юначае пары сучаснай цывілізацыі. Тут дарэчы будзе прыпомніць словы Івана Адоеўскага, які калісьці заўважыў, што рацыяналізм падвёў нас да брамы ісціны, аднак яму не наканавана адчыніць яе. І справа зусім не ў адмаўленні рацыяналізму ці сцвярджэнні ірацыяналізму. Гаворка, мусіць, ідзе пра тое, што ў свеце бытавання чалавека, у чалавечым свеце культуры рацыянальнага не больш, чым ірацыянальнага. Кожны раз, як мы сустракаемся ў гэтым свеце з самімі сабой, мы знаходзім сябе не толькі як разумных і святых, але і як бязглуздых і разбэшчаных. І кожны раз спыняемся разгубленыя: наш свет і мы самі ў гэтым свеце зусім непадобныя да тае лагічнае канструкцыі, якую стварыла рацыяналістычная класіка. Разгубленыя, мы схільны лічыць, што магчымасці разумнага



чалавека значна меншыя, чым думалі нашыя настаўнікі. Навука дала нам веды, але пазбавіла веры. Розум зрабіў нас самаўпэўненымі, але адабраў надзею. Так напрыканцы XX стагоддзя мы засталіся сам-насам з Сусветам, чужыя яму і непатрэбныя. Такая рэтраспектыва.

А калі заглянуць за далягляд? Ці не голас гэта новага чалавека, які абвяшчае аб нараджэнні новай духоўнасці і новай культуры? І задача філасофіі — выявіць і растлумачыць новыя максімы яе, зразумець агульнасць і адметнасць традыцыі і культурнай навацыі і вызначыць нормы і схемы паводзінаў чалавека ў сферы новай духоўнасці. Якія будуць гэтыя максімы, чым будуць вызначацца праксіялагічныя схемы? Мы не ведаем яшчэ гэтага: хутчэй, толькі адчуваем іх набліжэнне, але якраз таму нам бракуе разумення. Гэта і ёсць галоўнай задачай філасофіі. Але не першай. Бо найперш ёй неабходна самаўсведамленне ўласнай сутнасці. Якой павінна стаць філасофія, каб быць здольнай вырашыць свае галоўныя праблемы?

Найперш яна павінна пазбавіцца ад метафізікі ў адмоўным сэнсе гэтага слова і стаць філасофіяй чалавека і для чалавека. Не "чалавечага фактару", а менавіта чалавека як індывідуальнай асабовасці. Філасофія мусіць заняць такую пазіцыю, з якое свет магчыма ўбачыць вачыма асобы і менавіта як свет гэтае асобы, як значны для асобы свет, які набывае сэнс і можа быць апраўданы толькі ў кантэксце жыцця асобы.

Маім зданнем, настаў час усвядоміць, што філасофія нараджаецца не эканомікай, палітыкай ці правам і тым больш не служыць ім. Змест і сэнс філасофіі ў яе культурнагістарычным развіцці нараджаецца не цывілізацыяй, а культурай, і належыць толькі культуры. Філасофія — не сродак адлюстравання тэхніка-тэхналагічных ці дзяржаўнаправавых (г.зн. цывілізацыйных) здольнасцей і магчымасцей чалавека. Філасофія — гэта рэфлексія над пакутамі душы і пошукамі вандроўніка духа.

Філасофія павінна пераадолець рацыяналістычную аднамернасць і адназначнасць класічнай традыцыі. Плюралізм для новай філасофіі паўстае чымсьці такім, чым для класічнае традыцыі быў рацыяналізм: максімай, якая вызначае спосаб і стыль філасафавання. Гэты плюралізм, адпавядаючы самой сутнасці культуры, знаходзіць і прыродазнаўчае абгрунтаванне: Бор быў ці не першы, хто выказаў думку пра тое, што больш-менш складаную з'яву ў межах аднае мовы апісаць прынцыпова нельга. У пазітыўнай форме гэта можна сфармуляваць так: пры апісанні любога аб'екта неабходна мноства інтэрпрэтацый. Адзіна праўдзівай і вычарпальнай інтэрпрэтацыі няма і быць не можа. Тым больш слушнай гэтая думка робіцца тады, калі такім аб'ектам філасафавання паўстае чалавек: ніхто не ведае адзінае і поўнае праўды пра чалавека, бо такое праўды не існуе.

Мусіць, прыйшоў час зразумець, што чалавек — не тая прагматычна-пазітывісцкая канструкцыя, якую стварыла класічная філасофская традыцыя. Мы — не homo sapiens, а дакладней, не толькі і нават не гэтулькі homo sapiens. Мы штосьці універсальнае: істота, рацыянальнасць якое толькі адна з праяў шматмернай і разнамернай істасці чалавека ў свеце.

Мы ў рэшце рэшт зразумелі, што без клопату пра чалавека ўсе размовы аб будучым не маюць аніякага сэнсу. Але ўсвядоміўшы гэта, ці зразумелі мы, які чалавек нам патрэбны? Тэхнакрат-рацыяналіст? Спажывец, эстэт, работнік, вольная асоба? Усё яшчэ мы лічым, што гэта другаснае, што ўсе гэтыя пытанні — для паэтаў-летуценнікаў. А на самай справе гэта і ёсць прадчуванне новай філасофіі, задача якой — вызначыць і абгрунтаваць права асобы на самаздзяйсненне ў якасці асобы.

Хто наважыцца абвяргаць сцвярджэнне Лосева аб тым, што "імя ёсць жыццё", што чалавек без імя глухі і нямы, што калі людзі губляюць ці забываюць сваё імя, "тады існуюць толькі цемра і вар'яцтва і корпаюцца ў гэтай цемры адно гэткія ж цёмныя і звар'яцелыя пачвары". Кожны раз, як мы ўсведамляем сябе ўдзельнікамі гістарычнага працэсу, мы пераконваемся, што працэс гэты незавершаны і што ў гэтым працэсе нам належыць гэткая ж роля, як і тым, хто стаяў на пачатку яго і закладваў ягоныя соцыякультурныя падмуркі. Мы не чытаем старажытна-грэчаскую трагедыю, мы с-твараем яе як трагедыю ўласнага жыцця. Нагорная казань толькі тады набывае маральна-культурны змест, калі яна перастае быць "праблемай" Хрыста і робіцца праблемай нашага маральнага выбару. Калі ж гэта проста Эдып ці проста Хрыстос, а не трагедыя нашага існавання і нашай уласнай асабістай адказнасці за жыццёвы выбар, то гэта не культура, а мы — не людзі. Ва ўсякім разе — не зусім людзі.

Кожны раз, уключаныя ў культурную сітуацыю, мы вымушаны не проста перажываць, а быць с-тваральнікамі яе, а значыць — і гістарычнага працэсу, які праз гэта паўстае як абраны намі наш уласны лёс. І менавіта філасофія павінна паказаць, якое месца ў гэтым працэсе мусіць заняць чалавек, як і дзеля чаго ён будзе дзейнічаць. Але не праз стварэнне агульназначных рэгулятываў, уласцівых класічнай традыцыі, а дзякуючы да-лучанасці і да-чыненасці маёй да гістарычна-культурнае справы як справы майго жыцця. Толькі тады справа гэтая перастае быць ананімнай і таму чужой і набывае імя свайго стваральніка.

Мы мусім прызнаць, што свет, пабудаваны на ўсеагульных, агульнаабавязковых асновах, немагчымы прынцыпова. Гэта мае дачыненне да ўсяе культуры як сферы спецыфічна чалавечае жыццядзейнасці. Пры гэтым неабходна адмовіцца ад спрошчанага ўяўлення аб сацыяльна-эканамічнай дэтэрмінацыі філасофіі і маралі як элемента культуры. Не таму, што такога ўплыву няма, а таму што ён не вырашальны: сацыяльна-эканамічныя адносіны самі павінны быць маральнымі. Мараль не элемент культуры, а яе падмурак, умова яе магчымасці. Але мараль і не збор "вечных" агульнаабавязковых догмаў па-за часам. Не таму, што такіх догмаў няма, а таму што сваю маральнасць яны атрымліваюць праз маю унікальную асабовасць. Той факт, што агульнаабавязковыя асновы кожны раз тут і там праяўляюцца ў рэальным сацыяльным жыцці, не супярэчыць выказанай думцы: праяўляючыся ў грамадскім жыцці і істотна ўплываючы на яго, агульнаабавязковыя каштоўнасці не з'яўляюцца ні інстытуцыянальнымі, ні канстытуючымі. Сэнс і значэнне яны набываюць толькі ў індывідуальным досведзе чалавека і толькі адносна гэтага досведу. Як толькі ім надаецца нейкая асаблівая інстытуцыянальная ці канстытуючая роля, так больш ці менш хутка, але непазбежна, нараджаецца і ўсталёўваецца прымус як пачатак і падстава таталітарызму.

Філасофія не можа і не павінна быць сродкам тэарэтычнага абгрунтавання "рэвалюцыйнае перабудовы свету", як і апалогія "наяўнае сацыяльнасці". Галоўнае не ў тым, каб звяргаць ці абараняць, галоўнае — пазнаваць, каб зразумець і на падставе разумення ствараць такія ўмовы, якія спрыяюць кожнаму чалавеку дасягнуць магчымасці жыць вольнымі ад пэўнай сацыяльнасці, тым больш, калі яна атаясамліваецца з дзяржаўнасцю.

Каб пазбавіцца ад страху, неабходна пазбавіцца ад патэрналізму ў адносінах да дзяржавы. Бо баяцца можна не толькі ГУЛАГа, баяцца можна і "непразрыстай" сістэмы, якая, прадпісваючы мне нормы і прынцыпы паводзінаў, пазбаўляе мяне маёй індывідуальнасці. Гэта — камуністычная супольнасць, але гэта і гіпертрафіраваная ідэя грамадскага інтарэсу ды грамадства, якія супрацьпастаўляюцца "індывідуалізму" і "эгаізму". Выйсце тут адно: стварэнне гарантый "індывідуальнага выратавання", стварэнне абароны індывідуальнасці праз індывідуальную абарону. Разлік на дзяржаву, на партыю, на нейкую іншую сацыяльна-палітычную структуру пазбаўляе чалавека волі, разбурае яго "самасць" праз укараненне ў "сацыяльнасць". Таму галоўнае — стварыць сродкі і механізм абмежавання сацыяльнасці, які адначасова абмяжуе і "анархію эгаізму". Гэта парадокс, гэта кампраміс. Але гэта адзінае выйсце. Ідэальнага грамадства, а тым больш ідэальнае дзяржавы, не было, няма і не будзе, бо іх нельга стварыць нідзе, ніколі, нікому.

Нам неабходна пераадолець стэрэатып універсальнасці культурных прынцыпаў. Жыць і заставацца вольным разумны чалавек можа толькі ў адносным сэнсе, у свеце культуры, якая не прэтэндуе на канчатковасць. У гэтым свеце няма апошняе ісціны, бо яна нічым не адрозніваецца ад звычайнай ілжы. Гэты свет не ведае неабмежаванае свабоды, бо такая свабода вядзе толькі ў рабства. Гэта адносны свет нашае духоўнасці.

Да гэтага часу мы часцей за ўсё духоўнасць чалавечага існавання падмяняем наборам ідэалагічных клішэ. Апошнія звонку навязваюць чалавеку пэўны лад жыцця (найчасцей не адпавядаючы прызначэнню чалавека). Духоўнасць жа — гэта ўнутраны выбар уласнага лёсу, гэта сустрэча чалавека з сабой як з чалавекам. Духоўнасць — гэта той адзіны свет, у якім чалавек упершыню знаходзіць сябе як асобу і ставіцца да сябе менавіта як да асобы. Духоўнасць — гэта сфера, у якой індывідуальнасць дасягае максімальнага самаўсведамлення і адначасова — сваёй злучанасці з Сусветам. Такі чалавек паўстае не як элемент саборнасці альбо калектыўнасці, а як персона, як асоба, для якое агульначалавечыя каштоўнасці набываюць сэнс толькі праз яе асабовасць. Прапушчаныя праз полымя асабовасці агульначалавечыя запаветы не толькі самі набываюць сэнс адносна індывідуальнага існавання чалавека, але і напаўняюць ім само гэтае існаванне, заахвочваюць чалавека да "быцця-насуперак-смерці" (Г.Марсель). Абсалютныя і безумоўныя каштоўнасці Ісціны, Дабра і Хараства (гэтыя найвышэйшыя агульначалавечыя максімы) толькі тады выяўляюць сваё існаванне, калі я пажадаю адкрыць іх для сябе, калі мая асоба адчувае патрэбу ў іх, калі мая воля імкнецца да сустрэчы з імі.

А зрэшты — не гэта галоўнае. Ідзе пошук новай духоўнасці — вось што важна. І ў гэтым пошуку асаблівы сэнс набывае не толькі пытанне "Што я мушу рабіць?", але і пытанне "Які я мушу быць?" Гэтае пытанне знешнія ўмовы маёй практычнай дзейнасці пераводзіць ва ўнутранае сэнсатварэнне, якое і ёсць калі не свабода, то яе пачатак.

З гэтае волі, звернутае да сябе, волі, якая вызваляе чалавека ад засілля як прыроднае, гэтак і сацыяльнае знешнасці, праз аўтанамізацыю яго духоўнае самасці нараджаецца вера — у магчымасць стаць і быць чалавекам. Вера шэры лад маіх ведаў ператварае ў каляровае суладдзе вясёлкі, напаўняе маю істоту ўпэўненасцю і надзеяй.

Вера і надзея, якія вырастаюць з духоўнасці, але адначасова і фундуюць яе, надаюць сэнс нашым жыццёвым мэтам, нараджаюць упэўненасць у сэнсоўнасці нашых намаганняў, у здзяйсняльнасці нашых жыццёвых праектаў.

О вера! О надзея! Хіба не вы вызваляеце мяне ад рэчаваснасці? Ці ж не вы надаяце мне ўпэўненасць у тым, што немажлівае мажліва, што смерць — гэта не зыход у небыццё, а выхад духу ў вечнасць!




## Юрась ПАЦЮПА

# КАЛІ Я ГЛЯДЖУ НА ЗЯЛЁНАЕ ПОЛЕ...

### Прыватнае эсэ



На магілу Сяргея Зарэцкага

*Тут тень всеобщего лежала на всём.*
*А.Введенский*

Каля я гляджу на зялёнае поле, то пачынаю захлынацца адчуваньнем жыцьця. І моц адчуваньня не залежыць ад яго працягласьці.

... У гэтай гісторыі ўсё неяк дзіўна пераплялося. І колькі ні перабіраю, здаецца, непатрэбны зьбег абставінаў, — усё роўна не асьмельваюся яго адкінуць у сваіх развагах. А можа, гэтыя супадкі маюць найвыйшні сэнс?

18 жніўня 1991 года, на другі дзень пасьля сустрэчы моладзі з папам Рымскім у Польшчы і напярэдадні камуністычнага путчу ў Маскве, — у гэты дзень я апошні раз (яшчэ не ведаючы таго) разьвітаўся з сваёю бабуляй. Мы з жонкаю вярталіся ў Менск. Якраз прыкладна ў гэты час і на гэтай дарозе загінуў наш сябар, учорашні школьнік Сяргей Зарэцкі. Успамінаю: як жа год таму Анжэла радавалася, калі гэты хлопчык, не безь яе ўплыву, літаральна за месяц, навучыўся размаўляць па-беларуску! Апошняе толькі падкрэсьлівае трагізм. І вось чаму. Вяртаньне (прыход) чалавека ў беларушчыну — гэта, для сьвядомага беларуса, новая кропля жыцьця ў сухое мора "памерлае" Бацькаўшчыны, а значыць — новыя (сацыяльныя) народзіны чалавека. Тут жа — жыцьцё сьціснулася да аднаго году!

Так у маёй сьвядомасьці сустрэліся дзьве сьмерці, спарадзіўшы наступны роздум. Першая — занадта мая, каб што-небудзь гаварыць. Гэта маўчаньне. Іншая рэч — сьмерць Сяргея. Гібель яго абяртаецца бунтам супраць няспраўджаных магчымасьцяў.

Як можна жыць у тым выпадку, калі сьмерць не дае, нават часткова, разгарнуцца марам, прызначэньню, выбару? І ці ёсьць, у такім выпадку, розьніца паміж — "часткова" і "цалкам"? А калі няма, то як можна жыць увогуле?

Мне здаецца, што адказ дапаможа знайсьці асацыяцыя з аповесьцю В.Верасаева "Без дарогі". Чытаючы аповесьць, я ня ўбачыў (і не хачу бачыць) яе *часавага* і *часовага* сэнсу. Паводле такога гледзішча перад намі быў бы сярэдні твор на сацыяльна-палітычную тэму, крытыка народніцкага шляху. Важней іншае. Таму нагадаем сюжэт.

Малады доктар, хворы на сухоты, прыехаў да сваякоў адпачываць і лячыцца. У гэты час насоўваецца эпідэмія халеры. Герой едзе працаваць у мястэчка, ахопленае хваробай. Але там яго самаахвярную працу людзі не прымаюць: маўляў, дактары ж і прыносяць хваробу. Лекара забіваюць, ён становіцца ахвяраю "неперсьпектыўнае" ідэі, няправільна абранае свабоды. Але... нешта супраціўляецца такой несправядлівасьці: няўжо намарна патрачана цэлае жыцьцё? А калі так, то, выходзіць, і таго сьветлага, правільнага, некалі існуючага, як бы не існавала. Значыць, *сэнс існаваньня нічым не гарантаваны*! І няхай чалавек да самае сьмерці задаволены сваёю справаю, але й тады нехта звонку можа вынесьці яго лёсу вырок нікчэмнасьці. Паводле якіх крытэрыяў? І канкрэтна, адносна сюжэта: няўжо ніхто не павінен ратаваць людзей? Няхай яны цемрашалы, няхай яны выраджэнцы і забойцы, якія не пазнаюць сваіх дабрадзеяў! Няўжо?

Эпілоґ аповесьці, які мусіў даць (і даваў у свой час) адказ наконт слушнага шляху, "персьпектыўнага" прыкладаньня сілаў, абвергнуты (?) сёньняшнім часам. Усё дзеяньне гэтага заключнага эпізоду ўяўляе сабою дыскусію "дасьведчаных" і "недасьведчаных" на вечную тэму: "Што рабіць?" Сімпатыі аўтара, вядома, на баку Наташы, блізкай да марксістаў, якія лепш за ўсіх ведалі, што рабіць. А тройчы абсьмеяны, наіўны энтузіяст рамесьніцкіх арцеляў, які, маўляў, "ня бачыў" поступу гісторыі — пакрыўджаным пакідае суразмоўцаў. Але гісторыя злосна пасьмяялася і з марксістаў. Тое, што мела сэнс у абмежаванай прасторы тэксту (сацыяльнага кантэксту), згубіла рацыю ў Вялікім Часе, у жыцьці.

Хто тут не памыляўся? Той, каго абсьмялі? Той, хто ня ведаў адказу? Ці ніхто? Лагічным, але неверагодным здаецца апошняе: ніхто, або, паводле вядомае прытчы, усе мелі рацыю.

Відно сэнс жыцьця не ў апраўданьні абранае мэты, бо нездарма ж паэты скардзяцца на марнасьць нашых памкненьняў (здабытак магільных чарвякоў), а ў самім жыцьці як уласнасьці. *Каштоўна кожнае імгненьне чалавечага існаваньня, пазначанае свабодаю выбару.* Няма праблемы сьмерці. Ёсьць праблема нераўнамернасьці часу. Тое, што свабоды, у тым ліку свабоды выбару, не існуе —зусім іншае пытаньне, яго дастаткова даказвалі і абвяргалі. Немагчымасьць зьдзяйсьненьня юнацка-напалеонаўскіх планаў жыцьцё пацьвярджае кожным крокам, а перад сьмерцю — даказвае канчаткова. Гэта факт. Але факт і другое: людзі ня хочуць пражыць інакш, чым жылі. Свабода волі (існуе яна рэальна ці не) —перш за ўсё псіхічнае адчуваньне, гэта паказвае Л.Талстой у "Вайне і міры". Свабода волі — гэта заўсёдная карэктоўка сябе на найбольш прыймальныя ўчынкі. Скардзіцца на абставіны настолькі неразумна, наколькі няплённа. Прымаць іх, змагацца зь імі, унікаць іх — усё аднолькава, ад абставінаў нельга ўцячы. Сізіф А.Камю псіхічна пазбаўляе сябе паловы жыцьця, калі жыве, толькі спускаючыся з гары. Яму ўвогуле пашанцавала, а ён ня ўмее гэтага цаніць. Іншаму толькі і дадзена каціць камень угару. А тут — хоць нейкая разнастайнасьць.

Такім чынам, самакаштоўнае толькі жыцьцё. Сьмерць зь ім аніяк не зьвязана, бо нават пры абставінах найбольшае чаканасьці яна — нечаканая. Да свайго апошняга моманту чалавек шукае выбар, тым самым напаўняючы імгненьні сэнсам, ацэньваючы кожнае імгненьне як каштоўнасьць. А ўжо з пазіцыі сьмерці нельга ацаніць свой шлях,

---

## Валянцін АКУДОВІЧ

# МАРК ШАГАЛ

### Эсэ*



Дзве першыя асноведзі, на якіх палягае існае-для-нас, мы наймуем *прасторай* (тут адбываецца натуральны кругазварот вечнага вяртання) і *чалавекам* (тут гэты кругазварот размыкаецца ў над-натуральныя абсягі, сфармаваныя часам — інакш, гісторыяй чалавечага бытавання). Але ні прастора ўвогуле, як поле прысутнасці універсальнага існага, ні час увогуле, як месца выяўлення разамкнутага руху ўжо гістарычнага быцця, самі з сябе не вытлумачаюць ні феномена прасторы, ні феномена чалавека. І пэўна, найперш таму, што універсальная прастора гэта ўсяго толькі ідэя прасторы, а універсальны час гэта ўсяго толькі ідэя часу, і яны з прычыны сваёй прычыны не прыдатныя нешта казаць пра значэнні кожнай з множнасці адзінкавых (сінгулярных) прастораў, кожнага з множнасці адзінкавых (сінгулярных) часаў. Ідэя гэта толькі метафізічны знак прысутнасці, а значэнне (хутчэй — значэнні: для сябе, для другога, для той самай ідэі) прадвызначае ўжо нешта іншае. Што? Якраз у гэтым месцы каменныя вусны сфінкса пачынаюць размыкацца для рогату...

Калі наяўнасць свайго ўласнага часу ва ўсім, што суб'ектызавалася, сёння досыць уважліва прааналізавана ў філасафеме тэмпаральнасці (тэмпаральнасць — уласны час кожнай экзістэнцыі, не падлеглы, — ці падлеглы, але не тоесна, — універсальнаму часу), то наяўнасць свайго ўласнага тэмпаральнага места (як з-места прысутнасці) кожнай самаідэнтыфікаванай прасторы застаецца ў мройліве сакральнага (сінонім інтэлігібельнай нямогласці).

Апошняе ў роўнай ступені пасуе і да той прасторы, якую мы адольваем паймом "Беларусь". Не абазнаная ў практыках логацэнтрычнага мыслення, не кажучы пра практыкі мыслення дыскурсіўнага, Беларусь застаецца, з аднаго боку, у вымярэннях каардынатаў ландшафту (ландшафт — інтэр'ер прасторы), а з другога — каардынатаў трансцэндэнтнага (калі трансцэндэнтнае ўвогуле можа мець вымярэнне, тым болей — каардынаты). Адсюль вынікае, што аніякая падзея быцця на абсягах Беларусі не станецца абазнанай у значэннях беларускай прасторы да той пары, пакуль прастора не абазнаецца сама, як нейкі дэтэрмінаваны сэнс. Паводле гэтага ўсялякая падзея тут або лакалізуецца ў чарговую складку інтэлігібельнага ландшафту, або фальсіфікуецца сакралізаваным трансцэндэнтным. Апошняе меркаванне стасуецца і з такой падзеяй, як Марк Шагал, з чаго адпаведна паўстае цяперашняя немагчымасць убачыць анталагічную мэту беларускай прасторы ў феномене Шагала — нам застаюцца адно навідавочныя ландшафтныя знакі, а ў тым выпадку, калі і яны збльтваюцца —імітацыя скокаў у блакітную прорву трансцэндэнцыі.

Да таго ж сітуацыя з абазнаннем Шагала ўскладняецца яшчэ і тым, што сам Шагал ніколі не ідэнтыфікаваў сябе з *беларускай* прасторай. Не толькі культуралагічна, але і тапаграфічна ён таясаміў сябе з Расеяй і там, у Расеі, яго трэба было б пакінуць, каб не было Віцебска, дакладней, каб ландшафт Віцебска не задакларагаў сваёй прыналежнасці да інтэр'ера беларускай прасторы...

Між іншым гэтая дэкларацыя Віцебска дадатна абцяжарыла пытанне "каталагізацыі" Шагала (этнічна — габрай, сацыяльна — расеец, эстэтычна — еўрапеец, духоўна — касмапаліт). Затое непадманная звязь Шагала з Віцебскам (праўда, месцамі прагматычна экзальтаваная рытарычнымі фігурамі кшталту: "Парыж — другі Віцебск") дае нам магчымасць падкрэсліць праблему дынамікі вылучэння і фармавання з адзінага поля працягласці топасаў, набрынялых уласным прасторавым зместам, і тым самым прамаркіраваць магчымы шлях Шагала ў беларускі тапалагічны кантэкст...

Універсальнае — амаль *ніякае*, яно не болей чым апазіцыйнае апірышча для *нечага*, і таму ўсё, што мае патэнцыю быць *нечым*, цягне да сінгулярнасці, бо толькі вылучэнне ў адзінкавае робіць латэнтную наяўнасць сінгулярнага *нечага* відочна канстытуяванай. Шагал не заўважыў у ландшафце Віцебска хэнці прасторы Беларусі да наяўнасці ва ўласным сэнсе, ён назаўсёды застаўся ў Віцебску абшарнікам Вялікай Расеі, і, натуральна, яму не да галавы было, што наспее пара, калі ягонае імя зрэфлексуецца з нейкай там Беларуссю і што паступова "беларускі фактар" зробіцца роўналежным сярод іншых у "феномене Шагала", а ў пэўным змесце і папярэднім да астатніх, паколькі менавіта беларуская прастора адамкнула Шагалу экзістэнцыйнае месца ў быцці. Болей за тое, калі экзістэнцыйнасць разглядаць не толькі ў праекцыі тэмпаральнасці часу, але і ў праекцыі тэмпаральнасці прасторы, то мы можам аднолькава, хаця і не без верагоднасці скандала, залічыць Шагала як у габраі, так і ў беларусы. (Іншая рэч, ці патрэбна нам, Шагалу, каму заўгодна такое "падвоенае грамадзянства" Шагала.)

Але менавіта з гэтай падвоенасці і вынікае тая амбівалентнасць сітуацыі, якая найперш паўстане ў кожнай спробе каталагізацыі Шагала: яму будзе аднолькава няўжыўна як у каталогу не-беларускіх мастакоў, так і ў каталогу мастакоў беларускіх. У першым выпадку Шагал астанецца за абсягам Беларусі, а значыць, ягоная прысутнасць будзе вымкнутай з рэальнага кантэксту быцця, паколькі ён пазбавіцца месца ва ўласнай прасторы, дзе адно і можа адбыцца такая падзея, як чалавек. У адваротным выпадку (Шагал — беларускі мастак) ён згубіць сваё месца ва ўласным часе, бо этнас (і з гэтага — існа этнічнай належнасці) фармуецца ў часе і толькі там палягаюць каардынаты ягонага вымярэння.

У адрозненне ад беларусаў, для якіх у гэтым кантынууме час і прастора заўсёды былі тэмпаральна тоеснымі, габраі жылі на Беларусі са сваім, не адпаведным нашаму (а значыць і нашай прасторы), этнічным часам. І справа тут нават не столькі ў натуральнай біясацыяльнай рознасці, колькі ў тым, што этнічны час габраяў распачаўся на некалькі тысячагоддзяў раней і за гэты прамежак назапасіў у сваім руху тую кінетычную энергію, якой яшчэ не меў беларускі час і на якую не была разлічана яшчэ досыць статычная беларуская прастора.

"Я дрэва... вырванае з карэннем..." — казаў Шагал потым, пасля Віцебска. Трохі ніжэй мы вернемся да карэктнасці гэтага параўнання, а пакуль звернем увагу на іншае: Шагал усведамляў сваю вырванасць "з карэннем", але не ведаў, як веду, *што* яго вырвала. А між тым уся творчасць Шагала, скажам так, асновяднай пары, дэманструе, як гэтае *што* выкручвае, выцягвае, выломвае яго з угрунтаванасці ў віцебскі ландшафт. На тагачасных Шагалаўскіх маляваннях нават і тое, што насампраўдзе трывала і гарманічна ўцялеснена ў пабытовую рэалію, здэфармаванае так, як быццам яно разгойдваецца, каб вырваць сваю закаранёнасць з уцялесненасці ў тутэйшасць і падняцца над ёй, узляцець... Куды? Ды напэўна ў тыя эмпірэі, прастора якіх тэмпаральна супадала б з тым экзістэнцыйным часам, якім жыў Шагал.**

Урэшце Шагал разгойдаў трымалішча і вырваў сябе з віцебскага ландшафту, але ўсюды там, дзе Шагалу потым выпадзе мясціцца, яму не стане хапаць з чаго вырывацца, бо болей яго ўжо нішто не будзе трымаць як свайго (што да габрайства, то яно ніколі яго не "трымала", паколькі заўсёды было з ім паўз ягоную волю і пажаданасць).

Шырока рэкламаваная настальгія Шагала па Віцебску — гэта настальгія па месту, якое трымае цябе як замес свайго з-месту; вымыкаючы сябе адсюль "з карэннем", ты вымыкаеш сябе з сябе, нават калі робіш гэта дзеля таго, каб пазбавіцца не тоеснай твайму часу прасторы...

(І тады прастора латае тваю адсутнасць тваім сумам па *сваім* месцы ў прасторы...)

Адначасна мы мусім заўважыць, што гэтая настальгія не што іншае, як сведчанне наяўнасці пераважна прасторавай ментальнасці беларуса ў пераважна часавай ментальнасці габрая, бо са сваёй, толькі габрайскай існы Шагал аніяк не мог "быць дрэвам", якое сумуе па месцу сваёй нязрушанасці (пра гэта — ніжэй). Тым болей цікава (у аспекце прастора-часавага дуалізму ягонай экзістэнцыі) адзначыць, што "дрэва" назаўсёды застанецца ўлюбёнай метафарай Шагала. ("Бачыш дрэва і думаеш: а наша дрэва другое, неба другое, усё не тое, і з гадамі ўсё болей і болей адчуваеш, што сам ты "дрэва", якому патрэбныя свая зямля, свой дождж, сваё паветра..." (1936г.). "Глеба, якая наталяла карані майго мастацтва, — гэта горад Віцебск, але маладому жывапісцу патрэбен быў Парыж, як дрэву патрэбна вада, каб яно не засохла." (1950г.). "Як дрэва з Радзімы, вырванае з карэннем, я быццам вісеў у паветры. Але ўсё ж такі жыў і рос." (1973г.). Тут не лішнім будзе яшчэ заакцэнтаваць, што ў Шагала гэтае "дрэва" зусім не нейкае там

таму нельга яго і адмовіць. Нават калапсуючае жыцьцё, тое, якое ў любой ступені кароткае, для яго самога — да апошняга моманту зьяўляецца псіхічна апраўданым, а таму недарэмным, каштоўным. Нават момант калапсуючага выбару, шлях самазабойцы, пакуль не завершыўся, — каштоўны, бо паводле галоўнага судзьдзі, сябе самога — свабодны. Нават калі чалавек адмаўляе ўласнае жыцьцё, то робіць гэта не зусім шчыра. Або — не надоўга. Або — адразу ж выпраўляе ўчынак новым крокам. У рэшце рэшт, імгненьні самаадмаўленьня нічога ня значаць супраць пераважнае большасьці імгненьняў жыцьця, самакаштоўных у сабе праз свабоду выбару. У рэшце рэшт, прызнаемся, што Сізіф, коцячы камень угару, калі не апраўдвае кожную хвіліну працы, то хаця б несьвядома імкнецца гэта зрабіць. Прызнаўшы абсурд на словах, мы адмаўляем яго ў сэрцы. А здаўшы апошнюю цьвярдыню — дазваляем сьмерці гасьцяваць у нас, але толькі гасьцяваць, і ня больш...

(Я б хацеў піць жыцьцё, але ня так, як віно, а так, як п'юць халодную ваду ў гарачы дзень.)

А перад бліжнімі наш абавязак у тым, каб мы, пабочныя, не адмовілі чужое жыцьцё, гэтую адзіную каштоўнасьць чалавека. Калі той памрэ — каб не адштурхнулі яе. Каб пахваліўшы яго самога, не сказалі, што дарма патраціўся, або не пасьпеў, не дабёг да мэты. Не шкадавалі, нарэшце, таго, каму ўжо не патрэбныя шкадаваньні, а мудра прынялі ўрокі чужога жыцьця, паспрабавалі (хаця б паспрабавалі!) яго разгадаць. Так, ён быў, а значыць — быў шчасьлівы. Калапс існаваньня — гэта калапс сьвядомасьці. І нашая задача разарваць бясконцыя сілы сьціскаваньня. Гэта амаль немагчыма, але важна само імкненьне. Як мы спрабуем зразумець Бога, так мусім вывернуць на ліхі бок сьмерць, кропку пераніцаваць у бясконцасьць.

*Гэта лёс. Вы ня верце, што гэта стыхія,*
*пэўна трэба камусьці вось так*
*расказаць пра жывых,*
*каб пачулі глухія, відушчымі сталі сьляпыя*
*дый убачылі — зоркі ўзыходзяць*
*таксама й для іх.*
*Вось і ўсё.**

Вось і ўсё, што я магу сказаць пра гэтую сумную гісторыю.

Адзінае, чаго мы прагнем — гэта вечнасьці і шчасьця.

Спрабуем займець хоць адно. І, ня верачы ў вечнасьць, у вершах мяняем яе на імгненьне шчасьця. А Лермантаў, "паэт звышчалавецтва", ня верачы болей у шчасьце, вырашыў памяняць яго на вечнасьць: "Я б хотел навеки так уснуть, чтоб в груди дремали жизни силы..." Але й ён нічога не атрымаў.

Замест вечнасьці нам дадзена разуменьне, а ў ім — шчасьце; словы Сьпінозы "свабода — пазнаная неабходнасьць" можна растлумачыць і так: спазнаўшы непазьбежнае, мы супакойваемся і становімся ўнутрана свабодныя, шчасьлівыя.

Заместа шчасьця можна бясконца сузіраць, а ў сузіраньні — адкрываецца вечнасьць, ва ўсіх сваіх частках роўная сабе. Я проста гляджу на зялёнае поле...

* А.Сыс. "Маналог Рамуальда Жакоўскага" 1992г.

"дрэва-абстракцыя", а "дрэва" з канкрэтнага віцебскага ландшафту, як і ў сантыментах кожнага, ужо без усялякага "дуалізму", беларуса на чужыне. Разам з тым ... звернем яшчэ трохі ўвагі на апошнюю цытату: "Як дрэва з Радзімы, вырванае з карэннем, я быццам вісеў у паветры. Але ўсё ж такі жыў і рос." Для пераважна прасторавага мыслення беларуса, для мыслення таго, хто сапраўды, як дрэва, укаранёны ў гэтую зямлю, наўрад ці была б натуральнай метафара вырванага і павіслага ў абстрактным "недзе" дрэва, якое да таго ж яшчэ ў тым эфемерным "недзе" жыве і расце. Для беларусаў дрэвы не лётаюць, болей — не растуць у паветры. (Вядомы анекдот расказвае, што адзін паважны расейскі, у другім варыянце — беларускі чыноўнік з'едліва прамовіў з нагоды выставы карцін Шагала: "Евреи, да ещё летают". Ад сябе, нават з пэўнай зайздрасцю, заўважым: габрай, які не "летает" — ужо не зусім габрай.)

Шагал вялікі мастак, але мы не дамо веры Шагалу — ён не быў "дрэвам". Шагал не мог быць дрэвам ужо адно таму, што ён не баяўся вышыні. (Дрэва баіцца вышыні, і яно зусім не хоча быць высока, вышэй за магчымасці карэнняў утрымаць яго каля зямлі.) А Шагал увесь быў над зямлёй, у паветры, ён не толькі летуценіў, а фізічна, *увесь*, лётаў, лунаў, кружляў...

Чаму Шагал не баяўся вышні (беларус і ў казцы на неба лезе па драбінах)? Звычайна вышыні не баіцца той, хто набрыняў хуткасцю, у каго хуткасць руху (кінетычная энергія ўласнага — тэмпаральнага — часу) пераадолела страх цяжару цела (статыстычны цяжар уласнай — тэмпаральнай — прасторы) упасці і разбіцца. А яшчэ, пэўна, і таму, што: "Усе шляхі небяспечныя для нас, акрамя шляху, які вядзе на неба."***Габрайскі народ, гнаны да апошняга з бацькаўшчыны, абраў за Айчыну нябёсы. Ён, згарнуўшы прастору свайго бытавання да памераў тэксту пісанай Торы, толькі нагамі ступаў па зямлі (усюды яму чужой), а насампраўдзе жыў над дахамі і вершалінамі дрэў, там, дзе лётаюць птушкі і анёлы, здаралася, і яшчэ вышэй. Зрэшты, усё гэта добра відаць на малюнках Шагала, якія тапаграфічна дакладна пазначаюць геаграфію краіны ягоных супляменнікаў.

Але ўсё ж такі гэта былі людзі, а не анёлы, яны маглі жыць над *нечым* і не маглі ў *нічым*; і як ні шчылілі яны сябе ў вертыкальны прамень часу, цяжар цялеснасці раскатваў іх па гарызанталі зямной прасторы; і як ні ўціскалі яны гісторыю свайго бытавання паміж літар Торы, яна чаплялася, заблытвалася, гублялася ў хмызах, на гразкіх сцежках, сярод пясчаных выспаў і неяк прарастала



пакручастымі лёсамі скрозь абшар гісторыі беларускага краю... Потым гэтыя лёсы даводзілася выдзіраць адсюль, атрахаючы зямлю з карэнняў. Пясок атрахаўся, а зямля заставалася, трымала...

"Як я зайздрошчу ўсім Вам. Вы маглі быць на яго пахаванні, ісці па *нашай зямлі* (курсіў тут і далей мой. — В.А.) за яго труной, і паветра неба, таго самага неба, якое я так часта намагаўся аднавіць на сваіх карцінах, абдымала б вас. Чаму гэтае паветра не далятае да мяне сюды, у задушлівую прастору? Чаму лёс падзяліў мяне на *дзве часткі — цела тут — душа там*?" (Ліст у мінскую газету "Октябрь", з прычыны смерці Іегуды Пэна, 1937г.).

Гэтым, у высокім сэнсе меладраматычным эпізодам, бадай, можна было б і скончыць тэкст. Але апошні сказ цытаты патрабуе каментару.

... Не душа Шагала засталася (душа ў чалавека заўсёды пры сабе, што час пры гадзінніку), а *цела*, якое тут прастора вынайшла як яшчэ адзін з безлічы феноменаў самой сабе, і таму ўжо нідзе і ніколі гэтае *цела* не магло быць нечым іншым, акрамя як феноменам тутэйшай прасторы.

* Эсэ напісанае з нагоды Першага Міжнароднага Шагалаўскага пленэру, які меў месца гэтым летам у Віцебску.

** Тут магчыма яшчэ адно меркаванне: дэфармуючы ландшафт Віцебска, Шагал маляваў ландшафт Беларусі, тоеснай габрайскай духовай сітуацыі. Ён не пераносіў на Беларусь цьмяныя згадкі, міфы, алюзіі, крохкія гістарычныя рэаліі бацькаўшчыны сваіх продкаў, а перастварaў Беларусь так, як быццам яна была гістарычнай радзімай габраяў, была, але чамусьці не адбылася ў гэтай якасці...

*** Пётр Абеляр. "Дыялог паміж філосафам, габраем і хрысціянінам" (1141 — 1142гг.)

Сяргей ШЫДЛОЎСКІ

# ЯН БАРШЧЭЎСКІ І БЕЛАРУСКАСЦЬ



Загадзя ведаю, — натуральна і лёгка будзе пісацца аб тым, ШТО ТАКОЕ Беларусь, чымсьці аб тым, ЯКАЯ яна — што за смак, колер, настрой у беларускай існасці...

Я не адчуваю сябе беларускім патрыётам. Я — беларускі нацыяналіст. Што да паняцця "патрыятызм", то яно заўсёды атаясамлялася ў маім разуменні аднае з Полацкам. (У беларуса, зазвычай, не проста, "дзве душы", — самае малае ён мае іх дзве ў кубе.)

Дзеля майго нацыяналістычнага "Я" Беларусь надта маленькая, адначасова як дзеля мяне — патрыёта — яна надзвычай вялікая, не ўяўляю сабе Беларусь гарадзенскую, Беларусь гомельскую... Як патрыёт, я ведаю адну Беларусь — Полацкую, з яе ваколіцамі ад Віцебска да Менска...

Ян Баршчэўскі — ліцвінскі патрыёт, чалавек польскай культуры, палачанін, беларус, — ён здолеў разамкнуць духовыя межы Полацка на Захад і адначасова пашырыў гэты абшар за кошт Захаду. Дзякуючы гэткай культурнай дыфузіі — з захаду на ўсход, з поўначы на поўдзень, з мінуўшчыны ў будучыню, — злітоўваліся аскепкі гвалтоўна парушанай духовай лучнасці, што спрадвеку існавала тут. Калі раней на яе сцягах было накрэслена Полацк, потым — Літва, то цяпер яна паўстала пад новым назовам — беларускасць...

Ян Баршчэўскі для мяне не проста першы беларускі празаік Новага часу, перадусім — ён першы беларус сярод ліцвінскай шляхты. З яго пачалося вяртанне шляхецкай інтэлігенцыі да тутэйшасці — да каранёў свайго народа.

* * *

Напачатку было слова... Зрэшты, чаму Беларусь — Беларусь, чаму не Русь, чаму не Літва?

... Тры падзелы Рэчы Паспалітай пакінулі незагойную рану ў нацыянальнай памяці палякаў. Што да беларусаў, дык гэтыя падзеі для іх засціў і зрабіў мізэрнымі чацвёрты падзел — падзел культурна-гістарычнай спадчыны іх дзяржавы (ВКЛ) паміж Польшчаю, якая ўважала афіцыйную (каталіцкую) культуру Вялікага княства за свой духовы набытак, і Расеяй, да якой адыйшло астатняе — праваслаўная спадчына "Літоўскай Русі". Гэтак была ўчынена гвалтоўная спроба пазбавіць дзесяцімільённы народ з тысячагадовай гісторыяй мінулага і права на будучыню.

Насамсправе, духовыя карані нацыі — традыцыйная народная культура — захаваліся цалкам. Што да элітарнай магнацка-шляхецкай культуры, то яе скон быў прадвызначаны даўно. Агонія гэтай апошняй у збуржуазіўшайся Еўропе патрыцыянскай, касмапалітычнай цывілізацыі доўжылася цэлае стагоддзе. Рокашы ды барацьба зрабіліся сапраўднай радзімай ліцвінскай інтэлігенцыі, бо іх "Літва-айчына" — як раптоўна расцвіла калісьці сярод балот ды пушчаў дрыгавіцка-крывіцкай пространі, гэтак раптоўна і знікла, пакінуўшы па сабе аднае прывіды ды ўспаміны, вярэдзіўшыя сваёй веліччу сэрцы апошніх ліцвінаў.

... Ліцвінскасць заўжды была хутчэй адзнакаю прыналежнасці да адмысловага духова-культурнага ордэна, інтэлектуальнага клуба Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна Еўропы, чымсьці нацыянальнасцю. Яна складалася з сімбіёзу каталіцкай, праваслаўнай ды пратэстанцкай субкультур, калі два апошнія элементы ў гэтым звязе (праваслаўе ды пратэстанцва) пачалі слабнуць — прыспеў пачатак скону.

Ды і Новы час — XIX стагоддзе — быў ужо эрай нацыяналізму і мононацыянальных дзяржаваў. Універсалізм і поліэтнічнасць, на падставе якіх будаваўся светапогляд ліцвінаў, зрабіліся анахранізмам. Ратаваць рэшткі былой велічы магло толькі стварэнне нацыянальнай дзяржавы, ды яшчэ было незразумела, — якая нацыя можа прэтэндаваць на літоўскую спадчыну. Большасць ліцвінаў бачылі ў гэткай ролі адно Польшчу, хтосьці — Расею, але будучыня была за тымі, хто зрабіў выбар на карысць тутэйшасці — за летувіцкі ды беларускі нацыяналізм.

Беларусь магла быць толькі Беларуссю — шляхам у будучыню, злітаваннем разарванага.

Беларусь не магла быць Літвою. Бо прывідная Літва, — што тыя аблудныя агеньчыкі на Дрыгве, якія знянацку з'явіўшыся, пачнуць зваблiваць і раптам знікнуць, пакінуўшы вас у балоце — балоце старых праблемаў, старых непаразуменняў, старых прымхаў...

Беларусь не магла быць Руссю ("Северо-Западной" ці яшчэ якой). Бо Русь — гэта грунтоўная, на стагоддзі збудаваная пастка; бо ў імені Русі — вар'яцтва ды кроў, цяжар чужых амбіцый ды спадчынны праклён за ганарлівасць візантыйскага свету.

Беларусь магла быць толькі Беларуссю — адраджэннем усяго жывога ды творчага: дзяржаўнага духу полацкіх крывічоў і культурніцкай мабільнасці каталіцкага захаду... Беларусь выспявала ў сутворчасці розных станаў ды канфесій.

* * *

Культуралагічная значнасць выхаду ў свет 150 год таму першага тома "Шляхціца Завальні" (1844) можа быць параўнана з вынікамі адкрыцця Калумбам Амерыкі, — кніга Яна Баршчэўскага таксама "адкрывала" — у самым сяродку Еўропы — новую terra incognita — зямлю неспазнаную, у назове якой было штосьці ад яе ранейшага статуса "белай плямы" на карце свету — Беларусь.

Ліцвінскія інтэлектуалы адразу ж успрынялі гэтую кнігу менавіта як адкрыццё. Геаграфічны тэрмін "Беларусь" быў вядомы здавён, але Баршчэўскі здолеў адлюстраваць не толькі этнаграфічную экзотыку Падзвіння — Беларусі, але і выявіў дух гэтай легендарнай зямлі, здавалася, даўно згаслы... Калі б Беларусі не існавала, яе трэба было б вынайсці, але яна БЫЛА — імпэтны дух полацкіх крывічоў ізноў паўставаў з попелу — абноўлены, прагны да творчасці.

Хоць далейшая канкрэтызацыя і матэрыялізацыя беларускасці была справай, галоўным чынам, прадстаўнікоў заходняй Беларусі, як яе тады іменавалі, Літвы (Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч), але беларускі ўсход не быў пасіўным бокам у нацыянальна-адраджэнскім працэсе XIX стагоддзя... Што ж, як не дух гэтай зямлі прамаўляў вуснамі Яна Баршчэўскага.

... Полацк — калыска Беларусі, Вільня — радзіма беларускасці, — на стрыжні двух гэтых скраняў крышталізаваўся беларускі дух... Цяпер, як і тады, раўнавага гэтай сістэмы вымагае, каб Полацк заставаўся дзёрзкім,ды трохі барбарскім, як і належыць быць радзіме легендаў.

* * *

Дзякуючы кнізе Яна Баршчэўскага полацкацэнтрычны патрыятызм набыў агульнанацыянальнае гучанне,даў штуршок, выйгрышны ход для, здавалася, назаўжды згаслага этнасу.

Кожная самабытная культура — гэта адмысловая поліфанія, непаўторны арнамент — адбітак духова-гістарычнага шляху народа. Гэткі суплёт шматгучча і шматколернасці немагчымы без унутрынацыянальнага дыялога і дыфузіі. Нельга адкідаць разнастайнасць, — каб не ператварыць беларушчыну ў руціну.




Ева ЛЯВОНАВА

# ЖЫЦЦЁ ІДЗЕ?..

## (Алесь Асташонак. "Няўжо я памру?..": Вопыт прачытання)



Пачну з таго, што большасць літаратурных твораў, якім бы аператыўным наш зварот да іх ні быў, даходзіць да нас, як правіла, ужо *прачытанымі*. Заўсёды хто-небудзь пра гэта паклапоціцца. Калі не літаратуразнаўчы аналіз, дык рэцэнзія, калі не прадмова ці пасляслоўе, дык хоць анатацыя ў два-тры сказы —ды знойдзецца, каб цябе падрыхтаваць належным чынам, каб не пакінуць самнасам з творам. У дадзеным выпадку спачатку быў твор, пранікненне ў "інтымныя элементы" якога абяцала адкрыццё таямніцы.

"Вопыт тэатра абсурду" ("Культура" №4, 1994г.) — гэтак вызначыў жанр свайго твора А.Асташонак. На Захадзе, перадусім у Францыі, тэатр абсурду склаўся ў 50 — 60-я гады. Э.Іанэска і С.Бэкэт, Ж.Жэнэ і Ф.Арабаль, Г.Пінтэр і С.Мрожак, Т.Стопард ды іншыя прапанавалі чытачу і гледачу сваё нетрадыцыйнае бачанне чалавека і жыцця. Існуюць розныя вызначэнні гэтай драматургічнай з'явы: "тэатр жарту" (Э.Жакар), "новы тэатр", ці "тэатр парадокса" (Э.Іанэска) і г.д., але ў шырокі ўжытак увайшло менавіта вызначэнне "тэатр абсурду", якое належыць англійскаму гісторыку тэатра М.Ю.Эсліну. Слынны чэшскі драматург В.Гавел піша аб тэатры абсурду як аб "самай значнай з'яве ў тэатральнай культуры дваццатага стагоддзя", бо менавіта ў ім знайшоў увасабленне сучасны чалавек — у стане крызісу, без колішняй сваёй метафізічнай абалонкі. "...мне здаецца, што калі б тэатр абсурду не існаваў ужо да мяне, мне б належала яго выдумаць", — робіць адметную выснову В.Гавел.

Апошнім часам, калі статус паўзабароненага з тэатра абсурду зняты на Беларусі, цікавасць да яго ў нас стала відавочнай. Дастаткова звярнуць увагу на афішы тэатраў, сталых і пачынаючых, акадэмічных і альтэрнатыўных, каб пераканацца: амаль кожны з іх лічыць справай гонару паставіць тую ці іншую антыдраму. Прычыны гэтай цікавасці — не толькі ў актуальнасці праблем, што быццам сышлі да нас са старонак п'ес тэатра абсурду (ці наадварот), але, зразумела, і ў магчымасці вольнага эксперымента, якой доўгія дзесяцігоддзі так бракавала нашай літаратуры. Што ж да актуальнасці, то вызначэнне "тэатр абсурду" можа быць смела скарыстаны — і скарыстоўваецца — у якасці найдакладнейшай формулы нашага жыцця. Яно пераходзіць з газеты ў газету, з часопіса ў часопіс, яно крычыць аб сабе на кожным кроку нашага ўласнага побыту. Вось і В.Быкаў, канстатуючы, што "больш за 70 год мы жылі ў алагічным, перавернутым, прывідным свеце ілюзій, да якога прыстасаваліся... фізічна і маральна", папярэджвае аб наіўнасці спадзяванняў на "новы" час: "Настае царства парадоксаў, вяртаецца наша звыклае царства абсурду — гэта бясспрэчна". Не дзіўна, што цікавасць да антыдрамы прасочваецца і ў нашай літаратуры, даючы аб сабе знаць у творах А.Асташонка, Б.Пятровіча, І.Сідарука і некаторых іншых, прычым на ўзроўнях як паэтыкі, так і філасофіі.

Татальная парадаксальнасць чалавечага існавання — гэтая праблема ў розных сваіх варыянтах паўставала са старонак і сцэн тэатра абсурду. Адна з галоўных яна — і ў творах А.Асташонка, прычым не толькі драматычных. "Жыццё ідзе" — назваў ён адно са сваіх апавяданняў. Ідзе? А калі і ідзе, дык ці жыццё? У маім успрыняцці гэтая назва настойліва прамаўляецца з запытальнай, а не са сцвярджальнай інтанацыяй. У нядаўна апублікаваных філасофскіх "Эцюдах" чытаем: "Жыццё, як вядома, — скрозь адны парадоксы. І, адпаведна, літаратура. Парадаксальнасць пісьма становіцца істотным вымярэннем ягонай вартасці".

В.Гавел, маючы на ўвазе тэатр абсурду, перасцерагаў: "У драматурга гэтага тэатра няма ніякага ключа". У дачыненні да "вопыту тэатра абсурду" гэта не зусім так. Ключ ёсць. Дакладней, ключы, з мноства якіх трэба выбраць тыя, што падыходзяць да дзвярэй гэтага твора. У якасці такіх ключоў успрымаюцца, акрамя аўтарскага жанравага вызначэння, найперш імёны Бэкэта і Іанэска, экзістэнцыяльны вопыт герояў якіх лёгка пазнаецца ў "Рэпетыцыі" (загаловак п'есы).

"У Бэкэта з Іанэска менш складана", — гучыць з вуснаў аднаго з ананімных персанажаў А.Асташонка. Дастасоўваў ці не аўтар гэтыя словы да свайго "вопыту", можна толькі здагадвацца. І ўсё ж, здаецца, гэта адзін з "намёкаў", адна з праяў своеасаблівай і паспяховай аўтарскай сугестыі.

Праўда, пры параўнанні, з аднаго боку, антып'ес Бэкэта і Іанэска, а з другога — "Рэпетыцыі" можа, на першы погляд, здацца, што мы маем справу з істотна рознымі сітуацыямі. У Бэкэта і Іанэска не паддаюцца канкрэтнаму, адназначнаму тлумачэнню самыя простыя рэчы (дастаткова ўспомніць славутыя "У чаканні Гадо" ці "Лысую спявачку"), што б гэта ні было: асоба, месца і час дзеяння, сэнс занятку ці знаходжання і г.д. Напрыклад, хто такі Гадо ў Бэкэта — Бог, Лёс, рэальны чалавек, фантом, нейкая Апошняя Надзея? У А.Асташонка героі як быццам "пры месцы" і "пры справе". Ды вось менавіта "як быццам". Што такое "Рэпетыцыя"? Ці аўтар "падслухаў" фрагмент рэпетыцыі нейкага спектакля, у якім адсутнічае сэнс, думка, а, гаворачы словамі аднаго з герояў, "адсутнасць думкі па мізансцэнах не расставіш"? Ці, можа, акцёры абменьваюцца рэплікамі ў антракце? Шэраг спроб канкрэтызацыі прапанаванай нам аўтарам сітуацыі можна было б працягваць, але кожнае гэткае канкрэтнае прачытанне акажацца сумніцельным, як і ў выпадках з Бэкэтам ці Іанэска. У любым выпадку толькі ім абмежавацца немагчыма. Да нашай свядомасці непазбежна апелюе іншы — глыбінны, падтэкставы, метафізічны — узровень твора, філасофска-сімвалічнага злепка з жыцця. Між іншым, полісемічнасць як сітуацыі ў цэлым, так і асобных дэталяў "вопыту" выклікае асацыяцыі са знакамітым "тэатрам чакання", або "тэатрам маўчання" —сімвалісцкай драмай вялікага бельгійца М.Метэрлінка, які, безумоўна, быў адным з папярэднікаў тэатра абсурду.

Зрэшты, калі нават застацца на адным з памянёных вышэй канкрэтных узроўняў своеасаблівага скетча А.Асташонка, то і тады зварот да яго не быў бы марным, бо праблема дэгуманізацыі акцёра, ператварэння яго ў рупар той ці іншай ідэі, у інструмант, што не мае ані розуму, ані ўяўлення, у звяно абсурднай схемы — надзвычай актуальная і стабільна прыцягвае ўвагу драматургаў, тэарэтыкаў і практыкаў тэатра. Хаця, па ўсім бачна, што не канкрэтна-сацыяльны ці канкрэтна-маральны, а экзістэнцыяльны стан чалавека турбуе аўтара "Рэпетыцыі".

Дарэчы, чаму менавіта тэатр стаў у сусветнай літаратуры заўсёднай сітуацыяй для ўвасаблення мастакоўскіх канцэпцый чалавека і жыцця? І да Шэкспіра, і пасля яго не раз у розных варыянтах гучала славутае: жыццё — тэатр, і кожны чалавек — акцёр у ім. Можа, часцей за іншых апошнім часам дэкляруе гэтую сітуацыю якраз тэатр абсурду. Напрыклад, драматургія Бэкэта, узятая ў цэлым, уяўляе сабой разгорнутую метафару "жыццё — тэатр", дзе адны п'есы набываюць сэнс экспазіцыі, іншыя — спецыфічнай кульмінацыі ці развязкі (паказальныя самі назвы п'ес: "Тэатр I", "Тэатр II", "Гульня", "Сцэна без слоў" і г.д.). Што датычыцца Іанэска, то "Лысая спявачка", па ўласным яго прызнанні, па першапачатковай задуме павінна была быць "пародыяй на тэатр" і, як вынік, — "на пэўны тып чалавечых паводзін". "... я хацеў парадзіраваць тэатр, гэта значыць свет"... —зробіць неяк паказальную выснову-ўдакладненне Іанэска.

Формула "жыццё — тэатр" дастасуецца і да "Рэпетыцыі". У гэтым скетчы матэрыялізаваліся адчуванні страху, трывогі, разгубленасці, абсурднасці чалавечага жыцця. Філасофскае пытанне аб сэнсе жыцця і смерці — агульнае для французскіх і беларускага пісьменнікаў. Праўда, у тэатры абсурду ўвогуле не знойдзеш філасофскіх дыспутаў, якімі адметныя, напрыклад, п'есы Ж.П.Сартра. Дарэмна шукаць у антыдрамах і не прымальнай для яе аўтараў брэхтаўскай дыдактыкі. Ды падтэкст часам банальных, утрыраваных нават калізій тэатра абсурду, бясспрэчна, філасофскі. У іншых, недраматургічных, творах мастакоў ён гучыць ужо "адкрытым тэкстам". Параўнаем: "...навошта я пішу?.. Ці я баюся смерці і жадаю пасля сваёй фізічнай смерці працягваць жыць у іншых?" (Іанэска, "Нататкі за і супраць"); "Жыццё адно — другога не будзе" (А.Асташонак, "Формулы асобы"); "Жыццё — калі жывеш. Смерць — калі паміраеш. А калі жывеш паміраючы ці паміраеш жывучы? Ці калі ўжо памёр, але яшчэ жывеш? Што тады? Жыццё — смерць? Смерць — жыццё?.." (Яго ж "Эцюды"); і, нарэшце, сама назва "вопыту" "Няўжо я памру?..". Ці не ва унісон гучаць гэтыя пытанні? Вось толькі гатовых адказаў на іх няма. Жыві — і шукай, шукай — і жыві. Ці не ў самім гэтым пошуку — жыццё? Прынамсі, для тых, каго ў адным з "Эцюдаў" А.Асташонак назваў "непранумараванымі". Для астатніх — "рынацэрасаў", "насарогаў", людзей, пазначаных "сіндромам баранавасці" (Іанэска), ці "шэрых", "цвілі" (А.Асташонак) — пытанняў не існуе.

Канцэптуальна важнай у выпадку з "Рэпетыцыяй" (і ўвогуле з тэатрам абсурду) з'яўляецца сама фактура твора. Адсутнічае злітнасць асобных элементаў, рэальнасць трансфармуецца, дамінуе гратэск, структура скетча па-сюррэалісцку спалучае ў сабе нес-

## Дыялог

— Дык вось такая ў мяне гісторыя...
— Не пазайздросьціш.
— То ж я табе й кажу...
— І не кажы.
— Дык чуеш? Яна мне кажа: не падабаецца — разводзься...
— Ага — разводзься...
— Я ёй: кідай ты гэты занятак, — а яна мне: разводзься, раз не падабаецца...
— Раз не падабаецца — разводзься. Зь песьні слова ня выкінеш.
— А...
— Лухта ўсё гэта. Г... — расьцёртае на рыдлёўцы.
— На рыдлёўцы?.. расьцёртае?..
— Г... ёсьць г... Што расьцёртае, што не расьцёртае. Што на рыдлёўцы — што не.
— А яна мне яго перад вачыма кладзе... На вачох...
— Каго — яго?
— Г..., як ты кажаш...
— Баба...
— А колісь такая лагодная была...
— Мая таксама. Рыдлёўка..
— Гэта яны ўмеюць: душу што рыдлёўкаю — разьвярэдзіць... Ды дзе там рыдлёўкаю. Віламі!..
— Баба — экскаватар у душы ў чалавека. А яна й так пакутная. Душа чалавека.
— Трапна ты. Экскаватар...
— То й ня кісьні. Схадзі ў царкву сьвечку пастаў, што збаўляе.
— Дык хіба ж можна так — з-за гэтага разводзіцца?..
— Заўтра футбол.
— Дзеці...
— Дзеці вырастуць.
— Пятнаццаць яшчэ малой.
— І маёй таксама. У інстытут паступаць будзе. Сучасных ведаў.
— А мая — у "іняз"... У лінгвістычны універсітэт.
— Сучасных ведаў лепей. Су-часных. Дык як ты думаеш — намалоцяць яны албанцам у Тыране?

# СПАГАДА

— У маёй па ангельскай заўсёды адны пяцёркі...
— Я мяркую, як піць даць — намалоцяць. У сухую. Паглядзіш.
— А што як раптам... яна з-за разводу гэтага... не паступіць?..
— Паступіць — калі па матэматыцы адны пяцёркі.
— Па ангельскай. Яна ж у лінгвістычны.
— А мая — у сучасных ведаў.
— Дык я пра сваю...
— Я слухаю. Ты не смуткуй. Давай вось зьездзім у Тырану.
— У Тырану?
— А што? Я там ніколі ня быў.
— І я...
— А дзе я быў?..
— Я ў Польшчы...
—Замежжа...
— Да Тыраны, пэўна, зь білетамі цяжка.
— Прарвёмся. Штодня дзе толькі не прарываемся.
— А навошта яна табе — Тырана?..
— На помнік Ходжу пагляджу.
— Там маўзалей.
— Ня зьнесьлі?
— На пліты, мабыць, разабралі.
— "На брацкіх памежжах ня ставяць слупоў..."
— Ты гэта чаго?
— "Ня ставяць слупоў на брацкіх памежжах..."
— А-а... Дык навошта яна табе — Тырана?.. Хоць там і маўзалей...
— Я ў Парыж ня зьездзіў...



— А мая... дачка... як паступіць... дык другой мовай нямецкую стане вывучаць... Вырашыла так.
— А я французскую вывучаю...
— Як ты думаеш, паступіць яна, калі па ангельскай заўсёды адны пяцёркі?..
— Заканапацілі мне Парыж...
— Што?..
— Я ж сам у "інязе" вучыўся... Дык мяне ў Парыж на стажыроўку не пусьцілі...
— Хто?
— Штаны... шырокія... клёш... Я ж другі ва ўсім інстытуце клёшы пашыў... Доўгія валасы... па каўнер...
— Ты пра што гэта?..
— Марнасьць марнасьцяў... Рэктарка дужа строгая ў нас была. Мааісцкія парадкі...
— А я ў наргасе вучыўся. Бухгалтарскі ўлік. А мовы сам вывучаў. Ангельскую і французскую...
— Во такая во нескладуха... Што тры, што ня тры... Дык лепей зусім ня церці.
— Уявіць сабе не магу, як так можна: не падабаецца — разводзься... З-за чаго?..
— Pas de bonheur dans ma vie...[1] Пат Бонар.[2]
— Пат?..
— Бонар. Ветэран...
— Алена Бонэр?..
— In the town where I was born...[3]
— — Надвор'е якое паганае... Што ў душы... А то нядаўна еду, туман, здаецца... над возерам... а там... поле...
— Над полем туман... Возера табе прымроілася... Sell, sell, sell... Buy, buy, buy...[4]
— Good-вye, мy love, good-вye...[5]
— Goodness — goodness...[6]
— Дык як так можна?.. За што?..
— Можна ўсё, што нельга.
— Ты думаеш?.. А што льга... — ня можна?..
— I see, see the writer...[7]
— Writer I am...[8] Слупы... Кругом адны слупы... Слупы, слупы, слупы... I am writer...[9]
— Don't regret.[10]
— Tandis que j'agonise...[11]
— Viele Streiche fallen die Eiche.[12]
— A quoi bon?[13]
— Scio me nihil scire...[14]
— Last year I've bought le frigidaire...[15]
— Chi, ragazzo, chi?.. Cdzie tu mogę kupic vysavac prachu?.. That is the question...[16]
— Сонца пекнае... Як кавуны зялёныя...
— Калі холадна — горача...

---

[1] Няма шчасьця ў маім жыцьці (франц.; з "інязаўскага" фальклёру).
[2] Ірландскі футбольны варатар.
[3] У горадзе, дзе я нарадзіўся (англ.; радок зь песьні "Бітлз").
[4] Прадавай, прадавай, прадавай... (англ.; радок зь песьні Алана Прайса з фільма "О, шчасьліўчык!") ...Купляй, купляй, купляй (англ.).
[5] Бывай, мая любоў, бывай (англ.; радок зь песьні Дэміса Русаса).
[6] Добрасьць-добрасьць (англ.).
[7] Бачу, бачу пісьменьніка (англ.; радок зь песьні Гары Глітара).
[8] Пісьменьнік я (англ.).
[9] Я пісьменьнік (англ.).
[10] Не шкадуй (англ.).
[11] Тым часам, як я паміраю (франц. назоў рамана У.Фолкнэра).
[12] Сьцёбамі й дубы валяць (ням. прымаўка).
[13] Навошта? (франц.).
[14] Я ведаю, што я нічога не ведаю (лац.; пераклад Сакратавых слоў з платонавай "Апалогіі Сакрата").
[15] Летась я купіў (англ.) лядоўню (франц.).
[16] Хто, хлопец, хто (італ.; перагук з радком зь песьні Адрэана Чэлентана)?.. Дзе тут можна купіць (пол.)... пыласос (славацк.)?

**Пераклаў з жыцьця Алесь АСТАШОНАК**

палучальнае, сумяшчае несумяшчальнае. Гратэскны свет знаходзіць сваё — гратэскнае — увасабленне, і як вынік — адчуванне абсурднасці, ірэальнасці рэальнага.

Праўда, пры жаданні ў "вопыце" можна ўгледзець нават нешта накшталт кампазіцыі. Ды чаму накшталт? Ці не той жа Іанэска падкрэсліў: "часам адсутнасць структуры — гэта і ёсць структура". "Рэпетыцыя" будуецца па прынцыпе дэструкцыі, калейдаскопа, мантажу асобных рэплік "па інтарэсах". У гэтым сэнсе яна нагадвае п'есу В.Гавела "Паведамленне": у апошняй таксама адначасова вядуцца дзве гаворкі (а колькі іх у "Рэпетыцыі"?) на зусім розныя тэмы.

Фактура "Рэпетыцыі" нават ускладняецца — праз адсутнасць рэмарак, якія звычайна маюць месца і ў Бэкэта, і ў Іанэска, праз ананімнасць персанажаў — яшчэ адзін сродак стварэння масавага партрэта, безасабовых асоб, перадачы псіхалагічнага стану людзей, ізаляваных ад сваіх сапраўдных памкненняў, неадэкватных уласнаму "я", уніфікаваных і дваістых аднačасова, людзей-функцый. (Яшчэ адна асацыяцыя — з французскім "новым раманам", у прыватнасці — з прозай слыннай Н.Сарот). Вось ужо сапраўды меў рацыю М.Чэхаў, калі ў свой час сказаў: "Будучыя п'есы немагчыма будзе чытаць — іх можна будзе толькі ставіць".

Кантэксту еўрапейскай антыдрамы адпавядае і хранатоп "Рэпетыцыі". Асяроддзе, у якім дзейнічаюць героі (ці, хутчэй, не-дзейнічаюць антыгероі), — замкнёная прастора ("тэатр"), што акцэнтуе несвабоду чалавека, немагчымасць хоць нешта змяніць у існаванні "мёртвага дома", "фермы" (празрыстая арыентацыя на Оруэла), і ў сваім асабістым — таксама. Гэтае асяроддзе нават цяжка ўявіць як фізічнае: пустата, ці, наадварот, суперасяроддзе, сюррэальнасць. Тое ж можна сказаць і пра час: яго няма ў традыцыйным сэнсе. Нездарма тэатр абсурду найменавалі яшчэ "тэатрам спыненага гадзінніка". Зноў успомнім Іанэска: "Кожны час патрабуе нейкай "пазачасавасці", якую немагчыма перадаць сродкамі часу і звычайнага кантакту".

Прысутнасць Бэкэта і Іанэска даюць аб сабе знаць і ў цыклічна-таўталагічнай пабудове "Рэпетыцыі", і ў "моўным кодзе" апошняй, які таксама працуе на раскрыццё алагічнасці быцця, адчужэння людзей. Наўмысная неўпарадкаванасць, цьмянасць адчуваецца на працягу ўсяго скетча, а бліжэй да фіналу, як і ў "Лысай спявачцы" Іанэска, задзейнічаны прыём давядзення мовы амаль да параксізму. Ствараецца ўражанне аўтаномнага, паасобнага існавання мовы і дзеяння. Як заўважыў Іанэска, "ніхто нікога па-сапраўднаму не чуе, калі не хоча пачуць. Размова глуханямых". "Мара аб мове", — сказаў Ж.П.Сартр пра тэатр Іанэска. Гэтыя словы можна дастасаваць і да антыдрамы ўвогуле, і да "вопыту тэатра абсурду", у прыватнасці.

Пры ўсім тым, што асноўны сэнс п'ес тэатра абсурду — у падтэксце, у іх раз-пораз сустракаюцца філасофскія сентэнцыі — свайго роду семіятычныя знакі, саломінкі ў віры абсурду. І ў А.Асташонка гэтыя сентэнцыі — як "кроплі логікі ў абсурдным свеце", што прымушаюць задумацца аб прычынах знікнення чалавечага ў чалавеку ("Удзень з ліхтаром шукаем чалавека..."), яго ізаляванасці ("...усе жывуць у акварыуме..."), аб бесперспектыўнасці інертнага існавання ("Жыць сумна..."). Уражанне —нібы ад твораў Кафкі, уплыў якога на тэатр абсурду, зноў жа, — безумоўны.

Але ў Кафкі, як адзначыў калісьці А.Камю, абсурд ідзе поруч з надзеяй, хоць надзея гэтая набывае незвычайную форму. Пра тэатр абсурду таксама можна сказаць, што ў ім "яскрава бачная сувязь абсурду з празмернасцю логікі" (Камю). Прасочваецца гэтая сувязь і ў "вопыце тэатра абсурду". Яго персанажы яшчэ ў стане задаваць пытанні, заўважаць праявы канфармізму, адчайвацца. Значыць, надзея — няхай Апошняя — застаецца. Тэатр абсурду — заўсёды мае ў сабе своеасаблівы правакацыйны дыскурс. І аўтар "Рэпетыцыі" правакуе нас на пошук — чалавека, сэнсу, існасці, надзеі.

## Гледзішча

ЮНАЦТВА

што ўрываецца ў нашае жыццё трапяткім пранізлівым

першым каханнем

ПЯШЧОТА

што сэрца болем ірве ва ўспамінах

аб страчаных людзях

ДАБРЫНЯ

ўсёдаравальная якую на злосць у крыўдзе сваёй

разменьваем

ЧЫСЦІНЯ

якую бы зношаную кашулю на хаду смеючыся

скідаем

ВЕРА

наіўная і безразважная якую ў стоме топчам бяздумна

на дарозе жыцця

НАДЗЕЯ

дзёрзкая й ўпартая што запылілася ўжо забытая

на пакутнай гэтай дарозе

КАХАННЕ

звонкая птушка ў чыстым блакіце якой мы так жорстка

перабіваем крылы

ВЕРНАСЦЬ

цяжкая і салодкая што лягчэй сем разоў парушыць

чым раз захаваць

Колісь бачыў вас толькі разам




# МІКЕЛАНДЖЭЛА

**Падаю тут у сваім перакладзе з нямецкай мовы вершы (пераважна санеты) Мікеланджэла. На жаль, не ведаю італьянскай і рабіў пераклад з перакладу. Канешне, не лепшы спосаб знаёмства з паэзіяй вялікага майстры. Але я настолькі быў зачараваны Мікеланджэла-паэтам, што не мог устрымацца, каб не паспрабаваць — хоць з перакладу — перадаць нешта з ягонай паэзіі па-беларуску.**

**У некаторых выпадках я свядома — дзеля большай экспрэсіўнасці — парушаў схему рыфмоўкі, а то й перакладаў верш прозай. Спадзяюся ўсё ж, што мой пераклад хоць у нейкай ступені дасць чытачу ўяўленне пра цудоўную паэзію Мікеланджэла.**

**Даследчык творчасці Мікеладжэла Готліб Рэгіс даў такую характарыстыку паэзіі вялікага фларэнтыйца:**

**"У нешматлікіх і дзеля гэтага малавядомых вершах Мікеланджэла можна лёгка заўважыць якасці, што характэрны і для ягоных карцін і статуяў. Шчырае здзіўленне перад прыгажосцю, глыбокая замілаванасць прадметам свайго кахання, шчымлівы сум з повадў расстання, боль дзеля недастатковасці жыцця, адсюль меланхолія, імкненне вызваліць сябе з зямных путаў. У той час як у сваіх вершах Мікеланджэла з нечуванай адкрытасцю выказвае сваё захапленне перад прыгажосцю і магутнасцю жаночага пачатку, у сваіх іншых мастацкіх творах ён аддае перавагу мужчынскаму прынцыпу".**

**Некаторыя з перакладзеных тут вершаў Мікеланджэла напісаў у апошнія дні свайго жыцця, калі ўжо цела ўступала вечна нязгаснаму духу.**

**Масей СЯДНЁЎ**

* * *

*Вярні мне час, калі свабодны й смелы,*
*сляпой я жарсці ход даваў.*
*Калі на свеце ўсё я блаславіляў*
*і быў гатоў абняць свет цэлы.*

*Дай ты маёй душы і крокам анямелым*
*той гарт, што я калісьці знаў.*
*Пашлі мне чар і зваблівасць уяў,*
*калі я ўскрэсну зноў душой і целам.*

*Але, Амур, у жарсці тваёй вечнай,*
*заўжды салодкай, небяспечнай,*
*дай мары маёй іншай збыцца:*

*калі на беразе другім я апынуся,*
*забыўшы ўсе твае спакусы,*
*паходняй іншага кахання асвяціцца.*

* * *

*Не толькі смерць, а страх прад ёй,*
*прад ейнай звабна-д'ябальскай рукой,*
*што ў кожны міг схапіць цябе гатова,*
*ці падманіць надзеяй новай —*
*не толькі гэта ўсё: страшней,*
*што не ўваскрэснеш ты*
*з адвечнай нематы.*
*І падманіць сябе ўжо нечым,*
*бо там, дзе смерць — Амур там гасіць свечы.*



## АМУР

*Я тысячы разоў не толькі пераможан —*
*смяртэльна ранен быў тваёй стралой.*
*Пашто ж цяпер, калі блішчу я сівізной,*
*падманьваеш мяне ты жарсцяю бязбожнай?*

*Ты ведаеш, не быў з табой я асцярожны:*
*і сэрца забіраў маё ты і спакой.*
*Нізрынуць шпораю сваёй*
*ты пагражаў мне ў хвілі кожнай.*

*Амур, ты той, каго я вінавачу,*
*пашто, пасля маіх усіх няўдачаў,*
*ты цэліш у мяне свой стрэл пусты?*

*Агню ён не запаліць. І нягодна*
*паддацца мне тваёй мане нязводнай.*
*Пашто ж маю душу дарэмна спакушаеш ты?*

* * *

*Я не жыву — грахі мае жывуць.*
*Маё жыццё — як не маё. Падман.*
*Я праз яго іду, як праз туман.*
*Заблуканаму, вочы засціць муць.*
*Свабода, што нявестай зваў я, — жудзь!*
*была нявольніцай маёй. Нібы ад ран,*
*смылела сэрца. Дні, як караван,*
*бяздумныя мае у некуды ідуць.*
*Як гляну, нібы ў люстра, я назад —*
*імчаліся яны без цугляў, як хаця,*
*не мог я стрымліваць іх на скаку.*
*О Божа, не карай, свой не муці пагляд:*
*куды б ні мчаліся яны без варацця —*
*іх шлях быў да Цябе. Падай жа мне руку.*

* * *

*Палаючы пал спаліў мяне,*
*ды паддаюся зноўку я мане:*
*гару і палымнею, і на дне*
*застаўся толькі попел ад мяне.*
*На горане усіх маіх пакут*
*у момант у адзін, у міг,*
*ахопленыя полымем, як спрут,*
*ўміраюць рэшткі сноў маіх.*
*І як нябёсы бляск агню*
*пагасяць у мяне, вуглём*
*раскаленым я кінуты ляжаць,*
*чакаць, пакуль любоў падкіне мне*
*якогась паліва, каб увачавідкі*
*нанова полымем успыхнуць зноў.*

* * *

*Ніяк не бярэ пад увагу*
*мае палкія заляцанні дзяўчына,*
*Толькі смяецца з мяне,*
*мяккая на выгляд, ды сэрцам цвярдая.*
*Я не скажу табе, любая, —*
*хто чакае на другога, той сам сабе шкодзіць.*
*Але віна тут мая:*
*той, хто выгляд прыймае за сутнасць,*
*застаецца найчасцей расчараваным.*

## ДА СПАДАРЫНІ ВІТОРЫІ КАЛОНА

*То на назе маёй правай, то левай*
*прайшоў я між грахоў і паўстрыманнем.*
*Шукаючы ратунку, я надвярэдзіў сваё сэрца.*
*Як тая зорка, падаючы, згарэўшы, падае ў бездань,*
*гэтак і я шлях свой губляю.*
*Я ўручаю Вам белы аркуш паперы,*
*каб Вы накрэслілі мае словы выратавання:*
*як маю душу на апошняй ейнай пуцявіне*
*магу я ўберагчы ад спакусы новага хацення.*
*Пішэце ж! Прыклад Вашага жыцця падкажа мне*
*найпрыгажэйшую дарогу да нябёсаў.*

* * *

*Ужо і смерць падглядвае мяне,*
*а я атрутаю жыўлю ўсё маё сэрца.*
*Калі ж грахоў маіх спакуса праміне?*
*Няўжо я назаўжды застыў у паняверцы?*
*Не маю ўласных сіл змяніць сябе,*
*жыццё сваё і звычай, і каханне.*
*З сабой і Вышнім у няспыннай барацьбе*
*не ведаю ўжо болей я адхлання.*
*Але душа мая ўсё да Цябе імкне,*
*я прад табой ў заўсёдным утрапенні*
*і толькі аднаго хацеў бы я, нягодны:*
*яшчэ прад тым, як Ты смяротнае з мяне*
*адымеш, дай, прашу я, запэўненне,*
*што прыйдзе да Цябе душа мая нязводна.*




# ГУТАРКА З ЖАКАМ ДЭРЫДА

(Фрагмент)*



**Н.Аўтаномава:** Некалі Вы заўважылі, што ўсе пратэсты супраць розуму могуць фармулявацца выключна ў форме самога розуму (гэта казалася з нагоды "Гісторыі вар'яцтва" Фуко, напісанай у зусім "разумнай" форме). Гэты парадокс мяне заўсёды цікавіў. Напэўна, тая ж сітуацыя ўзнікае і адносна мовы. Думаю, што якое заўгодна "змаганне з мовай" магчыма — ва ўсялякім выпадку ў літаратуры — толькі ў формах самой мовы...

А цяпер — аб нашых праблемах з гледзішча тых традыцыйна філасофскіх сюжэтаў, якія — жадаем мы таго ці не — і дагэтуль актыўна прысутнічаюць у кожнай нашай спробе "мысліць інакш". Для мяне, у прыватнасці, істотны эпістамалагічны, калі заўгодна, статус самога майго высілку ў працы з мовай і тэкстам. Ці зведваецца штокольвек пры гэтым? Якія ўмовы магчымасці (ці немагчымасці) такога спасціжэння? І як у гэтай працы суадносіцца: своеасаблівае — універсальнае, дэталі і прыватнасці, — з жаданнем быць зразуметым, пачутым? Учора ў лекцыі гэтае пытанне фактычна фармулявалася Вамі так: ці можам мы прымірыць, узгадніць "ідыяматычнае" і "рацыянальнае"? Ці магчымы ўвогуле выбар паміж тым і другім? На самай справе, вось мы сутыкаемся, на адной скрані, з мноствам асаблівасцяў —нацыянальных, культурных ды іншых, а да таго яшчэ і з безліччу заўважна не выказанага і не прадстаўленага. А на другой скрані — глыбока неабходная чалавеку прага абагульнення, разумення, Aufklarung (асветніцтва). Напэўна, бываюць такія перыяды, калі адна ці другая частка гэтай двуадзінай задачы ўспрымаецца культурай ці індывідам як больш істотная, і тады выбар адбываецца быццам сам па сабе, спантанна. Праўда, і тут на справе не ўсё так проста: пачаўшы канкрэтызаваць нейкае універсальнае палажэнне, можна хутка заўважыць, якой небяспечнай робіцца ваяўнічая экзальтаванасць з нагоды тых ці іншых маргіналіяў, грэбаванне цэлым. Дык вось — мне хацелася б пачуць пра Ваша стаўленне да гэтай магчымасці-немагчымасці, metier impossible.

Да таго ж, калі выбар сапраўды немагчымы, ці азначае гэта, што і спецыфікацыя, і універсалізацыя могуць здзяйсняцца з дапамогай нейкай адной агульнай стратэгіі? Дыялектыкі — напэўна, з залішняй паспешлівасцю — спадзяюцца на гэта. Як падысці да гэтай праблемы, калі яе немагчыма вырашыць у строгім сэнсе слова?

**Ж.Дэрыда:** Так, яе немагчыма вырашыць...

**Н.А**. У прынцыпе немагчыма? Але ўсё роўна гэтае пытанне паўстае перад намі ўсімі.

**Ж.Д**. Перш чым я скажу нешта ў адказ на Вашае пытанне, нешта непазбежна несуцяшальнае, я б падкрэсліў, што нявыказанае, тое, што Вы называеце нявыказаным, альбо невядомымі магчымасцямі мовы, аб чым згадвалася ўчора падчас лекцыі, не ёсць нешта, што знаходзіцца па-за мовай, адарваным ад ідыёмы. Нявыказанае, скажам, нявыказанае тут, у Расеі, ці, на вядомым этапе, у Савецкім Саюзе, моцна звязанае з тым, што выказваецца, гэта не проста нешта нейтральнае, гэта не пустата, не штосьці негатыўнае. Нявыказанае дэтэрмінаванае, яно дэтэрмінуецца самой сваёй звязанасцю з тым, што...

**Н.А**. Якраз і выказваецца?

**Ж.Д.** Так, выказваецца ці рэпрэсуецца, аднак не абавязкова рэпрэсуецца, нават калі нявыказанае залягае глыбей, чым псіхалагічнае выцісненне альбо палітычнае ці паліцэйскае прыцясненне: нявыказанае не ёсць усё, што заўгодна, гэта не-проста немова, не проста нешта чужое таму, што выказваецца альбо пішацца. А паколькі гэта так, то вы павінныя, дакладней, *мы* павінныя артыкуляваць гэтае дэтэрмінаванае нявыказанае праз тое, што кажацца ці ўжо было выказана. Тады і паўстае рытуальнае пытанне: існуе адна стратэгія такой артыкуляцыі ці розныя стратэгіі? Стратэгіі абавязкова множныя. Калі вы мяркуеце, што здольныя адшукаць адну стратэгію, то можаце быць упэўненыя ў тым, што яна кепская. Гэтую праблему неабходна вырашаць кожны раз у залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі, заўсёды канкрэтнай і адзінкавай. Гэта не эмпірычнае цверджанне. Я думаю, мы павінныя рэагаваць на гэтую праблему па-рознаму, не толькі зыходзячы з больш ці менш агульнай сітуацыі — напрыклад, *сёння* гэтая праблема паўстае інакш у Савецкім Саюзе параўнальна, скажам, з Польшчай, Венгрыяй, Румыніяй ці Усходняй Германіяй. Паўстае яна інакш і ў параўнанні з Заходняй Еўропай і гэтак далей, але нават *унутры* Савецкага Саюза яна мяняецца ад адной рэспублікі да другой, а ўнутры рэспублікі яна неаднолькавая для якой-небудзь лабараторыі і, скажам,




Раман КІСЬ

# ТАНАТАС: МІФАЛАГІЧНАЯ ПАРАДЫГМА*

## (Міфапаэтычны эсхаталагізм як унутраны рытуал душы пісьменніка)

* * *

Амбівалентнасць, двухзначнасць, унутраная яднальна-раз'яднальная палярызаванасць транзітыўнай фазы пахавальнага абраду ўласціва ўсім без выключэння народам свету... У яе подзе — базісныя міфемы...

Транзітыўнасць пахавальнага абраду, дарэчы, набывае і асаблівую сэнсажыццёвую ролю. Бо якраз перад смерцю, якраз у экзістэнцыйна-*МЕЖАВЫХ* сітуацыях найвыразней, найвастрэй, найглыбей выяўляюцца ўласна фундаментальныя праблемы *ЖЫЦЦЯ*, *БЫЦЦЯ* (анталагічныя, онтычныя**, экзістэнцыйныя), а не толькі праблемы самой смерці. Калі і ўлічваюцца апошнія, то, звычайна, НАСАМПЕРАД У АДНОСІНАХ ДА ЖЫЦЦЯ І ПРАЗ ЖЫЦЦЁ, — праз сэнс і абсурд, напоўненасць і бязмэтнасць; бясплённасць і пліеннасць апошняга; праз яго выключную каштоўнасць у іерархіі вартасцяў, ЯК БЕЗУМОЎНА ЗНАЧНАГА ДАРУ ЗВЫШ.

Такое пазнанне ВАЖКАСЦІ І ЗНАЧНАСЦІ жыцця чалавека, пазнанне яго вялікага дару якраз у фазе пахавальнага ПЕРАХОДУ (рытуальнай транзітыўнасці) геніяльна адчуваў вялікі паэт Федэрыка Гарсія Лорка. У артыкуле "Тэорыя і гульня дуэндэ" (1933) Гарсія Лорка пісаў: "У іншых краінах смерць — гэта ўсё. Яна прыходзіць і заслона падае. У Іспаніі інакш. У Іспаніі яна падымаецца. Багата тут тых, хто замураваны ў чатырох сценах да самай смерці, і толькі тады іх выносяць на сонца. У Іспаніі, як нідзе, да канца жывым ёсць толькі мёртвы — і выгляд яго параніць не йнакш як лязо брытвы". Калі мы толькі на хвілю згадаем тут гуцульскія надсадныя, надрыўныя ГАЛАШЭННІ ПА МЁРТВЫМ, для нас стане цалкам відавочным, што Лорка не толькі меў рацыю, але і часткова памыляўся. Ён безумоўна меў рацыю ў тым, што сам ВЫХАД ЗА МЕЖЫ выяўляе сапраўдны сэнс таго, што было прыхавана ўсярэдзіне... Смерць разгортвае існасць і нутро ЎНУТРАНАГА І ЎЛАСНА ЧАЛАВЕЧАГА. Яна выяўляе ўсю глыбіню і ўсю інтэнсіўнасць любові (а паўната любові — ёсць паўната жыцця!) ЯКРАЗ ТАДЫ, КАЛІ ЛЮБОЎ ТАЯ НАДЛАМАНАЯ... Але Лорка не меў рацыі ў другім. Ён, відавочна, памыляўся ў выключнай ІСПАНСКАСЦІ гэтай з'явы... Бессумніўная рэч, — Донья Смерць — гэта унікальная этнаэдэма (устойлівы вобраз-уяўленне. — Р.К.) на ўзроўні іспанскай этнапсіхалогіі і ў кантэксце тых ФОНАВЫХ ВЕДАЎ і таго вострасп\u0435цыфічнага досведу, які звязаны далёка не толькі з рытуаламі ды перажываннямі карыды як этнакультурнага феномена, але нават — адважуся сказаць, — самога менталітэту іспанца. Аднак і смерць і любоў у іх паяднанні і іх узаемапранікненні ёсць, на маю думку, і зместавымі, і настраёвымі дамінантамі далёка не толькі народнай андалузскай песні (кантэ хондо), але, скажам, і гуцульскіх ліра-эпічных і глыбока драматычных спяванак-хронік, і тысяч і тысяч вялікаўкраінскіх песень пра нешчаслівае трагічнае каханне. Амбівалентнасць і напружаная ўнутраная антынамічнасць бачання ЖЫЦЦЯ ПРАЗ СМЕРЦЬ, ЖЫЦЦЯ ПРАЗ ПАМІРАННЕ і бачанне СМЕРЦІ ПРАЗ ЛЮБОЎ І ЛЮБОВІ, ШТО ЎПЛОДНЕНА СМЕРЦЮ, — усё гэта рэчы, на маю думку, не толькі іспанскія, але транскультурныя і трансгістарычныя. І калі Федэрыка Гарсія Лорка ў сваім "Плачы..." па андалузскім сябры сваім Санчасе Мехіясе (забітым быком падчас карыды) праўдзіва ўдаецца ў той самы настрой "сольнай" рэчытатыўнатужлівай элегійнасці, якая сугалосная ўнутраным інтэнцыям (ці нават эмацыйным "абертонам") нашых народных галашэнняў... і калі чытаем там напрыканцы першага раздзелу ("Удар быка і смерць") "О Тьмяна п'ята ця година пополудню!// Було тьмяно о п'ятій цій годині пополудню!", — то міжволі згадваецца велічны міфапаэтычны вобраз зацьмення сонца ў "Слове пра паход Ігаравы", што таксама паказвае выразную семіятычнасць смерці... Згасанне, прыгасанне, зацьменне, замарачэнне як вобраз смерці, — вобраз глыбока тыпалагічны, архетыповы, а не звычайная метафара ці супадзенне блізкіх асацыятыўных радоў.

Паспрабую выявіць яшчэ больш глыбінныя канвергентныя падабенствы ў паэтычным выяўленні экзістэнцыйна-эсхаталагічнага матыву смерці, як ПАСТУПОВАГА *ПЕРАХОДУ — ВЫПРАБАВАННЯ — НАРАДЖЭННЯ НАНОЎ* (духоўнага ўваскрэсення) у пэўных вершах Лоркі і ўкраінскіх паэтаў: Яўгена Маланюка, Васіля Стуса і Тараса Шаўчэнкі. Паспрабую паказаць, што глыбінна-міфалагемная матрыца *АДЫХОД — ВЫПРАБАВАННЕ — ВЯРТАННЕ*, матрыца, што тыпалагічна мадэлюецца на подзе фундаментальнай рытуальнай транзітыўнасці чалавечага досведу, стала, уласна, глыбінным падножжам самога паэтычнага (ці, асабліва, міфапаэтычнага) асэнсавання смерці ў творчасці (ды і ў кантэксце асабістага экзістэнцыйнага досведу) такіх розных паэтаў.

У выдатным вершы Гарсія Лоркі "Колоссе" выдзелім наступныя дужа характэрныя ў гэтым кантэксце радкі:

Пшениця віддалась на милість смерті,
уже серпи колосся ріжуть.
Тополя хилить голову в розмові
з душею вітра...
Ви, колосочки, сповнили мене
Веселою журливістю своєю!
Прийшовши з глибини тисячоліть,
Ви в Біблії звучали...
.........................
Для снів зродився цвіт сей польовий,
*умерти для життя — ось ваша доля*

(курсіў мой. — Р.К.).

Мы маем тут прамыя рэмінісцэнцыі з Бібліі (згадайма Ісусава, а таксама Паўлава, — КАЛІ ЗЕРНЕ ПШАНІЧНАЕ НЕ ПАМРЭ, ДЫК ЗАСТАНЕЦЦА БЯСПЛОДНЫМ, г.зн. БЕЗ-ЖЫЦЦЁВЫМ, НЕЖЫЦЦЯДАЙНЫМ...). Цалкам відавочная рэч таксама і тое, што тыпалагічны матыў цыклічнага абнаўлення, — гэта матыў яшчэ дахрысціянскі: матыў, вядомы ў кантэксце даўняй расліна-вегетатыўнай міфалогіі ды многіх паганскіх аграрных культаў. Ідзецца ўсё-такі пра найглыбшае, пра архетыповае. Пакуль закцэнтую толькі яшчэ парадаксальна лоркаўскае, звязанае з "ВЯСЁЛАЮ ЖУРЛІВАСЦЮ". Няма сумлеву, што нават у гэтым унутрана супярэчлівым словаспалучэнні закадавана ўнутраная амбівалентнасць ужо не раз акрэсленай матрыцы *ПЕРАХОДУ ДА СМЕРЦІ*, як пераходу праз смерць да духоўнага нараджэння ў новым жыцці, — да яшчэ большай паўнаты быцця. Для аднаго паэта гэтая паўната НОВАГА НАРАДЖЭННЯ здзяйсняецца праз прылучанасць да Боскай Вечнасці, да Царства Нябеснага. Для другога, — смяротна хворага на лейкамію і дужа таленавітага Леаніда Кісялёва, — гэтае экзістэнцыйнае асэнсаванне сэнсу жыцця ў *ПАМЕЖНАЙ СІТУАЦЫІ*, у сітуацыі паміж жыццём і смерцю прыводзіць да ідэі ВЯРТАННЯ, *ПЕРАХОДУ* (зноў-такі *САКРАЛЬНАЯ* транзітыўнасць) ДА СВАЙГО НАРОДА, ДА СВАЁЙ МОВЫ, ДА "РОДНАГА ПОЛЯ", да пошуку НОВАЙ ІДЭНТЫЧНАСЦІ і ПРАЎДЗІВАГА ПЛОДАНАШЭННЯ на родным грунце. Прыгадайма аголена-*МЕЖАВАЕ* ў Кісялёва:

Я постою у края бездны
И вдруг пойму, сломясь в тоске,
Что все на свете только песня
На украинском языке!

І ўся рэч не толькі ў "мове" ці ў "песні" (незадоўга да смерці Кісялёў у творчасці сваёй знянацку перайшоў з расійскай мовы на ўкраінскую). "МОВА" і "ПЕСНЯ" тут — толькі *ЗНАКІ* прылучанасці да сферы *"ЖЫЦЦЯ"*, да сферы *"ЎНУТРАНАГА"*, да сферы духоўнага жыцця народа праз ідэнтыфікацыю з якім і адбываецца, уласна, тое новае нараджэнне, тое *"ДУХОЎНАЕ АБНАЎЛЕННЕ*, — той працяг сябе ў лёсе народа: пошукі ПА-ЯДНАННЯ перад смерцю з арганічнай працягласцю роду... Роднае слова (і ўсё тое сутнасна-быццёвае, што стаіць за ім і "сплятаецца" з ім) не толькі СПЫНЯЕ, ЗАТРЫМЛІВАЕ смяротна хворага паэта перад "краем бяздоння", але й дае НОВАЕ ЖЫЦЦЁ, дае ПЕРА-ХОД праз бездань небыцця, — паўстае зноў-такі транзітыўным МАСТКОМ унутранага духоўнага рытуалу. Таго рытуалу, які набывае экзістэнцыйны сэнс, ствараючы, фіксуючы, унутрана выбудоўваючы ПРАМЕЖКАВАЕ ЗВЕННЕ паміж "адасобленасцю" ды канцовасцю асобнага свету, свету індывідуальнага, і ДУХОЎНЫМ ПРАЦЯГАМ РОДУ; тут рытуал рэінтэгруе саматоеснасць "я" ў сітуацыі экзістэнцыйнага ПЕРАЛОМУ, экзістэнцыйнага ПА-ВАРОТУ.

Здаецца, якраз такую надзею на свой ПРА-ЦЯГ, на існаванне сваё па смерці, на сваё ПА-ВЯРТАННЕ (праз павяртанне ў духоўных сваіх "жнівах", якія патрэбны не толькі для аднаўлення *СЯБЕ — У — НАРОДЗЕ*, але й для САМААДНАЎЛЕННЯ ГЭТАГА НАРОДА) — бачыў таксама і Федэрыка Гарсія Лорка. Хоць перад іспанскім паэтам і не стаяла такая надсаднабалесная праблема этнакультурнай ідэнтычнасці ці моўна-псіхалагічнай саматоеснасці... У вершы "Развітанне" Лорка пісаў:

Якщо я умру —
Не закривайте балкону.
Діти їдзять помаранчі.
(Я це бачу з балкону.)
*Дожинають пшеницю жниці.*
(Я це чую з балкону.)
Як умру я —
не закривайте балкону.

Пераходны рытуал інтэрыярызуецца ў паэтычных парывах душы. "Згортваецца" да некалькіх паэтычных радкоў. Балесная, напружаная антынамічнасць ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ ў душы паэта знаходзіць сваю медыяцыю, сваё "прымірэнне" ў пладах жыцця, у тым, што "нажнецца", у тым, што ПАКІДАЦЬМЕСЯ І НАДАЛЕЙ: смерць — гэта яшчэ не апошні разрыў з наваколлем. Паэт "вяртаецца" ў роднае поле "зярняткамі" свайго паэтычнага слова. Гэта ўжо не сапраўдная хрысціянская мадэль. Гэта ў рэшце рэшт АРХЕТЫПОВАЯ МАДЭЛЬ. Сам верш ператвараецца ва ўнутраны рытуал душы паэта. Рытуал (рытуал, што зрэдукаваны толькі да вербальнага коду), *РАЗМЫКАЮЧЫ ЧАСАПРАСТОРУ*, выбудоўвае прастору міфалагемнага адвечнага ЦЫКЛІЧНАГА ВЯРТАННЯ. Верш пакліканы тут насамперад выбудаваць ПРА-МЕЖКАВАЕ транзітыўнае звенне ЎНУТРЫРЫТУАЛЬНАГА (міфасакральнага) часу, — часу паэтычных уяўленняў, якія пралягаюць у адцінку дзесь паміж зямной дачаснасцю і вечным быццём... Паэтавая міфатворчасць і тут выконвае сваю рытуальную ролю ГАРМАНІЗАЦЫІ СЯБЕ З НАВАКОЛЛЕМ, атаясамлення сябе са "СВАІМ", арганічнай ІНТЭГРАЦЫІ (УВАХОДЖАННЯ) у гэтае "СВАЁ". Вершаванне ў такім разе як унутраная міфапаэтычная рытуалізацыя адразу ж ахоплівае і актуалізуе прынамсі яшчэ тры — апроч транзітыўнай — функцыі рытуалу (хоць і ў згорнена-сціслым, няяўным, невыяўленым выглядзе), а менавіта: ІНТЭГРАТЫЎНУЮ ФУНКЦЫЮ (адчуванне спрычыненасці да шыршай супольнасці, да ўваходжання ў яе "сцэментаванні"); ФУНКЦЫЮ ТРАНСМІСІІ ТРАДЫЦЫЙНАЙ ЭТНАКУЛЬТУРНАЙ ІНФАРМАЦЫІ (паэтычныя "зярняткі" перадаюцца новай генерацыі і зноў прынясуць свой ураджай; і, урэшце, — ФУНКЦЫЮ КАТАРСІСУ, функцыю псіхалагічнай палёгкі і абнаўлення (параўнай III, IV і V функцыі ў іх схематычным пераліку).Тарас Шаўчэнка, які меў такі выключны дар глыбіннага міфапаэтычнага бачання (што дужа добра паказаў прафесар Рыгор Грабоўскі ў доследзе

для ўсёй астатняй Акадэміі навук, неаднолькавая яна і для розных індывідаў. Так што гэта не эмпірычнае цверджанне, паколькі яно дыктуе нам, не скажу прыстасоўваць ці падладжваць стратэгію, але кожны раз яе вынаходзіць. Кожны раз нам даводзіцца вынаходзіць уласны спосаб выяўлення, сваю ідыёму, і адказ ваш ідыяматычны. Пытанне ў тым, як злагодзіць ідыёму з усеагульным розумам, з усеагульнай празрыстай моваў і гэтак далей — адпаведна ідэалу мадэрновага ці постмадэрновага Aufklarung. Такім чынам, праблема ў наступным: як злагодзіць каштоўнасць ідыёмы, якая ў поўнай меры не перакладаецца (бо няма нічога, што абсалютна перакладаецца, як няма нічога, што абсалютна не перакладаецца), гэта значыць, як злагодзіць тое, што не перакладаецца, і пераклад, як злагодзіць ідыяматычную мову з усеагульным розумам, апасрэдваннем і гэтак далей. Але адказ на гэтае пытанне аб злагоджванні двух скраняў неаднолькавы; неаднолькавы і подпіс пад ім. А гэта азначае, што няма агульнага правіла, і ніхто нікому не можа даць якога-небудзь агульнага адказу.

**Н.А.** У такім разе, калі не правіла, то сама задача перакладу застаецца.

**Ж.Д.** Ах, задача. Задача для мяне, калі б мне давялося вызначаць яе ў самым агульным выглядзе, паўстала б у эканамічнай форме. Я б сказаў, што мы павінныя перакладаць максімум найбольш багатай ідыёмы. Для мяне лепшы спосаб сфармуляваць задачу — гэта перакласці найбольш не прыдатны для перакладу верш з адной мовы на другую. Натуральна, гэта вельмі цяжкая, амаль немагчымая задача, і ў якасці такой я б пазначыў яе наступным чынам: захоўваць ідыёму і захоўваць пераклад, захоўваць празрыстасць перакладу.

Здавалася б, апошняе немагчыма і выдае на супярэчанне ў тэрмінах, толькі гэта не так, бо ідыёма, — тое, што можа выказвацца, застаючыся не выказаным унутры мовы, — не ёсць нешта непразрыстае, замкнутае само на сабе. Ідыёма — не камень. Нават у самай ідыяматычнай ідыёме ёсць тое, што патрабуе перакладу, тое, што належыць нейкай усеагульнасці. Ідыёма — гэта не мяжа з паліцэйскім ля мытні. Калі расейскі ці французскі паэт піша верш, ён ужо зацверджвае пячаткай ці подпісам нешта, што патрабуе перакладу, што жадае перайсці мяжу. Пагэтаму тлумачыцца на сваёй мове не азначае засланяцца ад перакладу, не азначае перашкоджваць яму. Насупраць, гэта значыць патрабаваць перакладу, гукаць пераклад. І пераклад ужо здзяйсняецца ў межах самога ідыяматычнага выказвання...

**Н.А.** Мне хацелася б тут прывесці адзін прыклад. Гаворка ідзе аб эксперыменце Дугласа Хофштадтэра. Ён матэматык, паліглот. Вы, напэўна, чулі гэтае імя

**Ж.Д.** Так.

**Н.А.** Хофштадтэр узяў верш Клемана Маро і разаслаў яго сваім сябрам па ўсім свеце. Ён звярнуўся да каго толькі мог і прасіў той варыянт перакладу, які гэты канкрэтны чалавек мог зрабіць у дадзенай канкрэтнай сітуацыі. Ён патлумачыў, што потым паспрабуе параўнаць, звесці разам усе гэтыя варыянты — чым іх болей, тым лепей . Пэўна, таму ён даслаў верш і мне, удакладніўшы, што хацеў бы мець некалькі расейскіх варыянтаў перакладу, а не адзін — не мела значэння, у прозе ці вершах... Пра што гэта кажа? Верагодна, пра тое, што пры перакладзе з адной мовы на другую, на розныя мовы мы ўсё роўна...

**М.Рыклін:** Нешта з самага пачатку вынаходзім.

**Н.А.** Так, вынаходзім, і ў той самы час мы заўсёды сутыкаемся з тым, што магчымае для перакладу на адну мову аніяк не перакладаецца на другую. Як з гэтым быць? Зноў немагчымая задача...

**Ж.Д.** Але разам з тым гэтая немагчымая задача і *ёсць* тое, з чым мы сутыкаемся на кожным кроку. Кожны раз мы трываем паразу і кожны раз усё-такі перамагаем. Вось пераклад — але пераклад немагчымы. Заўсёды ёсць нешта перакладзенае — пера-кладзенае знутры верша: гаворка не столькі пра тую форму, якую мы называем перакладам, колькі пра тое, што вопыт перакладу ёсць найпершы вопыт самога паэта. Ён перажывае вопыт перакладу і адначасна — супраціўленне яму. І ён спрабуе напісць тое, што магло б *супраціўляцца* перакладу: верш, які не супраціўляецца перакладу, хіба гэта верш? Але толькі зведаўшы падобнае супраціўленне, ён і *піша вершы*, перажываючы вопыт перакладу, менавіта як вопыт перакладу, інакш кажучы, супраціўленне перакладу. І *ёсць* вопыт самога перакладу, але гэта і вопыт другой мовы. Пагэтаму наша ўласная ідыёма, нявымаўленая ў маёй уласнай ідыёме, павінна адначасна быць і ўваходам для мовы другога, другой мовы. Граніцы ідыёмы і тое, што я называю "экзапрапрыяцыяй", гэта значыць, спосабам прыўлашчвання ўласнай мовы, не ёсць проста спосаб быць у сваёй мове, як у сваёй хаце, але і спосаб пранікнення ў вопыт чужаніцы, няправільнага ды іншага ў межах сваёй мовы. І гэта адзін і той самы вопыт: apprоprier, desapprоprier, enteignen, eignen, *enteignen*, экзапрапрыяцыя, экспрапрыяцыя, экзапрапрыяцыя. Я б сказаў, што гэта адзін і той жа і разам з тым — не адзін і той жа вопыт. Ён не тоесны сам сабе. Усё гэта адбываецца па-рознаму ў розных мовах і ў розных паэтаў, у розных вершах, розных відах літаратуры. Я ўпэўнены, што гэты вопыт перажываўся Гогалем, Пушкіным ці Дастаеўскім інакш, чым, скажам, Цэланам альбо Прустам.

---

* "Жак Дерида в Москве", Москва, РНК "Культура", 1993.



" Les formes originales de pensée s'introduisent elles-memes: leur histoire est la seule forme d'exégèse qu'elles supportent et leur destin, la seule forme de critique."

Michel Foucault.

"Арыгінальныя формы думкі ёсьць сваімі ўласнымі ўводзінамі, яе гісторыя ёсьць адзінаю формаю экзэгезы, якую яна трывае, і яе лёс -- адзінаю формаю крытыкі".

Мішэль Фуко.

Цэнтар эўрапейскіх досьледаў і культурных ініцыятываў

эўрафорум

разам са "ЗНО" і "Нашай Нівай"
у межах праграмы
"Сучаснае мысьленьне"
ладзіць цыкл сустрэчаў
"Michel Foucault: AD MEMORIUM"

**Плянуецца:**

— Прэзентацыя перакладаў
Мішэля Фуко
"Чым ёсць аўтар?"
("Qu'est-ce qu'un auteur?"),
"Лад дыскурсу"
("L'ordre du discours");
— Тэарэтычны семінар
"Аўтар,
суб'ект, "Я";
— Мішэль Фуко і беларускае мысьленьне
(нечаканая дыскусыя).

Пачатак — у першай дэкадзе
сьнежня 1994г.

**Кантактныя тэлефоны:**
**36-61-42, 56-21-67.**

"Шаўчэнка як міфатворца"), не проста быў натхнёны пэўнымі агульнанацыянальнымі ідэаламі. Паэтычнае слова, — як сам ён пра тое пісаў, — дапамагала яму "падманваць сябе": у міфапаэтычных уяўленнях мовай вобразаў, мовай своеасаблівага "ўнутранага" рытуалу ПРЫМІРАЦЬ У ДУШЫ супраціўныя бінарныя апазіцыі: *АДАСОБЛЕНАСЦІ* (ці нават змушанай адарванасці ад свайго народа) і *ПА-ЯДНАННЯ, ЗЛУЧЭННЯ* з народам; *АСАБІСТАЙ САМОТНАСЦІ* І *СУМОЎЯ* (нездарма паэзія Шаўчэнкі пакідае асаблівы зарад унутранага дыялагізму і пастаяннай інтэнцыянальнай звернутасці да персаніфікаванай Украіны). Ва ўнутранай — па характары сваім сімвалічна-рытуальнай — напружанай паэтычнай думцы Шаўчэнка знаходзіў, паэтычна рэканструяваў згаданае сумоўе з далёкай і такой недасяжнай на выгнанні Украінай. Рэальныя разрывы ў духоўнай тканіне беспасярэдняй камунікацыі, разрывы з родным соцыумам, разрывы ў часапрасторы АПАСРОДКАВАЛІСЯ І ЗАПАЎНЯЛІСЯ, падобна як і ў традыцыйнай рытуальнай дзеі, ІНТЭРТЭМПАРАЛЬНАСЦЮ МІФАПАЭТЫЧНАГА БАЧАННЯ. Такі ўнутраны міфапаэтычны (хоць і нябачны, нават латэнтны) міфапаэтычны АБРАД ДУШЫ выконваў цалкам выразныя КАМУНІКАТЫЎНУЮ І КАТАРТЫЧНУЮ функцыі, пра якія я згадаў у пераліку рытуальных функцый. Паколькі знешняе, вакольнае, на выгнанні, у высылцы было сфераю ЧУЖОГА, — Шаўчэнка вынаходзіў "СВАЁ", "НАША" ў міфапаэтычным. З другога боку, міфапаэтычнае бачанне і створанае ім ядро ўнутранага *СВАЙГО* СВЕТУ, як і ўласціва рытуалу, выбудоўвалі "паласу бяспекі" супроць ЗНЕШНЯГА, ЧУЖОГА... Перафразуючы Марціна Гайдэгера, можна было б сказаць, што міфапаэтычнае слова ставалася адзіным апірышчам, адзіным прытулкам, адзіным унутраным сховішчам (поруч з малітваю) яго ДУХОЎНАЙ ЭКЗІСТЭНЦЫІ. Ён і адчуваў, што "падманвае" сябе, г.зн. жыве ва ўладзе ўласнай міфатворчасці. Хоць, як мы ўжо ведаем, цяпер, з таго зярнятка геніяльнага Шаўчэнкавага міфа без перабольшання вырасла-такі ЎСЯ УКРАІНА ЯК САМАСВЯДОМАЯ (цэласная) НАЦЫЯ; менавіта як нацыя, а не этнас, не этнаграфічная маса; менавіта як нацыя, якая дапяла-такі да ДЗЯРЖАЎНАГА ПЛОДАНАШЭННЯ, — да жыцця і дзейнасці ў СВАІМ УЛАСНЫМ ДЗЯРЖАЎНЫМ "ДОМЕ"... А тады Шаўчэнка пісаў:

Не нарікаю я на Бога,
Не нарікаю ні на кого.
Я сам себе, дурний, дурю,
Та ще й співаючи. Орю
Свій переліг — убогу ниву!
Та сію слово. Добрі жнива
Колись-то будуть. І дурю!
Себе таки, себе самого
......................
Розвернися ж на всі боки,
Ниво-десятино!
Та посійся не словами,
А розумом, ниво!
Вийдуть люде жито жати...
Веселії жнива!..
Розвернися ж, розтелися ж
Убогая ниво!!

Сам Шаўчэнка паэтычна выбудаваў для сябе рытуальна-паступовую (транзітыўную) мадэль ПЕРАХОДУ Ў ПАТОЙБОЧЧА менавіта на падставе архетыпова-даўніх цыклічных уяўленняў пра КВІТНЕННЕ — РОСТ — СЧАЗАННЕ ("Росли укупочці", 1860):

Подай же й нам, всещедрий Боже!
Отак цвісти, отак рости,
Так одружитися і йти,
Не сварячись в тяжкій дорозі,
На той світ тихий перейти...

МЁРТВАЕ НАСЕННЕ ніколі не прынясе плоду, — яно ўжо не прыдатнае для новага і бесперапыннага цыклічнага самаабнаўлення. Тое, што бясплоднае (бясплоднае духоўна, бясплоднае ўвогуле), — няздатна вярнуцца:

........ Буде бите
Царями сіянес жито!
А люди виростуть. Умруть
Ще не зачатис царята...
І на оновленій землі
Врага не буде супостата...
("І Архімед, і Галілей", 1860).

Толькі насенне ахвярнай любові — самаадрачэння, самаахвярнасці, поўнай самааддачы сябе бліжнім, народу, Богу, — патрапіць быць небясплодным зярняткам і прынясе плод. У Евангеллі Іаана чытаем (а Бібліяй Шаўчэнка глыбока быў інспіраваны): "Папраўдзе, папраўдзе кажу вам: калі зерне пшанічнае, упаўшы на зямлю, не памрэ, дык застанецца адно. Калі ж памрэ, дык прынясе многа плоду" (Іаан, 12:24).

Для ўдзельніка вызвольных украінскіх паўстанняў 1917 —1920 гадоў паэта Яўгена Маланюка, таксама як і для Шаўчэнкі, — праз нейкі час ужо "пад чужым небам", у змушаным адчужэнні ад СВАЙГО (у адчужэнні ад свайго, роднага поля, ад херсонскіх ніваў), — "чужа земля, чужі понурі люди — Й саме життя, здається вже чуже". Гэта не проста матывы "чорнага настрою", што заступілі ўсе іншыя пачуцці. Гэта глыбінная міфемна-парадыгматычная звязь "*ЧУЖОГА*" і "*МЁРТВАГА*". Калі херсонскі прастор — гэта цэласнасць, прылучанасць, ПАЯДНАННЕ, дык "пад чужым небам" — АДАСОБЛЕНАСЦЬ, САМОТНАСЦЬ І "СМЯРОТНЫ (менавіта СМЯРОТНЫ. — Р.К.) БОЛЬ":

Там свист херсоньского простору!
Там вітер в кришталевих хвиль!
А тут: в вікні опустиш штору —
І п'єш самотній смертний біль.

Цікава, што і для яшчэ аднаго вялікага паэта Украіны Васіля Стуса чужына, маскоўская няволя — таксама СФЕРА МЁРТВАГА, таксама "вымерлая пустыня":

Верстаю шлях — по вимерлій пустелі,
де мертвому мені нема життя,
за обріями спогаду — оселі
ті, до котрих немає вороття.
...........................
Тож дай мені — дійти і не зотліти,
дійти — і не зотліти — дай мені!
Дозволь мені, мій вечоровий світе,
упасти зерням в рідній стороні.

Недасяжныя родныя аселіцы, аселіцы "за даляглядам погляду", аселіцы, да якіх няма вяртання, ВЯРТАЮЦЦА Ў МІФАПАЭТЫЧНЫМ ІХ КАНСТРУЯВАННІ. Верш паўстае домам асабістага сэнсу. Верш паўстае вонкавым перыметрам унутранай духоўнай бяспекі, унутранага НАПРУЖАНАГА ЖЫЦЦЯ ДУХУ ПАЭТА, ЖЫЦЦЯ ЖЫВОЙ ДУМКІ, — проці знешняга: мёртвага, пустэльнага, чужога. Верш мадэлюе, выбудоўвае, унутрана спараджае РОДНАЕ, СВАЁ, ЖЫВОЕ... І калі па Гайдэгеру слова ёсць домам быцця, дык паэтычнае слова паўстае для Васіля Стуса ў маскоўска-камуністычных ГУЛАГах і выгнаннях прытулкам і псіхалагічным сховішчам душы; паўстае тым сакральна-духоўным топасам душы, што аднаўляе наноў, аднаўляе яшчэ раз (у згорнутым, сканцэнтраваным выглядзе) УВЕСЬ МАКРАКОСМ УКРАІНЫ. Такое паэтычна-творчае напружанне, паўторым яшчэ раз, — гэта своеасаблівы ўнутраны рытуал душы і духу паэта, "рытуал", што зноў і зноў абнаўляе ў ім пачуццё спрычыненасці да роднага, да свайго, да жывога, да апушчанасці зярнятка ў "сваю" баразну. Гэтак здзяйсняецца міфапаэтычнае вяртанне СТРАЧАНАЙ ЗЯМЛІ:

О земле втрачена, явися,
бодай у зболеному сні,
і лазурово простелися
і душу порятуй мені.

Так міфапаэтычнае ўяўленне паэта зноў і зноў закарэньвае душу Маланюка ў роднае поле, у "сваю" баразну... Унутранае духоўнае напружанне, творчае напружанне ставалася дзейсным чыннікам самааднаўлення ўнутранай духоўнай аўтаркіі, унутранай жыццёвай саматоеснасці, унутранай дзейснай САМАСЦІ, што процістаяла ЗНЕШНЯМУ, МЁРТВАМУ, лагернаму, мёртваноснаму, чужынскаму... Толькі ў такім міфапаэтычным кантэксце робяцца зразумелымі загадкавыя, на першы погляд, радкі Васіля Стуса:

Як добре сіятись під небом,
Ісклавши в копи хліб смертей...

Таксама ў гэтым міфапаэтычным кантэксце робіцца зразумелым вобраз "*МЁРТВЫХ МЕЖАЎ*", межаў чужыны, з якіх Яўген Маланюк дзівіцца на Украінскую Галгофу... Працытую яшчэ колькі ўрыўкаў, што насычаны наскрозь міфапаэтычным вобразам "ЕВАНГЕЛЛЯ ПАЛЁЎ":

І знову — сам. І знову кличу,
І відгуку — нема. Нема.
Землі прачорному обличчю
Хилюсь і слухаю: німа!
...........................
Німа, як ніби й не шуміла
Єдвабом золотих пшениць...
О земля! Чорна мати мила!
До Тебе — знову. Знову — ниць.

Паэт адчувае "ЕВАНГЕЛЛЕ ПАЛЁЎ" у разгорнутай кнізе гісторыі свайго народа, у кнізе той гістарычнай украінскай долі, да якой быў прылучаны сам Яўген Маланюк, афіцэр войска УНР, у трагічныя для Украіны дні. Насуперак усім ліхотам і паразам, насуперак бальшавіцка-маскоўскаму сплюндраванню роднага поля Маланюк усё-такі непахісна верыць у ВЯЛІКАЕ АБНАЎЛЕННЕ. І гэта безумоўная вера ёсць вераю кшталту і ўзлёту Шаўчэнкі:

..........................
Знайти за машкарою хмар
Сліпучий промінь Твого раю.
Розплавить сталь височини
И крізь синь небесного віконця
Все сіять, сіять сяйво сонця
В війною зорані лани.

Сонца, што абнаўляе сплюндраванае маскоўска-бальшавіцкімі ордамі ўкраінскае поле, — гэта сонца духоўнага абнаўлення Украіны. У вершы "Думы мае думы"... (1931) Маланюк, у прыватнасці, піша:

Все полягло в єдиній пізній жертві
І нікому повстать і натупать
В осінню муть, де голос вже
завмер твій,
Де губиться шматками сивий степ.
Та в глибині твоїй цвинтарно-мертвій
Зерно зітліле пружиться й росте.
Настане час — зійде — і встануть
Мертві.

Нават у пару канчатковай, як здавалася тады, паразы вызвольнага чыну Украіны (верш "Восень", 1923) Маланюк не страчваў безумоўнай, абсалютнай шаўчэнкаўскай веры ў духоўнае ўваскрэсенне Украіны і нацыі:

... Та не помре земля повік:
Під заспів панахид осінніх
Яке посіяв Чоловік.

У творчасці Маланюка 1923 года знаходзім яшчэ адну вельмі цікавую трансфармацыю таго ж архетыповага матыву вечнага абнаўлення Жыцця праз смерць:

Тут дзвенить обітницею колос
Під росою схіляючись ниць.
Можна смерть лише смертю здолати,
Тільки в цім таємниця буцця.
І зерно мусить вмерти, щоб дати
В життєдавчому житі — Жиццяя.
Сонця співом дзвенять гострі коси,
Сонця спів в стиглім золоті нив,
І шумлять під косою покоси,
І в'язальниць доноситься спів.

І для Шаўчэнкі, і для Васіля Стуса, і для Маланюка сам верш паўставаў той ПАМЕЖНАЙ, ПЕРАХОДНАЙ, ТРАНСФАРМАЦЫЙНАЙ СТРУКТУРАЙ, у якой асягалася вышэйшае ПРЫМІРЭННЕ, у якой ПЕРААДОЛЬВАЛАСЯ СМЕРЦЬ І ПАМІРАННЕ, у якой унутранае духоўнае напружанне і ўнутраны духоўны лад быў тым магутным фарматворчым і сэнсатворчым стрыжнем, які процістаяў усім жыццёвым забурэнням, энтрапіі, хаосу і зруйнаванню; які процістаяў згасанню і рассейванню энергіі нацыі ў найцяжкія для яе дні, — у дні і гады, як думалася, канчатковай гістарычнай асуджанасці... І для Шаўчэнкі, і для Маланюка, і для Стуса на чужыне і ў маскоўскай няволі верш, паэтычнае слова было маленькаю грудачкай зямлі, узятай з родных магіл і схаванай за пазухай... Грудачкай, якая абараняла іх душу ад уварвання знешняга, падманнага, нячыстага і мяртвотнага.

---

* Заканчэнне. Пачатак у "ЗНО" №16 ("Культура" 31.08.1994).

** Звязаныя з прадметамі, што існуюць у свеце; гэта рэфлексія над унутранымі праблемамі свету, а не над "анталагічнай" праблемай "паходжання" свету. — Ю.З.




У гэтым нумары «ЗНО» -
графіка Юрыя Падоліна

*Рада "ЗНО": Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч.*

МАСТЫХІН

# СЬВЯТЛО ДУШЫ

"Стаю супакоены, адчуваючы вольна сябе ў Прыродзе", — гэты радок з верша Уолта Уітмэна, слыннага амэрыканскага паэта, своеасаблівым рэфрэнам гучаў у маёй душы, калі я знаёмілася з творамі Тамары Стагановіч, мастачкай беларускага паходжаньня, якая вучылася і працуе ў Злучаных Штатах Амэрыкі.

Краявіды зямлі за акіянам уражвалі не сваёй экзотыкай, хоць на палотнах паўставалі горы, скалы, вадаспады, выпаленыя плато, паселішчы з нязвыклай, адметнай архітэктурай. Аўтарская замілаванасьць навакольным сьветам, хвальпеў яму — адухоўлены і прафесійны — як бы міжволі ўцягвалі ў энергетычнае поле гэтых твораў. Мастачка, якая дзяўчынкаю, дзіцем пакінула родную Беларусь, зьберагла ў сабе дух продкаў, што мелі непарыўную еднасьць з зямлёю і пакланяліся дрэву, сонцу, ветру. Адсюль вытокі яе зацікаўленага і паважнага стаўленьня да карэнных жыхароў Амэрыкі, іх сьветапогляду і разуменьня свайго месца ў Сусьвеце.

Пейзажы Тамары Стагановіч — праца таленавітага і сталага майстра. Іх жыцьцёвасьць, праўдзівасьць не ў фатаграфічным капіраваньні краявіду, а ў багатай вобразнасьці. Мастачка тонка адчувае прысутнасьць сьвятла ў прыродзе — як нечакана мяняе яно колер скалы на зломе, як згушчае яго ў ценю, як гарманізуе дзьве стыхіі — камяні і расьліннасьць.

Чырванавата-бэзавыя стромыя скалы — і зялёныя лапікі дрэў, выпаленая сонцам жоўтая раўніна — і чорна-сіняе віхурнае неба. Фарбы жывуць у суладзьдзі і радуюць сваёй дэкаратыўнасьцю. Творы ўражваюць чысьцінёй, адчуваньнем вольнай прасторы, нейкім "лёгкім дыханьнем". Найперш гэта заўважаеш у зімовых краявідах, дзе дрэва з няскінутым жоўтым лісьцем яркай плямай сьвеціць здалёк, дзе сьнег няроўна ляжыць на скалах, чым стварае багацейшыя колеравыя эфекты.

Мастачка любіць асіметрычную кампазыцыю, па дыяганалі палатна часта "бяжыць" рэчка ці ручай, "узвышаецца" гара. Гэта выклікае ілюзорнае адчуваньне руху, дынамікі, глыбіні прасторы, узмацняе велічнасьць і натуральнасьць узноўленага на палатне краявіду. Цікава, што адзін з любімых матываў Тамары Стагановіч — заход сонца з яго буяньнем фарбаў, іх фантастычным спалучэньнем, штурхае яе на акварэльнасьць, размытасьць выявы. Вобраз, настрой ствараюцца тут не столькі малюнкам (расплываюцца абрысы дрэваў, берагоў), колькі далікатнай працай з колерам.



*Ст. Тамара вучаніца Украінскае Гімназіі ў Міттэнвальдзе, Баварыя.*

St.Tamara — рознабакова адораная асоба. Яе малюнкі, літаграфіі, ілюстрацыі да дзіцячых кніжак зроблены па-майстэрску і вартыя асобнай гаворкі, як і творы, што прысьвечаны беларускай тэматыцы.

Прыемна ўсьведамляць, што "чалавек, які жыве ў заўсёдным зьдзіўленьні перад зямлёю, скаламі, майскімі кветкамі, зоркамі, дажджом, сьнегам" (У.Уітмэн) паходзіць з Беларусі і годна нясе дар сваёй душы ўсяму сьвету.

**Валянціна ТРЫГУБОВІЧ,**
**загадчык аддзела выяўленчага мастацтва часопіса "Мастацтва"**

Лёс раскінуў беларусаў па-за межы роднае Бацькаўшчыны... Горка і самотна было кожнаму з іх, трапіўшы на чужыну.

Але ж памяць, вобраз Роднай Зямлі, які кожны нёс у сэрцы — грэў, растопліваючы лёд выгнаньня...

Гарачае сэрца Беларуса абжыло чужую старонку, і зараз, калі яна, як прыдбаная маці, дорыць цяпло і ласку нашым сынам, — яны вяртаюцца да нас праз свае творы.

Сёньня мы маем шчасьлівую магчымасьць пабачыць новую зямлю, новую Бацькаўшчыну мастачкі Тамары Стагановіч, і мы бачым, якая яна прыгожая, чыстая ды й сьветлая, як наша.

А так яно і ёсьць, бо зямля адна, а беларускае працавітае сэрца і чыстая душа, паліваючы потам і сьлязьмі камень, зробіць яго пашаю.

**Ганна СУРМАЧ,**
**Старшыня Рады Згуртаваньня Беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"**

Тамара Стагановіч нарадзілася пад сэрцам Наваградка, у колішняй сталіцы магутнай эўрапейскай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага.

Наваградчына адыграла выключную ролю ў гісторыі Беларусі і падарыла нашаму народу, ды й усяму людству, шмат постацяў сусьветнай велічыні ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва, навукі, палітыкі, мастацтва і літаратуры.

Сярод іх славутыя імёны Гіёма Апалінэра (Кастравіцкага) і Адама Міцкевіча...

Гісторыя, традыцыі, сама атмасфера самабытнага, няскоранага пры ўсіх чужацкіх навалах краю — спрыялі самавыяўленьню творчага духу і фарміраваньню трывалага ўсьвядомленага патрыятызму. Гэта вызначала жыцьцёвую лінію першых людзей краю, у тым ліку і тых, хто воляю лёсу апынуўся ў выгнаньні, жыў і жыве ў эміграцыі.

Беларускія гледачы, жыхары Менску нарэшце атрымалі магчымасьць, найперш, дзякуючы рупнасьці сям'і Крыштаповічаў, далучыцца да мастацтва St.Tamary, дзе наша спрадвечна беларускае зьнітавалася з далёкім і экзатычным Амэрыканскім кантынентам. Яе творчасьць звязана з жыцьцём Амэрыкі, але ж гучыць на роднай нам матчынай мове.

Праз год уся Беларусь будзе ўрачыста адзначаць дзьве слаўныя даты — 950-годзьдзе Наваградка і 600-годзьдзе Мірскога замку. Да гэтых падзей дапасуецца і Першы Зьезд Наваградцаў Сьвету.

З гэтай нагоды будзе наладжана выстава мастакоў, якія паходзяць з Наваградчыны. Мы будзем рады, калі на ёй мы пабачым новыя творы мастачкі, створаныя пад уражаньнем першай ад дзяцінства сустрэчы з Бацькаўшчынай.

**Яўген ЛЕЦКА,**
**Старшыня Рады Згуртаваньня навапрадцаў сьвету**

# St.Tamara — МУЗЫКА ПАМЯЦІ

Увасабленьне сьвету праз жывапіс — інтымны, бясконца глыбінны працэс. Ён дакранаецца да нашай унутранай сутнасьці магічнай палітрай колераў, выклікаючы ўспаміны дзяцінства. І вось яны зводзяцца да музыкі, да чаруючага гуку, які азначае для кожнага свой знак, свой сымбаль.

Прыгажосьць сьвету — ёсьць увасабленьне вечнай ідэі ў няспынным руху імгненьняў. Прырода наўмысна не спыніла яго разьвіцьця, каб толькі мастак як адзінае падабенства Тварца — быў бы здольны на гэта...

Усё, што ўтворана прыродаю, — ёсьць адным з найбольш улюбёных вобразаў Тамары. Яна глядзіць на жыцьцё праз міфічна-фантастычнае мінулае нашых продкаў, з іх маленьнем Космасу, Пантэону Багоў.

Яна захоўвае ў сабе прапамяць, тое першаснае ўражаньне ад далёкага Раю, якое завецца дзяцінствам.

Матывы Тамары — сумяшчэньне зямнога і касмічнага гучаньня музыкі ў фарбах. Гэтая гармонія паглынае, уводзячы ў прастору палатна, якая падаецца праз семантычныя зьмены і "размытасьць" вобразаў. Падсьвядомасьць паглыбляецца ў знакавую "множнасьць", наводзячы на разгадку нечага таямнічага — уваскрашаючы першавобразы...

Прастора перастае быць адзінай. Яна разрываецца, ствараючы вокны ў іншыя вымярэньні, праз якія душа Тамары бачыць родную Бацькаўшчыну — Наваградчыну.

Кожнае палатно, роўна як і цыклы палотнаў, трактуюцца ёю не як пейзажныя матывы, а як сімвалічнае адлюстраваньне праяў усё тых жа ідэй часу, прыгажосьці дзеля ідэі вечнасьці.

Вобразы далёкага сьветлага дзяцінства яна ўвасабляе праз дрэвы й аблокі, сонца і неба, горы...

...Іх блакітна-белы колер надае ім чароўную таямнічасьць, і ў сьвядомасьці ідзе працэс дэматэрыялізацыі вобразаў — гара ўжо ўспрымаецца то ў форме піраміды, то аблокаў, альбо як галава нейкай архаічнай антрапаморфнай істоты...

Яе творчасьць кранае мяне шчырасьцю, сапраўднай марай ды й глыбокім духоўным зьместам. Палотны, створаныя алеем, пастэлі і акрылікі ўражваюць сваёю сьціпласьцю і грацыёзнасьцю.

Яе аблокі поўныя экспрэсіі і вобразнасьці — прыгажосьць іх эфемерная, яна ў любы момант можа быць парушана — дажджом ці сонцам... бурай ці ветрам. І таму яны такія дынамічныя — бо такое кароткае жыцьцё, іх прыгажосьць...

Лес... Свой лес, свой лясны міф стварае Тамара. Лес сьветлы, сілуэты дрэў поўныя экспрэсіі й руху, як быццам бы пад ветрам жывуць і размаўляюць аб нечым лясныя духі. Аб чым, і з кім? — можа, з кветкамі? Якія квітнеюць на палотнах, не маючы зямных аналагаў і могуць нарадзіцца толькі ва ўлоньні свабоднай мастацкай фантазіі, ствараючы блізкасьць таму вечнаму і гарманічнаму сьвету, імя якому — музыка памяці.

**Ала НАРОЎСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук**

# Ст.Тамара: МАЯ АМЭРЫКА

Велічная Статуя Свабоды, нечакана зьявіўшаяся з віруючага туману з горда ўзьнятым факелам, вітала чужынцаў. Ружова-жоўтыя хмары зьбіраліся залатым німбам вакол яе кароны, надаючы ёй Боскасьць. Мастачка ўспамінае: "Яна паказвала дарогу да берага гэтай казачнай зямлі — званай Амэрыка. Для мяне яна была анёлам. Гэта было незабыўнае, падобнае да рэлігійнага ўражаньне". Ст.Тамара напаўняе ўсе свае краявіды надзвычайным натхненьнем, яна надзяляе іх боскай прысутнасьцю. Рознабаковасьць тэматыкі твораў у яе солё-выставе "Амэрыка — мая Амэрыка" супярэчыць самой назве, паколькі творы рэпрэзэнтуюць не толькі Злучаныя Штаты. Гэтыя радасныя выявы наводзяць на думку аб зьнікненьні мяжы паміж дзяржавамі. На гэтай выставе -- некалькі добра вядомых усёй Амэрыцы помнікаў. Рашмор — велічэзная гара ў Чорных гарах, штата Паўдзённае Дакоты, у якой высечаны на 60-футавай вышыні партрэты чатырох прэзыдэнтаў. Яны ўвасоблены Ст.Тамарай рэалістычна. Іншыя — бліжэй па палітры і настрою да "Статуі Свабоды", улучаючы самаўпэўнены "Дух Індыянскіх Часоў", індыянскі праваднік перад яскравым захадам Сонца ды й "Вялікі Кан'ён". Але не ў выяве такіх вядомых манумэнтаў, а праз увасабленьне безымянных Ст.Тамара стварае вобраз Амэрыкі. Адна з найбольш яе бліскучых карцін "Зубры, Елаўстоўнскі Нацыянальны Парк, Ваёмінг" — раскрывае вялікі прастор, вяртаючы гледача да каранёў краіны — да старога Амэрыканскага Захаду. Зубры ёсьць магутна спакойныя. Ціхая вада ракі нібы зьнікае ў бясконцасьці і ператвараецца ў блакітнае неба, якое зьліваецца з гарамі, а далей растопліваецца ў аддаленай імгле. Адметная якасьць найбольш моцных твораў Ст.Тамары вызначаецца вытанчанасьцю і спакоем, нагадваючы пастэлевыя раніцы Дж.М.В.Тэрнера ды й творы Манэ і Марке. "Н'ю-Джэрскія Балоты" — далікатнае імпрэсіяністычнае палатно, дзе вясёлка хмараў мякка карануе неба. Гэта ёсьць "незабыўнае месца, — пісала мастачка, — дзе белыя чаплі весьцяць прыход вясны, дзе ідзе няспынная зьмена жыцьця, дзе новыя чароты замяняюць старыя ды калыхаюцца, як хвалі акіяну". У карціне "Вартаўнік" рад дрэваў грацыёзна рухаецца ўверх, паўтараючы выгнутую лінію, створаную гарамі. "Я была ўзрушаная структурай цьвёрдага граніту, які выступаў далёка ўперад у нямой позе — вартаўнічай, непарушнай". "Зіма N 1" прадстаўляе больш абшырны, далёкі краявід, які падкрэсьлівае сэнс бясконцасьці ды й цішыні. "Там, — кажа Тамара, — хмары былі пагражаючымі, хутка сунуліся, але сьнег не падаў; не было зусім гуку, акрамя ветру. Калі б падаў сьнег, я думаю, што я б чула паданьне сьняжынкаў". Таос Пуэбла — гэта 700-гадовыя індыянскія хаты ў Н'ю-Мэксыка. Твор "Сьнежаньскі Захад", маляваны на кузцьцю, падкрэсьлівае, як старажытныя будынкі ўвасабляюць форму скалаў, у якія яны былі ўбудаваны. Цёплы каларыт карціны адлюстроўвае, як кажа мастачка, "найбольш незвычайную колеравую палітру Н'ю-Мэксыка. Заходзячае сонца замалявала горы золатам, цені набылі колер вохры, а аксамітавае неба выглядала бязьмерным"... У сыметрычным "Таос Пуэбла, Захад" доўгі цень зямлі ізалюе старадаўнія індыянскія сядзібы. "Чырвоны Камень, Мэйн". Ст.Тамара таксама ўжывае спрошчаны геаметрычны малюнак, каб выказаць сілу прыроды. "Тут сілы акіяну й сіла камянёў сутыкаюцца лоб у лоб і ні адзін не падаецца. Хваля за хваляй разьбіваюцца аб гэтыя непарушныя каменьні і падаюць уніз з пляскам. За гэтай бясконцай барацьбой назіраюць ціхія сосны". Вобраз зьзяе кантрастам двух дапаўняючых колераў, кармінна-чырвоны камень разьмешчаны ў сьветлым блакітна-зялёным моры. Скарочаная пэрсьпектыва кампазіцыі нагадвае японскія гравюры хваляў супраць камянёў, што так паўплывала на Ван Гога. Некаторыя краявіды выклікаюць незвычайныя пачуцьці. Напрыклад, "Нацыянальны Парк, Юта" паказаны праз "кола" з чырвонага каменя, цераз якое можна бачыць толькі інтэнсіўную сіняву неба, што ляжыць на тым баку, пакінутая для дамысьленьня гледачом. "Тут, — кажа яна, — час і вецер утварылі таямнічыя іншасьветныя структуры. Глядзіш цераз арку на далёкі краявід, нібы цераз вока дзіўнай істоты, і ўяўляеш, што заглядаеш у іншы сьвет". "Волпі. Гопі Рэзэрвацыя". Над самотнай рэзэрвацыяй, збудаванай на вяршыні грандыёзных скалаў, навісьлі рудыя ды й цытронава-жоўтыя хмары. Яны выглядаюць ненатуральнымі, хутчэй як тэатральныя дэкарацыі. Ст.Тамара адчула настрой самотнасьці й таямнічасьці, які, яна тлумача, "дае пачуцьце рамантычнага, сярэдневяковага замка, забытага часам". Маляваныя больш натуральнымі адценьнямі, масыўны "Вялікі Тытанс, Ваёмінг" таксама мае нерэальную якасьць. Ружаватая маса перамешаных вярхоў... Яны выступаюць эфектна ўверх з раўніны Джэксан Гоўл у выглядзе доўгай паласы даўжынёю 40 міляў, якая сягае ў вышыню на 14 футаў. "Там няма паступовага падыходу да гэтых гор, што стварае незвычайны выгляд — тлумачыць мастачка. — Аднак яны выглядаюць прываблівымі, нягледзячы на іхнюю масыўнасьць". Напэўна, найбольш паэтычнай ёсьць адна з самых апошніх і найбольш абстрактных работ — "Чароты N 1". Палатно пакрыта цалкам бледным, мяккім, белаватым колерам траў, што калышуцца пад ветрыкам. Гутарачы пра трывалыя дзіцячыя ўспаміны, мастачка кажа: " Пасьля другой сусьветнай вайны наша школа паехала наведаць Альтэ Пінакотэк Музэй у Мюнхене, дзе я пабачыла карціну "Пан, седзячы ў чароце, грае на флейце". І я пачула мяккую, сумную мэлёдыю. Самотнасьць і цеплыня асяродзьдзя Пана засталіся ў маёй памяці. Цяпер кожны раз, як гляджу на чароты, я думаю пра гэтую карціну". У постаці Пана ўвасоблены апафеоз прыроды, які праходзіць цераз усе творы Ст.Тамары. Абстрактныя мастакі паглыбляюцца ў сябе, шукаючы новыя мастацкія формы. Ст.Тамара, закаханая ў прыроду і будучы рамантыкам, наадварот, пайшла ў яе, поўнасьцю паглыбляючы сябе ў абшырным краявідзе, ды выразіла жыцьцё кожнага месца. Яна не толькі перадае прыроду, але нават нібы зьлілася з ёю.



*Ст. Тамара пры сваіх карцінах. Саўт Рывэр, Н'ю Джэрсі (што-гадовая выстава ў беларускім цэнтры).*

**Лоры ГУРВІЦ,**
**старшы рэдактар "Амэрыкэн Артыст"**

НА АБШАРАХ СВЕТУ

# ЦВЯТОК РАДЗІМЫ ВАСІЛЬКА

*Мой родны кут цвіце*
*рамонкам,*
*І хлебам пахнуць каласы.*
*Віхурным танцам,*
*песняй звонкай*
*Вас слуцкія вітаюць паясы.*

Народны музычна-абрадавы ансамбль "Слуцкія паясы" Лучнікоўскага цэнтра культуры заўсёды вітае гледачоў мелодыяй песні "Слуцкія ткачыхі". Вітае шчыра, сардэчна, па-мастацку выразна. Танцы арганічна спалучаюцца з песнямі. Аматары самадзейнай сцэны ўсёй душой аддаюцца любімай справе — адраджэнню і захаванню традыцыйнай народнай творчасці. Гэта радуе мастацкага кіраўніка ансамбля, дырэктара Палаца культуры Васіля Шусцінава, які сам з'яўляецца апантаным выканаўцам. Яго творчаму і мастацкаму густу могуць пазайздросціць нават прафесійныя артысты.

Калгаснаму Палацу культуры пашанцавала. Па шчаслівай выпадковасці ў свой час яго ўзначаліў незвычайны па сваім асабістым духоўным багацці чалавек — прафесійны спецыяліст з музычным, кампазітарскім і літаратурным дарам. Вось ужо трыццаць гадоў ён верай і праўдай служыць культуры, за што ўзнагароджаны дзвюма ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета рэспублікі, не гаворачы ўжо аб шматлікіх медалях.

У сяброўскай гутарцы Васіль Яфімавіч без выхвалення зазначае: "без баяна і песні і дня пражыць не магу". Музыка спакою не дае, ды і ансамбль патрабуе вялікіх творчых намаганняў. Адны партытуры колькі часу аднімаюць. Стварэнне, апрацоўка, аранжыроўка твораў, нотная распіска па інструментах, галасах —гэта цэлы ланцужок творчага карпення за сталом. Калі ўлічыць яшчэ гаспадарчыя турботы аб самім будынку, яго мастацкім аздабленні, набыцці тэатральнага рэквізіту, апаратуры, музычных інструментаў, то тут часта не хапае дня. Як пачынаецца ранак з планёркі ў старшыні калгаса, так і заканчваецца апоўначы ў самім Палацы.

— Бывае, што і сіл не хапае, — прызнаецца Васіль Яфімавіч. —Але ўдалы канцэрт —найлепшы стымул для творчага натхнення.

У культработніка-прафесіянала В.Я.Шусцікава нялёгкі, але зайздросны лёс. Адных аўтарскіх песень ён напісаў больш дваццаці. А віртуознае валоданне гармонікам і баянам зрабіла яго вядомым аж на Кубе, куды ён ездзіў у складзе прадстаўнічай групы Міністэрства культуры былога Саюза. Ансамбль пад яго кіраўніцтвам быў запрошаны на міжнародны фестываль танцавальнага фальклору ў Турцыю.

— Высокі творчы ўзровень выканаўчага майстэрства ўдзельнікаў ансамбля "Слуцкія паясы" і яго мастацкага кіраўніка Васіля Шусцікава —гэта вяршыня яго працаздольнасці, — такую высокую адзнаку выказаў старшыня калгаса Мікалай Ілліч Васілевіч.

— У рэпертуарным куфры ансамбля амаль усе песні з народнай класікі, —зазначыла дырэктар Слуцкага арганізацыйна-метадычнага цэнтра Людміла Канстанцінаўна Кулiноўская. — А колькі іх у памяці Васіля Яфімавіча, дык ён і сам не ведае. Яшчэ не было такога выпадку, калі б ён не "падхапіў мелодыю" той ці іншай песні ў кампаніі, на свяце ці на вяселлі.

Дарэчы, яго жонка, дзеці і нявестка — усе ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, валодаюць рознымі музычнымі інструментамі. Ансамбль "Слуцкія паясы" стаў для іх другой сям'ёй.

**Адольф СУРЫНОВІЧ,**
**намеснік дырэктара**
**Мінскага абласнога цэнтра**
**народнай творчасці**



# ЗВЯНО Ў ЛАНЦУГУ КУЛЬТУР

Я наведаў Ізраільскі культурна-інфармацыйны Цэнтр якраз у той час, калі яго адрас мяняўся. На Уральскай,3 была мітусня, як заўсёды ў час пераезду, і дырэктар Цэнтра Эліягу Шызах нават не змог знайсці колькі хвілін для размовы — было шмат гасцей. Затое гасцінна правяла па Цэнтры і расказала пра яго працу спадарыня Наталля Фрэнкель, адказная за праграмы Цэнтра.

Нашу газету заўсёды цікавіла культура Ізраіля, чые дзеці, асеўшы на Беларусі ў даўнія часы, унеслі свой уклад у нашу культуру і захавалі сваю нацыянальную самабытнасць. Безумоўнае спачуванне ў беларускай інтэлігенцыі сустракалі спробы гэтага аднаго з найстаражытнейшых народаў зямлі адрадзіць на сваёй гістарычнай радзіме ўласную дзяржаўнасць, вярнуць мову продкаў, хаця афіцыйная ідэалогія яшчэ ў нядаўнія часы даволі варожа ставілася да гэтых спробаў.



Цяпер нашы кантакты з Ізраілем наладжваюцца, рэйсы на Тэль-Авіў не пустуюць. Наадварот — калі сёлета я сабраўся быў наведаць сваіх знаёмых у Ізраілі, узнікла праблема з білетамі — і паездка не адбылася. Затое адтуль нядаўна вярнуўся мой сябра Барыс — і я проста не пазнаў яго. Трохі скептычны, аддалены ад каранёў сваіх продкаў, ён ажно свяціўся, расказваючы пра культуру гэтай краіны, яе звычаі, дэмакратызм і ўвогуле атмасферу. І нешта ўва мне, у маёй душы таксама адгукалася на гэтыя апавяданні — там, у Ерусаліме, усё звязана і з нашай хрысціянскай культурай, і для нас дарагія мясціны, апісаныя ў Старым і Новым запаветах...

Мне здаецца, што Ізраільскі культурна-інфармацыйны Цэнтр робіць вялікую справу, наладжваючы кантакты нашых культур. Гэтае ўражанне асабліва ўзмацнілася пасля размоў са спадарыняй Наталляй.

"Мы сапраўды шмат займаемся пытаннямі яўрэйскай і ізраільскай культуры, правядзеннем нашых традыцыйных святаў, наладжваннем канцэртаў. Хочацца, каб на Беларусь даходзіла інфармацыя аб тым, што робіцца цікавага ў нашай краіне. Спачатку нашы імпрэзы праходзілі, так бы мовіць, на самадзейным узроўні, але цяпер з намі пачалі супрацоўнічаць сапраўдныя прафесіяналы — напрыклад, Камерны хор пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова, Валерый Дайнэка, Іна Афанасьева, многія іншыя.

Мы вырашаем таксама кансультацыйныя праблемы па справах рэпатрыянтаў у Ізраіль, маем кантакты з яўрэйскай спартыўнай арганізацыяй "Маккабі". Адным словам, працуем напружана. Кіраўніцтва ў нас ажыццяўляюць два дырэктары, адзін з якіх па традыцыі прыязджае з Ізраіля тэрмінам на адзін год. Гэта сілкуе новыя ідэі, надае новую энергію пошукам. Выканаўчы дырэктар — Рыгор Фрэнкель — працуе пастаянна. Няхай усе, хто цікавіцца нашай культурай і нашай краінай, прыходзяць да нас — мы будзем рады пашырыць нашыя кантакты".

Хачу дадаць, што 22 верасня ў тэатры музычнай камедыі адбыўся вялікі канцэрт "зорак" нашай эстрады. Нагода была значная — 6 верасня па яўрэйскім календары пачаўся новы 5755 год. Я глядзеў канцэрт, і з задавальненнем думаў пра тое, што дзякуючы гэтай даце адчуваю сябе (як маленькае звяно ў ланцугу чалавецтва) старэй ажно на 3761 год, і што гэта цудоўна... На жаль, не знайшлося на ім ніводнага беларускага слова для беларускай зямлі. І цудоўны голас Валерыя Дайнэкі гучаў толькі на мове іўрыт...

**Руслан КАЧАТКОЎ**



## Факты аб Ізраілі:

Гісторыя жыцця яўрэйскага народа на зямлі Ізраіля налічвае 35 стагоддзяў. На гэтай зямлі сфармавалася ягоная культурная, нацыянальная і рэлігійная сутнасць, там ён знаходзіўся ўвесь час на працягу стагоддзяў, нават пасля таго, як большасць народу была ў выгнанні. Пасля стварэння Ізраіля як дзяржавы незалежнасць народа пасля 2000 гадоў была аднаўлена.

Ізраіль — гэта доўгая і вузкая палоска зямлі даўжынёй 470 кіламетраў і шырынёй 135 кіламетраў у самым шырокім месцы. Плошча краіны малая, але мае вялікую колькасць тапаграфічных і кліматычных зон: лясістыя нагор'і і ўрадлівыя раўніны, пустэльні, аазісы. Тут жа знаходзіцца ўпадзіна Мёртвага мора — самае нізкае месца на зямлі.

Ізраіль — гэта краіна іміграцыі. З 1948 года яго насельніцтва павялічылася ў 7 разоў. Яно ўяўляе з сябе пярэстую мазаіку з людзей розных нацыянальнасцей, з рознымі спосабамі жыцця, рэлігіямі, культурай і традыцыямі. Яўрэі складаюць каля васьмідзесяці двух працэнтаў, неяўрэйскае насельніцтва — большасць якога арабы — прыкладна васемнаццаць працэнтаў.

Ерусалім (557 тысяч жыхароў) з'яўляецца сталіцай дзяржавы і цэнтрам духоўнага жыцця ўжо 3000 гадоў. Сёння гэта самы вялікі ў краіне, поўны жыцця, квітнеючы горад, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя ўрада.

Тэль-Авіў (356900 жыхароў) быў заснаваны ў 1909 годзе як першы яўрэйскі горад сучаснасці і сёння гэта прамысловы, гандлёвы і культурны цэнтр краіны.

Хаёра (250 тысяч жыхароў) — вядомы са старажытнасці, буйны міжземнаморскі порт, а таксама гандлёвы і прамысловы цэнтр на поўначы Ізраіля.

Ізраільскае грамадства — маладое, але з карэннямі, якія ідуць у далёкае мінулае. Дзяржаўнай мовай з'яўляецца іўрыт —першая мова Бібліі. На працягу стагоддзяў, у часы выгнання яўрэяў са сваёй зямлі, яна не выкарыстоўвалася як жывая мова і захоўвалася ў рэлігійных службах, адукацыі, паэзіі. З часоў узнікнення ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў Еўропе яўрэйскага нацыянальнага руху пачалося адраджэнне іўрыта. Колькасць слоў павялічылася з 8 тысяч у біблейскія часы да 120 тысяч слоў сёння, а ў 1953г. была створана Акадэмія мовы іўрыт.

Эліэзер Бэн-Іехуда (1858 — 1922гг.) быў першым, хто пачаў справу адраджэння гэтай старажытнай мовы. Пасяліўшыся ў Эсрэу-Ісраэль у 1881г., ён першым увёў іўрыт як гутарковую мову ў побыце і школе і пачаў выданне часопіса на гэтай мове, ствараў новыя словы. Цікава, што ён стварыў некалькі тамоў семнаццацітомнага "Поўнага слоўніка старажытнага і сучаснага іўрыта", праца над якім была распачатая ім у 1910г. і скончана толькі ў 1959г. ягонымі ўдавой і сынам.

# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## Серада, 28 верасня

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.50. "Дзівосны манеж". Мультфільм.
9.00. Тэлебачанне — школе. Гісторыя. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны. Баі на тэрыторыі Беларусі.
9.30. "Маё каханне, мой смутак".
10.30. Аэробіка. Урокі Н.Наважылавай.
12.10. Валадарская дружына. Вялікае княства Літоўскае.
13.10. Студыя "Бімбат" прадстаўляе: "Крылы". Відэафільм.
13.30. Навіны (з сурдаперакладам).
15.40. Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё.
16.40. "Еўрапейскі калейдаскоп".
17.10. "Бімбат". Праграма для падлеткаў.
17.30. "Напярэдадні". Да 50-годдзя Лідскага камбіната харчовых канцэнтратаў.
17.50. Футбол. Кубак УЕФА. "Лацыо" (Італія) — "Дынама" (Мінск). Пасляслоўе да матча.
18.10. Абласныя навіны (Гомель).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. "Пяць зорак". Тэлегульня.
20.10. Крэда. Праграма для дзелавых людзей.
20.30. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. Надвор'е.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял. Хакей. Чэмпіянат МХЛ. "Цівалі" (Мінск) — "Крылы Саветаў" (Масква). 3-і перыяд.

### Канал "Астанкіна"

5.30. Раніца.
7.00, 9.50, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
7.15. Працяг праграмы "Раніца".
8.00. Расійскі дайджэст.
8.20. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
8.45. Дзелавы веснік.
8.55. Клуб падарожнікаў.
15.25. "Вайна гобатаў". Мультсерыял.
15.50. На балі ў Папялушкі.
16.05. "Лятаючы дом". Мультсерыял.
16.40. Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Азбука ўласніка.
17.40. Свет сёння.
17.50, 20.35. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Клуб "Белы папугай".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Маналог.
20.55. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Спартак" (Масква) — "Пары Сен-Жэрмен" (Францыя).
23.10. Праграма "У".
23.30. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. Агляд.
0.40. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
6.20. Патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Снеданне для чэмпіёнаў.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. Ранішні канцэрт.
8.40. "Санта-Барбара".
9.30. Рэпарцёр.
9.45. XX стагоддзе ў кадры і па-за кадрам.
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Далёкі Усход.
16.50. Кліп-антракт. М.Оліна.
16.55. М-трэст.
17.10. Залатая галінка. "Манастыры Наўгародчыны".
17.40. Свята кожны дзень.
17.55. Звычайная справа.
18.10. Тэледэбаты.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Ніхто не забыты.
20.30. Гранд-рэпартаж. "Цыганская рапсодыя".
21.05. Зала чакання. "Прызначанае банкруцтва".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Пецярбургскія сезоны.

### Санкт-Пецярбург

11.20. "Кракакот", "Цінка-павуцінка". Мультфільмы.
11.40. "Я хачу быць отракам светлым". С.Ясенін.
12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы". Тэлесерыял.
14.20, 21.25. Тэлемагазін.
14.45. "Тарцюф". Маст. фільм.
16.20. Рускія рамансы спявае Галіна Пісарэнка.
16.45. Урок нямецкай мовы.
17.00. "Здарэнне на вуліцы Паланк". Маст. фільм для дзяцей (Венгрыя).
18.10. Вялікі фестываль.
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.05. "Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы".
19.55. "Справа мінулая". Мультфільм для дарослых.
20.05. Блеф-клуб.
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. "Падсякай". Перадача для рыбаловаў.
21.10. Музычны момант.
21.30. Будні.
22.00. Спартыўныя навіны.
22.10. Ваш стыль.
22.20. "Другое нараджэнне". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.

## Чацвер, 29 верасня

### Беларускае тэлебачанне

7.55. Праграма перадач.
8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.40. Крэда.
9.00. "Маё каханне, мой смутак".
12.25. Трэці тайм.
13.10. "Бімбат".
13.30. Навіны (з сурдаперакладам).
16.40. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. Еўфрасіння Полацкая і яе жыццё.
17.10. "Бімбат". Праграма для падлеткаў. "Марсельеза".
17.30. "Кутх і мышы". Мультфільм.
17.40. Планета людзей.
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Зачытайце маё пісьмо...
19.05. Стоп-кадр. Крымінальная хроніка.
19.25. 1000 пытанняў.
20.00. Партрэт на фоне часу. Акцыянернае таварыства "Віцебскі панчошна-трыкатажны камбінат КІМ".
20.30. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". "Залатая дзесятка". Прамая лінія.
22.55. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — Пяць хвілін на жарты. Пад купалам Сусвету. Надвор'е.

### Канал "Астанкіна"

5.30. Раніца.
7.00, 9.50, 15.00, 17.00, 20.00, 23.35. Навіны.
7.15. Працяг праграмы "Раніца".
8.00. Агляд рынку нерухомасці.
8.20. "Дзікая ружа".
8.45. Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Баварыя" (Мюнхен) — "Дынама" (Кіеў).
15.25. "Вайна гобатаў". Мультсерыял.
15.50. Мульцітролія.
16.05. ... Да 16 і старэйшым.
16.40. Планета. "Агульны дом СНД: ідэалы і практыка".
17.25. Знак пытання.
17.40. Загадка СБ.
17.50, 20.30. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа".
18.55. Сярэбраны шар.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква—Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. Маст. фільм з удзелам Алена Дэлона "На яркім сонцы" (Францыя).
23.45. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
6.20. Патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Знаёмыя мелодыі.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30. Паехалі.
8.40. "Санта-Барбара".
9.35. Зусім сакрэтна.
10.30. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. "Востраў".
16.35. На шляху да рынку.
16.50. Рубяжы.
17.05. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. У свеце аўта-і мотаспорту.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.30. Я — лідэр.
20.55. Ціхі дом.
21.45. Экран крымінальных паведамленняў.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Футбол. Кубак кубкаў. "Ферэнцвараш" (Венгрыя) — ЦСК (Расія). Перадача з Будапешта.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. Іграе аркестр абароны Расіі.
13.55. "Мікалай Астроўскі. Легенды і быль". Дак. фільм.
14.45, 21.25. Тэлемагазін.
14.50. "Садко". Маст. фільм.
16.20. Еўрапейскі калейдаскоп.
16.50. "Просты мужык". Мультфільм.
17.00. Студыя "Уяві".
17.10. Дзецям пра зверанят.
17.30. Парады садаводам.
17.40. Рэформа і ўлада.
18.10. Вялікі фестываль.
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.05. Ура, камедыя! "Асенні марафон".
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. Вакальны цыкл Д.Шастаковіча на вершы С.Чорнага выконвае Г.Вішнеўская.
21.30. Па ўсёй Расіі.
22.00. Спартыўныя навіны.
22.15. Ваш стыль.
22.20. "Вячэрні звон". Музычны канал.
23.20. "Другое нараджэнне". Маст. фільм. 3-я серыя.

## Пятніца, 30 верасня

### Беларускае тэлебачанне

7.55. Праграма перадач.
8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.40. Як нараджаецца музыка? "Слухаем клавесін".
9.00. Тэлебачанне — школе.
9.30. Гуляем у стрытбол. Спартыўная праграма.
10.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". "Пяць зорак".
11.10. "Я + Я". Мужчына і жанчына.
11.45. Планета людзей. Па матэрыялах тэлеканала "Уорлднет" (ЗША).
12.15. Размовы ад Вовы.
12.45. "Дывертысмент". Фільм-канцэрт.
13.10. "Бімбат".
13.30. Навіны (з сурдаперакладам).
16.25. Праграма перадач.
16.30. Жыві і помні. "Трасцянец" — наш боль.
17.10. "Бімбат". Закон і ты. Прамая лінія.
17.40. У свеце навукі. Якую ваду мы п'ём?
18.10. Абласныя навіны (Магілёў).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Эканамікст.
19.10. Свята паэзіі ў Нясвіжы.
19.35. "Свая ці чужая выгада?" Погляд на прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці.
20.20. Студыя "Тэлесябрына". Падарункі на добры настрой.
20.35. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пяць хвілін на жарты.
21.40. Пад купалам Сусвету.
21.50. Надвор'е.
22.00 На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — "Доўгія провады". Мастацкі фільм.

### Канал "Астанкіна"

5.30. Раніца.
7.00, 9.50, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
7.15. Працяг праграмы "Раніца".
8.00. Новы старт.
8.15. Сарока.
8.40. "Дзікая ружа".
9.10. "Лідзія Скоблікава". Аўтапартрэт.
10.00. Бізнес-клас.
15.25. У гасцях у казкі. "Рыжы, сумленны, закаханы" ("Беларусьфільм"). 1-я серыя.
17.25. Чалавек і закон.
17.55, 20.35. Надвор'е.
18.00. Чалавек тыдня.
18.20. "Дзікая ружа".
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Сустрэча з А.І.Салжаніцыным.
21.05. "Вуліцы Сан-Францыска". Тэлесерыял. 4-я серыя.
22.05. "Погляд" з А.Любімавым.
23.10. Валейбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Зборная Расіі — зборная Канады.
24.00. Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
6.20. Патрабуюцца...
6.30. Формула-730.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. "Гарадок". Забаўляльная праграма.
8.00. Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.25. Паехалі.
8.35. Осінцаў баль.
9.05. "Санта-Барбара".
9.55. "Ламінарыя, ці Жыццё з пункту гледжання..." Дакументальны фільм.
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. Дысней па пятніцах. "Усё яшчэ не чалавек". Маст. фільм. 1-я серыя.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. Зорны дождж.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Пяць хвілін аб добрым жыцці.
20.30. Джэнтльмен-шоу.
21.05. "К-2" прадстаўляе: "Спыніся, імгненне".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Перамена лёсу". Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Вясна, лета, восень, зіма і мастак Зінка". Дак. фільм.
13.45. "Чараўніцтва". Фільм-канцэрт.
14.45. Ура! Камедыя. "Асенні марафон".
16.20. З любоўю да вас. Марыя Біешу.
17.20. "Камарыль","Блакітнае сланяня". Мультфільмы.
17.40."Кешка і гангстэры". Мастацкі фільм.
18.10. Вялікі фестываль.
18.50. Спорт, спорт, спорт...
19.05. "Дзіця чалавечае". Мастацкі фільм.
20.50. Тэлеслужба бяспекі.
21.00. "А я іду..." Спявае М.Баярскі.
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Будні.
22.00. Спартыўныя навіны.
22.10. Ваш стыль.
22.20. Анталогія зарубежнага кіно. "Двухмеснае аўто". Мастацкі фільм (ЗША).

## Субота, 1 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

7.55. Праграма перадач.
8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.50. Здароўе. Тэлечасопіс.
9.15. "Доўгія провады". Маст. фільм.
10.50. Паказвае Віцебск.
11.45. "Лулу — анёл кветак". Мультсерыял.
12.20. "Пушчанскія галасы". Тэленарыс.
13.00. "Бімбат". Праграма для падлеткаў. Закон і ты.
13.30. Архіварыус. На канцэрце Мусліма Магамаева (1963 год).
14.10. Хрысціянская праграма.
14.40. Шматгалоссе. Народы Беларусі: іх гісторыя, культура, традыцыі.
15.25. Студыя "Бімбат" прадстаўляе: "З чаго пачынаецца Радзіма?" Відэафільм.
15.45. "Чарапашкі ніндзя". Мультсерыял.
16.10. "Чацвёртае вымярэнне".
16.45. "Нов і К"-топ-10.
17.45. "Падводныя лодкі — акулы са сталі". Дакументальны серыял (Аўстралія).
18.15. Тыдзень тэлебачання Кітая. Выступленне Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла КНР у Беларусі пана Ван Сінда. "Кітай". Дак. фільм.
19.00. Міжнародны дзень музыкі. Сімфанічны канцэрт. Трансляцыя з Белдзяржфілармоніі.
19.50. Міжнародныя спартыўныя навіны.
20.25. Пад купалам Сусвету.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Зоркі" на экране. "Тайны сям'і дэ Граншан". Маст. фільм. 2-я серыя.
22.35. Пяць хвілін на жарты.
22.45. "Каскад". Пра бізнес і бізнесменаў.
23.05. Відзьма-нявідзьма.

### Канал "Астанкіна"

6.30. Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.15. Спорт-шанц.
7.45. Слова пастара. Мітрапаліт Кірыл.
8.00. "Марафон-15" — малышам.
8.30. Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія "Мір".
10.00. Ранішняя пошта.
10.30. Я — жанчына.
11.00. Без паўзы.
11.10. Смак.
11.25. Дапамажы сабе сам.
11.55. Чалавек і закон.
12.05. "Кітай: экзотыка і не толькі..." Праграма Кітайскага тэлебачання.
13.50, 22.50, 23.50. Навіны.
14.05. Тэлескоп.
14.35. "Кэтвізл". Тэлесерыял для дзяцей.
15.00. Люстэрка.
15.40. Рускія народныя песні і рамансы спявае Д.Хварастоўскі.
16.05. У свеце жывёл.
16.45. Шчаслівы выпадак.
17.35. Да і пасля.
18.30. Бамонд.
18.45. "Сем нот Астанкіна".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны плюс.
20.35, 23.00. Надвор'е.
20.45. Маст. фільм "Звар'яцелыя" (ЗША).
23.10. Валейбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Зборная Расіі — зборная Грэцыі.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.25. "Душы цудоўныя парывы". Дак. фільм.
7.55. Мульці-пульці. "Муфта, паўчаравіка і мохавая барада".
8.25. Студыя "Рост".
8.55. Пілігрым.
9.40. Музыка ўсіх пакаленняў.
10.10. Тэлеэрудыт.
10.15. Да Масквы — далёка.
11.00. Кліп-антракт. В.Казачэнка.
11.10. "Вясёлае чарадзейства". Маст. фільм.
12.20. Кіно ў кастрычніку".
12.35. Тэлеэрудыт.
12.40. Сялянскае пытанне.
13.20. Перарваны звон у Карнегі-хол.
14.05. Астралогія кахання.
14.35. "Зоркі Амерыкі".
15.05. Мульці-пульці. "Сіротка Эні".
15.15. Футбол без граніц.
16.10. Прэм'ера мультфільма "Тры мушкецёры" (ЗША).
17.05. Вуснамі дзіцяці.
17.35. Свята кожны дзень.
17.45. Шарман-шоу.
19.25. "Апошняя мішэнь". Маст. фільм (Італія).
21.25. Рэк-тайм.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Праграма "А".
23.35. "Вір". Маст. фільм.

### Санкт-Пецярбург

9.00. "Гадзіна Фрэйзера". Рэлігійная праграма.
9.35. Анталогія зарубежнага кіно. "Двухмеснае аўто". Маст. фільм (ЗША).
11.40. Музыка на заказ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нябесны дар", "Малахітавая шкатулка". Мультфільмы.
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Рабочы пасёлак". Маст. фільм.
15.50. "Марыяна першая". Мультфільм.
16.20. У адным нясумным пансіёне.
16.40. "Еўропа ў агні". Дак. фільм.
17.45, 20.50. Уік-энд з дэтэктывам.
18.10. Вялікі фестываль.
18.30, 21.30. Інформ ТБ.
18.55. Экспрэс-кіно.
19.15. "Страсці". Тэлесерыял.
21.05. "Падаў леташні снег". Мультфільм для дарослых.
21.45. Ваш стыль.
21.55. "Сяло Сцяпанчыкава і яго жыхары". Маст. фільм. 1-я серыя.

## Нядзеля, 2 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.30. Слова да чалавека.
9.00. Беларускі тур. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
9.20. "Зоркі" на экране. "Тайны сям'і дэ Граншан". Мастацкі фільм. 2-я серыя.
10.20. "Чарапашкі ніндзя". Мультсерыял.
10.45. Дайнова-інвест:"MTV". Лепшыя хіты.
11.15. Аэробіка.
11.45. Гасцёўня "Тэлебома".
12.45. Мультклуб.
13.15. "Хто лепшы?" Гульня-конкурс у СШ N 117 г.Мінска фонда "Стварэнне".
13.50. Тыдзень тэлебачання Кітая. "Таксі N 518". Тэлевізійны мастацкі фільм.
15.30. Тры апельсіны. Музычная праграма.
15.50. Тэлеклуб "Гаў-гаў".
16.15. "Гінес-шоу".
16.45. "Тэлекрама.
16.55. "Чарапашкі ніндзя". Мультсерыял для дзяцей і дарослых.
17.20. Праспект. Інфармацыйна-аналітычная праграма.
17.50. Дзелавы веснік.
18.05. Памяці народнага артыста Беларусі Зіновія Бабія. Дабрачынны канцэрт.
19.35. Спартыўнаму комплексу "Раўбічы" — 20 гадоў.
20.00. Панарама.
20.35. Калыханка.
20.55. Пяць хвілін на жарты.
21.05. Пад купалам Сусвету.
21.15. "Сінема" прадстаўляе.
21.20. "Жанчына Месяца". Мастацкі фільм (Італія).
22.55. Камп'ютэрны палігон. Аналітыка, графіка, мастацтва.
23.10. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. КІМ (Віцебск) — "Тарпеда" (Мінск). 2-і тайм.
0.00. Рок-айленд-шоу.

### Канал "Астанкіна"

7.15. Алімпійская раніца.
7.50. Спортлато.
8.00. Марафон-15.
8.30. Раным-рана.
9.00. Палігон.
9.30. Пакуль усе дома.
10.00. Хрустальны чаравічак.
10.50. Экстра-НЛА.
11.15. "Шырэй круг!"
12.45. Шпаргалка з падарункам.
13.00. "Падводная адысея каманды Кусто". Дакументальны серыял.
13.50, 17.05, 22.50, 23.50. Навіны.
14.10. "Стратэгія Перамогі". Дакументальны серыял. Фільм 1-ы "Грознае лета".
15.20. Жывое дрэва рамёстваў.
15.25. Клуб падарожнікаў.
16.15. Амерыка з М.Таратутам.
16.45. Тэлелоцыя.
17.15. "Баскетбольная ліхаманка", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды". Мультфільмы.
18.15. Надвор'е.
18.20. "Ступень да Парнаса". Афіша фестывалю.
18.40. "Таксіст". Мастацкі фільм (Італія).
21.00. Нядзеля.
21.50. Спартыўны уік-энд.
22.05. Праменад у Марыінскім.
23.05. Футбол. Чэмпіянат Расіі. "Тарпеда" (Масква) — "Ротар" (Валгаград). 2-і тайм.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.25. Настаўнік Сургута.
8.25. Студыя "Рост".
8.55. Сусветная вёска. "Кіжскія званы".
9.20. Добрай раніцы, Еўропа.
9.50. Аты-баты...
10.20. Кіпрас Мажэйка. Рэпартажы з "Малой Еўропы".
10.50. Кінафестываль "Дзень Перамогі". "Жывыя і мёртвыя". Маст. фільм. 1-я серыя.
12.40. Шэсць сотак.
13.20. Не высечы...
13.35. "Жывыя і мёртвыя". 2-я серыя.
15.15. Тэлеконкурс юрыстаў.
16.00. У свеце жывёл.
17.00. Чароўны свет Дыснея. "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч".
17.55. Ю.Дамброўскі. "Ручка, ножка, агурочак..." Прэм'ера тэлеспектакля.
18.40. Кліп-антракт. І.Алеграва.
18.45. Свята кожны дзень.
19.25. "Чырвонае сонца". Мастацкі фільм (Францыя).
21.25. У Ксюшы.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Каробка перадач.
22.50. Цішыня N 9.

### Санкт-Пецярбург

9.00. "Гаючае слова". Праграма-набажэнства.
9.35. "Клемянціна". Мультфільм.
10.05. Экспрэс-кіно.
10.20. Свярдлоўск. Будні і святы.
11.00. Нядзельны лабірынт.
12.30. "Песня, з якой мы раслі". Фільм-канцэрт.
13.15. "Буронка". Мультфільм.
13.35. "Факір з 4-га "В". Кароткаметражны фільм.
14.05. Казка за казкай.
14.40. Тэлеклуб "Класіка".
16.00. Чэмпіянат Італіі па футболу. Прамая трансляцыя.
17.50. Залаты ключ.
18.05. Сустрэнемся ля "Пяці вуглоў".
18.50. "Мікола Пусен". Тэлевізійны фільм.
19.30. Інформ ТБ.
19.55. "Забойства на Жданаўскай". Мастацкі фільм.
21.25. Ваш стыль.
21.35. Адамаў яблык.
22.35. "Сяло Сцяпанчыкава і яго жыхары". Мастацкі фільм. 2-я серыя.

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ПУХНАТЫ КАМЯЧОК ЦЯПЛА...



Культура чалавека, народа вызначаецца не толькі тым, як ён ставіцца да сваёй мовы, гісторыі і традыцый, але і тым, ці шануе Прыроду. Апошнім часам мы толькі бралі ад прыроды, нічога не даючы ўзамен. Збяднелі нашыя лясы і глеба, забрудзіліся рэкі і азёры. У гарадах з'явілася шмат нікому непатрэбных хатніх жывёлін. У моду пачалі ўваходзіць скураныя курткі, манто і шапкі з натуральнага футра... У той жа час на Захадзе ўжо адмаўляюцца ад гэткіх "дароў" прыроды...

Аматары і абаронцы жывёл там сталі магутнай сілай. Яны змянілі стаўленне грамадскасці да вырабаў са скуры і футра. Зараз у модзе экалагічны стыль: паліто са штучнага футра, якія, дарэчы, каштуюць даражэй за мадэлі з натуральнага. Нядаўна вядомая кіназорка Брыжыт Бардо, якая прысвяціла сябе абароне жывёл, звярнулася да не менш вядомай знакамітасці Сафі Ларэн і заклікала яе адмовіцца ад рэкламы вырабаў з натуральнага футра. І знайшла падтрымку грамадскіх арганізацый.

У нас пакуль рух аматараў прыроды не такі магутны. Ён знаходзіцца ў стадыі станаўлення. Многія аматарскія клубы больш цікавіць камерцыя. Некаторыя, што недарэчна і смешна, "прыляпілі" да яе старую ідэалогію і палітыку. Але ж тыя, хто не падпаў пад кан'юнктуру, працягваюць рабіць добрую і карысную справу. Як, напрыклад, адно са старэйшых на Беларусі аматарскіх аб'яднанняў — "Кацяня", якое некаторыя асобы, што нядаўна аселі ў Беларусі, але чамусьці дазваляюць сабе не паважаць культуру народа, паспрабавалі, "абвінаваціўшы" ў шанаванні беларускай мовы і традыцый, ні больш і ні менш, — разбурыць. Але ж "Кацяня" працягвае існаваць, годна несці сваю назву. Пра справы, дзейнасць клуба расказвае яго арганізатар Таццяна ЛАПАЦІНА — старшыня Нацыянальнай беларускай феліналагічнай асацыяцыі "Кацяня", дырэктар НПП "Заалюкс", кандыдат біялагічных навук, член таварыства генэтыкаў і селекцыянераў.

Аматары прыроды,тыя, хто любіць жывёл, напэўна, чулі пра клуб "Кацяня". Мінчане хаця б раз былі на ягоных выстаўках.

... У 1988 годзе ўпершыню ў сталіцы прайшла дэманстрацыя гадаванцаў клуба. Тады аб'яднанне мела назву — Мінскі гарадскі клуб аматараў кошак "Кацяня", і яго заснавальнікам быў прафсаюз беларускай Акадэміі навук. Прыхільнікі прыгожых і грацыёзных звяркоў, якіх, дарэчы, англічане лічаць найпрыгажэйшымі жывёламі ў свеце, назапашвалі вопыт і ў красавіку 1989 года аб'ядналіся ў Беларускі клуб аматараў кошак. А ў кастрычніку 1992 года пасля перарэгістрацыі па новых правілах Міністэрства юстыцыі клуб пачаў называцца Беларускім феліналагічным цэнтрам "Кацяня".

Гэты цэнтр першым на Беларусі распачаў селекцыйную работу. Першым у былым СССР пачаў развядзенне пароды "балінэз", першым атрымаў прыгожую пароду "яванэз" рэдкаснай ліловай афарбоўкі, першым на Беларусі стаў разводзіць сіямскую (сучасную) і арыентальную пароды, "корніш-рэкса", першым завёз "мэйн-куна" з поўнай радаслоўнай. Клуб першым у рэспубліцы правёў выставу (сакавік 1991 года) з міжнародным судзействам — з удзелам спецыялістаў WCF (Міжнароднай феліналагічнай федэрацыі). Стаў актыўна развіваць беларускую феліналагічную тэрміналогію.

Трэба зазначыць, што такія аматарскія клубы на пустым месцы не з'яўляюцца. Патрэбныя, як мінімум, вопытныя кадры (фелінолагі), якія могуць вырасці толькі ў нетрах падобнага фармавання. Ад "Кацяняці", які з'яўляецца піянерам у сваёй справе, пачалі ўтварацца новыя аб'яднанні. Гэта, як сведчыць паўсюдная практыка, непазбежны працэс. У непрацоўны час чалавек імкнецца абраць аднадумцаў, з якімі падзяляе погляды і псіхалагічна сумяшчальны.

Калі прасачыць гісторыю развіцця такіх самых грамадскіх арганізацый, напрыклад, у Маскве, дзе феліналагічны рух распачаўся раней, то можна назіраць, як пасля арганізацыі першага клуба "Фауна", літаральна за лічаныя гады ў горадзе стварылася незлічоная колькасць аматарскіх утварэнняў. Масквічы даўно згубілі іх лік. Памятаюць толькі, што два гады таму ў іх было дваццаць феліналагічных клубаў.

Што характэрна для старэйшага беларускага аматарскага аб'яднання "Кацяня" і чым яно адрознае ад іншых?

З самага пачатку і да сённяшняга дня яно прытрымліваецца пэўных прынцыпаў: раўнамернае развіццё ўсіх парадаў і адначасова — прыярытэт рэдкасным; высокія патрабаванні да жывёлін, што пачынаюць "кар'еру" без радаслоўнай; творчае стаўленне да селекцыйнай работы. Заводчыкам з'яўляецца кіраўнік секцыі.

Пасля рэарганізацыі ў "Кацяняці" засталіся найбольш вопытныя, як кажуць, са стажам уладальнікі жывёл рэдкіх парод і афарбовак, якія шануюць традыцыі свайго клуба. Зараз аматары наладжваюць справу па прыкладу старых заходніх феліналагічных клубаў. Гэтаму садзейнічае і тое, што кіраўніцтвам здадзены экзамены па правілах WCF.

Зараз НБФА "Кацяня" імкнецца зрабіцца асацыяцыяй буйных гадавальнікаў, на чале якіх стаяць вопытныя заводчыкі, што цалкам адпавядаюць англійскаму слову "Breeder", гэта значыць "селекцыянер, які вылучае і адказвае за пароду". Можа, чалавеку, далёкаму ад аматарства, які не вельмі цікавіцца праблемамі аховы прыроды, падасца дзіўным, што феліналогія патрабуе глыбокіх спецыяльных ведаў. Але ж да любой справы, калі яе весці на належным узроўні, неабходна сур'ёзна і адказна ставіцца. Таму "Кацяня" ставіць за мэту рыхтаваць добрых спецыялістаў. Дзеля гэтага наладжвае курсы фелінолагаў-заводчыкаў, практычныя заняткі. Таму, хто не мае дастаткова часу, прадастаўляецца магчымасць увайсці ў калектыўны гадавальнік, які ўзначальвае вопытны фелінолаг.

Распавядаючы пра старэйшы беларускі клуб аматараў прыроды, напэўна, да месца было б закрануць адзін філалагічны аспект. Слова "парода" на ангельскай мове — "breed", заводчык —"breeder". Ёсць старабеларуская назва пароды — "завод" (гл. слоўнік Ластоўскага), якая вельмі добра суадносіцца са словам "заводчык", складаючы адэкватную паралель ангельскім адпаведнікам, і тлумачыць паходжанне тэрміна "заводчык" у расейскай мове. Слова "разводить" або "заводить" для гэтага не падыходзіць, бо заводзіць альбо разводзіць можна і беспародных жывёл. Гэты філалагічны экскурс вяртае нас да зыходнага, высокага сэнсу слова "заводчык" — "кіраўнік пароды", "селекцыянер". Зараз уладальнік народзістай кошкі часцей за ўсё такім не з'яўляецца. Адказнасць за племянны матэрыял нясе клуб.

"Кацяня" мае прыхільнікаў не толькі ў сталіцы, але і ў Брэсце, Гродне, Віцебску, Магілёве, Баранавічах, Валожыне, нават за межамі Беларусі — у Смаленску і Калінінградзе. Усведамляючы адказнасць, якая ляжыць на нацыянальнай арганізацыі, клуб усю дакументацыю вядзе выключна на беларускай мове. Вось чаму яго нават абвінавачваюць у "нацыяналізме", што яшчэ раз сведчыць, наколькі моцна супраціўляюцца беларусізацыі людзі, якім першым трэба было б вывучыць мову карэннага насельніцтва... Усё афармленне папер выканана з прыцягненнем лепшых дызайнераў. Племянныя жывёлы атрымліваюць элітныя дакументы, — на бланках пазначана — "экстра-Кацяня". У нас пакуль яшчэ папулярнасцю большасці насельніцтва карыстаюцца "персы". Прэстыжна мець пухнатую істоту — гэты жывы камячок цяпла, і людзі не шкадуюць на яе вялікіх грошай. У іншых краінах гэткі бум даўно прайшоў. Там высока цэняць рэдкія, экзатычныя пароды, караткашэрсных жывёлін. Побач з элітным развядзеннем рэдкіх народаў клуб займаецца эксперыментальнай работай, кіруючыся мэтай стварэння ўласных рэдкіх парод.

"Кацяня" заўсёды рады наведвальнікам яго выстаў, кожнаму новаму сябру, які любіць прыгожых, ласкавых і пяшчотных нашых спадарожнікаў — "братоў нашых меншых".

**Н.Б.**

## СЯРОД УСІХ МАСТАЦТВАЎ

* * *

Цудоўная Шаран Стоун, выканальніца галоўнай ролі ў стужцы "Асноўны інстынкт", надта здзівіла Сільвестра Сталонэ. Яны абодва здымаліся ў новым фільме "Спецыяліст". Гэтая карціна багата на любоўныя сцэны. Пасля здымак чарговага эпізоду, які прызначаўся для гледачоў, якім болей за 16 гадоў, "Рэмба" заявіў, што зусім не лічыць Стоун прыгожай. "Калі я глядзеў "Асноўны інстынкт", я зайздросціў Майклу Дугласу, — сказаў ён. — Але, як высветлілася, разам з Шаран можна правесці пару гадзін, не болей. А потым пачынаецца сапраўдная пакута".

Пакута, як заўважылі журналісты, якая шмат каму была па душы.

* * *

Экс-зорка Галівуда, 37-гадовы Мікі Рурк на асабістым прыкладзе даказаў, што спалучэнне алкаголю, наркотыкаў і маніі вялікасці можа быць мацней таленту і мацней чалавека. Зусім нядаўна ён быў адным з самых папулярных кінаакцёраў. Пасля "9 1/2 тыдняў" па ім сохлі мільёны жанчын. І вось цяпер, падобна, на мяжы вар'яцтва знаходзіцца сам М.Рурк. У прыёмным аддзяленні нервовых хвароб Лос-Анджэлеса ён прабыў у закрытай псіхіятрыі 29 гадзін, пасля гэтага зрабіў заяву аб сваім намеры развітацца з жыццём. Але гэта яшчэ не ўсё. Як толькі акцёр выйшаў з бальніцы, ён жорстка пабіў сваю жонку і трапіў за краты.

Да таго ж, Рурк у гэты момант — поўны банкрот. Ён лёгка прамантаў каля 20 мільёнаў даляраў сваіх ганарараў (як прыйшлі...), ягоная віла закладзена, нават прададзены знакамітыя матацыклы. Як кажуць, ні кала, ні двара. Хаця Галівуд і не гэтакае бачыў.

## ОХ, І ЦЯЖКА ЖЫВЕЦЦА "ТАМ, ЗА БУГРОМ"...

Французскія кіназоркі часам ганьбяць лёс. І гэта зразумела, калі прымяркоўваць свой талент да галівудскіх заробкаў. Да прыкладу, Жэрар Дэпардзье атрымлівае за фільм якія-небудзь 2 —3 мільёны даляраў. Відаць, таму ў перапынках паміж здымкамі ён вымушаны займацца вінаграднікамі і вытворчасцю віна.

Крыху горш ідуць справы ў Жан-Поля Бельмандо. Яму, як-ніяк, ужо 61 год. І за стужку "Невядомы ў доме" ён атрымаў усяго паўтара мільёны даляраў. Здаецца, з нагоды надыходзячай старасці, Бельмандо купіў вядомы парыжскі тэатр "Вар'етэ", дзе з поспехам ідуць камедыі, у якіх іграюць яго сябры.

Працэнтаў на 10 меней атрымаў 59-гадовы Ален Дэлон за цяжкую ролю Казановы. А вось за неўміручую прыгажосць Катрын Дэнёў сапраўды крыўдна. У 51 год яна вымушана пагадзіцца на здымкі ўсяго за паўмільёна даляраў. Калі А.Дэлон набывае карціны і скульптуры, якія пазней збывае на аўкцыёне, то К.Дэнёў проста застаецца жанчынай і актрысай.

Зразумела, што гэтыя лічбы могуць падацца пенсіяй у параўнанні з заробкамі калег па другі бок Атлантыкі. Па дадзеных французскай прэсы, абсалютным чэмпіёнам ва ўсіх катэгорыях з'яўляецца Арнольд Шварцэнэгер, якому за апошні фільм "Праўдзівая хлусня" заплацілі 15 мільёнаў. Ганарар у памеры ад 10 да 15 мільёнаў за ролю атрымліваюць Том Круз, Кэвін Костнэр, Робэрт Рэдфард, Гарысан Форд, Сільвестэр Сталонэ, Майкл Дуглас і Мел Гібсан.

Крыху ніжэй стаўкі ў жанчын. Джулія Робэртс, паведамляе газета "Фігаро", атрымала за карціну "Справа Пелікана" 8 мільёнаў даляраў. Яшчэ меней атрымліваюць Хупі Голберг, Мішэль Пфайфер і Джудзі Фостэр. Але і галівудскім зоркам ніхто не забараняе займацца бізнесам. Што яны з вялікім поспехам і робяць. Напрыклад, Элізабэт Тэйлар, якая ўжо 10 год не здымаецца ў кіно, працягвае нарошчваць сваё багацце дзякуючы рэкламе парфумы.

Неяк наводдаль стаяць сярод галівудскага сузор'я Пол Ньюмэн і яго жонка Джоан Вудвард. Яны валодаюць некалькімі фабрыкамі, якія, у прыватнасці, вырабляюць усялякія соусы і іншую прыправу. Прыбытак за дзесяць гадоў (а гэта 10 мільёнаў даляраў) Ньюмэн і Вудвард аддалі на дабрачынныя мэты. І гэта лішні доказ, што свет не без добрых людзей.

Цікава, што ніхто з іх не вучыўся па сістэме Станіслаўскага.

**Па матэрыялах замежнага друку.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.